# Нясвіжскія каеты

*Гісторыя…*
*Яна шануе кожную асобу,*
*І кожны штрых, і летапіс, і дату...*
*Кастусь Жук, Затур'я.*



***Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс. Другі год выдання***

**№ 5 СТУДЗЕНЬ - ЧЭРВЕНЬ 2020 г.**

## *У НУМАРЫ:*




***Стар. 8. Хроніка***



***Стар. 7. Нясвіжскі гістарычны каляндар***



***Стар 9. Нясвіжскія юбіляры***

***Стар. 18. Студзёнкі і Адам Міцкевіч***



***Стар. 25. Таямніцы былой капліцы***

***Стар. 28. На паўднёвы захад ад Мінска***



***Стар. 42. Даніна памяці***

***Стар. 50. Запозненае прызнанне***



***Стар. 60. Пра Сымона Буднага***

***Стар. 62. 1794 год***

***Стар. 67. Да сустрэчы, сястра!***




**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Нясвіжчыны дасылаць іх на E-mail: kajety@list.ru**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**


**На правах электроннага рэсурса**

**Заснавальнік:**
**Нясвіжская раённая арганізацыя Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**kajety@list.ru**

**АДРАС САЙТА:**
**http//nslowa.by**
**http//pawet.net**
**http//kamunikat.org**
**http//belkiosk.by**

**9 друк. аркушаў**

**Часопіс падпісаны да друку 30.06.2020 г.**

# Эксперты патрабуюць аднавіць зруйнаваны гістарычны будынак у Нясвіжы

Спецыялісты ў галіне гісторыі і архітэктуры накіравалі лісты ў Міністэрства замежных спраў Беларусі, Нацыянальную камісію ў справах UNESCO, Менскі аблвыканкам у сувязі з разбурэннем будынка ў буфернай зоне аб'екта Сусветнай спадчыны ў Нясвіжы.

Сярод аўтараў ліста археолаг, былы начальнік упраўлення аховы гістарычна-культурнай спадчыны Міністэрства культуры Ігар Чарняўскі, архітэктар-рэстаўратар, дырэктар навукова-праектнага цэнтра "Рэстабіліс" Вадзім Гліннік, мастацтвазнаўца, гісторык архітэктуры Сяргей Харэўскі, дырэктар фонду "Культурная спадчына і сучаснасць" Ала Сташкевіч, кандыдат юрыдычных навук, экс-намесніца дырэктара Нацыянальнага цэнтра прававой інфармацыі Марына Сатоліна.

**Што здарылася ў Нясвіжы**

На пачатку красавіка на вуліцы Ленінскай, 12 у Нясвіжы знеслі двухпавярховы мураваны будынак, датаваны канцом XIX стагоддзя.

Згодна з архіўнымі звесткамі, у пачатку 1900-х сюды засялілася габрэйская школа Тарбут. За савецкім часам у памяшканнях кватаравалі розныя дзяржаўныя ўстановы. Апошнім часам тут гаспадарыла раённая кааперацыя з прадуктовай крамай на першым паверсе.

Пазней будаўнікі спілавалі і ўсе дрэвы па перыметры. Адметна, што пашпарта аб'екта на месцы руйнавання няма.

Як адзначаюць аўтары ліста, падобнае здарэнне ў горадзе, які мае асаблівы статус у сувязі з наяўнасцю на яго тэрыторыі архітэктурна-культурнага комплексу рэзідэнцыі роду Радзівілаў, у 2005 годзе ўключанага ў Спіс сусветнай спадчыны, парушае не толькі нацыянальнае заканадаўства, а і міжнародныя абавязкі дзяржавы - удзельніцы Канвенцыі UNESCO аб ахове ўсясветнай культурнай і прыроднай спадчыны.

"Асабліва трывожна, што падобныя заганныя з'явы ў надзвычай адметным месцы, якім з'яўляецца Нясвіж, маюць тэндэнцыю да паўтарэння, - падкрэсліваецца ў лісце. - Варта прыгадаць спрэчнае будаўніцтва гатэля на вуліцы Гейсіка і рэканструкцыю другога на вуліцы Беларускай, а таксама ўзвядзенне фантана на вуліцы Чкалава. Усе гэтыя навабуды сваімі аб'ёмна-вобразнымі асаблівасцямі разбураюць характар гістарычнага асяроддзя, пазбаўляючы яго адметнасці і прывабнасці".

У сувязі са зносам будынка № 12 па вуліцы Ленінскай адмыслоўцы звяртаюць увагу на канкрэтныя парушэнні заканадаўства.

**Што парушана пры зносе гістарычнага будынка**

Па-першае, аўтары ліста нагадваюць, што, згодна з намінацыйным дасье на аб'ект Сусветнай спадчыны "Архітэктурна-культурны комплекс рэзідэнцыі роду Радзівілаў", быў падрыхтаваны праект зонаў аховы гістарычна-культурных каштоўнасцяў Нясвіжа і зацверджаны пастановай Міністэрства культуры 28 кастрычніка 2004 года. Частка вуліцы Ленінскай, у тым ліку будынак №12, трапіла ў ахоўную зону "Стары горад".

Для гэтай тэрыторыі вызначаны шырокі пералік горадабудаўнічай актыўнасці: рэстаўрацыя і кансервацыя каштоўных фрагментаў архітэктурных і археалагічных аб'ектаў; дэмантаж дысгарманічнай забудовы 1960-1990-х; рэканструкцыя страчаных дамінантаў у іх гістарычных формах; добраўпарадкаванне тэрыторыі ў адпаведнасці з яе гістарычным характарам і некаторыя іншыя.

У той жа час у межах ахоўнай зоны забаронены любое будаўніцтва, якое разбурае гістарычны характар ахоўнай тэрыторыі, земляныя работы без кваліфікаванага археалагічнага нагляду і, што непасрэдным чынам тычыцца будынка на вуліцы Ленінскай, знос аб'ектаў гістарычнай забудовы, пабудаванай да сярэдзіны XX стагоддзя.

Па-другое, аўтары звяртаюць увагу на парушэнне буфернай зоны архітэктурна-культурнага комплексу.

Межы буфернай зоны аб'екта Сусветнай спадчыны - рэзідэнцыі роду Радзівілаў у Нясвіжы - супадаюць з межамі ахоўных зонаў "Палацава-паркавы ансамбаль" і "Стары горад". А значыць, любыя змены павінны быць ухваленыя Камітэтам сусветнай спадчыны паводле адпаведнай працэдуры.

Адмыслоўцы падкрэсліваюць, што грубае ігнараванне палажэнняў аб ахове гістарычна-культурнай спадчыны з'яўляецца сведчаннем прававога бязмежжа і адсутнасці разумення важнасці гісторыка-культурнай спадчыны ў дзяржаве, падрывае яе прэстыж на міжнародным узроўні. У 2010 годзе Нясвіж ужо наведвала місія ў складзе экспертаў UNESCO і ICOMOS, якія вывучалі стан палацава-паркавага ансамбля і захаванне касцёла Божага Цела пасля надзвычайнай будаўнічай актыўнасці.

**Чаго патрабуюць эксперты**

З улікам факту зносу гістарычнага будынка на вуліцы Ленінскай у Нясвіжы падпісанты звяртаюцца да ўладаў і патрабуюць:

1. Разгледзець пытанне аб адказнасці асобаў, вінаватых у акце вандалізму ў дачыненні да гістарычнага асяроддзя горада.

2. Правесці нараду з удзелам экспертнай супольнасці для выпрацоўкі захадаў належнага ўтрымання тэрыторыі буфернай зоны аб'екта Сусветнай спадчыны ў Нясвіжы.

3. Аднавіць дзейнасць Камісіі кіравання аб'ектам архітэктурна-культурнага комплексу рэзідэнцыі роду Радзівілаў і пры неабходнасьці ўнесці змены ў план кіравання аб'ектам Сусветнай спадчыны.

4. Забяспечыць аднаўленне знесенага будынка на вуліцы Ленінскай, 12 у адпаведнасці з нормамі Кодэкса аб культуры, якія тычацца аховы гістарычна-культурнай спадчыны і міжнароднай методыкі аховы культурнай спадчыны, прынятай Міжнароднай радай помнікаў і мясцін (ICOMOS).

***Ігар Карней.***
*Радыё Свабода.*

# "Нябачны" суслік: у Нясвіжскім раёне адмаўляюцца аддаваць рэдкіх грызуноў пад ахову

**Супергрызуны**

Летась АПБ знайшла восем апошніх калоній рабога сусліка, віду, уключанага ў нацыянальную Чырвоную кнігу. У пачатку гэтага года большую частку самай вялікай і важнай калоніі плошчай 80 га пад Нясвіжам узялі пад ахову. Але меншыя калоніі ў тым жа раёне агульнай плошчай каля 120 га засталіся без аховы, і ім пагражае разворванне.

Пры перадачы ахоўных дакументаў эксперты АПБ пазначалі межы тэрыторый, якія неабходна перадаць пад ахову, і адзначалі каардынаты цэнтру кожнай з іх. Начальнік раённай інспекцыі Мінпрыроды Юры Грынкевіч разам з прадстаўнікамі НАН Беларусі правяралі наяўнасць суслікаў менавіта па гэтых кропках, не дбаючы пра тое, каб агледзець усю тэрыторыю. Хаця ахоўваць трэба ўсю калонію, а не асобныя норкі: ёй патрэбна жыццёвая прастора, і ў ахоўнага ўчастка павінны быць выразныя межы накшталт дарогі, каб гэта не быў кавалак поля без арыентыраў.

Такім чынам, пры праверцы канкрэтных кропак у канцы сезона 2019 года, а потым 23 красавіка 2020 года ні суслікаў, ні норак яны не пабачылі, і таму склалі акты пра тое, што, маўляў, звяркоў там няма. Пры гэтым яны не парупіліся запрасіць і спытаць экспертаў, якія знайшлі тут суслікаў, нават мясцовага - Сяргея Шакалу, які мог бы паказаць ім і суслікаў, і іх норы.

24 красавіка 2020 года эксперты АПБ паказвалі "калоніі-невідзімкі" заолагу з НАН Беларусі, калі наткнуліся на трактар, які дыскаваў поле з суслікамі каля вёскі Затур'я. Глебу рыхтавалі для ўзворвання! Працы прыпынілі з надзеяй, што суслікі выжывуць. Спецыяліст НАН Беларусі паведаміў у інспекцыю аб інцыдэнце і аб тым, што суслікаў і іх спецыфічныя норы знайшлі на ўсіх "калоніях-невідзімках" і што тэрыторыі калоній нельга чапаць, нават пакуль на іх няма ахоўных пашпартоў. Суслікі выдатна суіснуюць з сенакосам ці выпасам, але пераворванне нясе ім смерць. Усе вядомыя калоніі існуюць на землях, якія не аралі 5-20 гадоў.

АПБ напісала ў Нясвіжскую інспекцыю тэрміновы ліст з просьбай прыняць захады па зацвярджэнні ахоўных пашпартоў на суслікаў, падрыхтаваных яшчэ летась, а пакуль прыняць меры па абароне гэтых калоній.

5 траўня 2020 года ў Нясвіжы адбылася нарада прысвечаная суслікам. У ёй удзельнічалі старшыня Нясвіжскага райвыканкама Аляксандр Ломскі, намеснік старшыні камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванні Менскага аблвыканкама Сяргей Прымачэнка, намеснік старшыні Менскага абласнога камітэта Мінпрыроды Аляксандр Дабрыцкі, эксперт АПБ Сяргей Шакала, вядучы навуковы супрацоўнік НАН Беларусі Рыгор Янута, дырэктары мясцовых сельгаспрадпрыемстваў Алег Вінаград і Аляксандр Каспер, а таксама дырэктар АПБ Аляксандр Вінчэўскі.

На сустрэчы адзначалася, што зямля, на якой пасяліліся рабыя суслікі, вельмі ўрадлівая. Аляксандр Ломскі выступіў з прапановай "перасяліць або адсяліць [суслікаў] для захавання калоніі ў іншыя прыдатныя для іх месцы пражывання", а Сяргей Прымачэнка прапанаваў вылучыць для гэтага пашы ў іншых раёнах Менскай вобласці.

Аляксандр Вінчэўскі, дырэктар АПБ, па выніках сустрэчы дадаў: "Мы будзем спрабаваць рабіць рассяленне ў іншыя раёны, трэба апрабаваць метады, пакуль ёсць здаровая вялікая калонія, але там, дзе яны пасяліліся, яны павінны заставацца жыць, бо яны выбралі гэтыя тэрыторыі."

Як гром сярод яснага неба быў ліст ад Нясвіжскай раённай інспекцыі Мінпрыроды, накіраваны ў АПБ 19 траўня, дзе сказана, што суслікаў яны бачылі толькі на самай вялікай калоніі, а "на астатніх месцах пражыванне сусліка рабога не ўстаноўлена, частка ўчасткаў увогуле непрыдатна для пражывання рабога сусліка (знаходзяцца пад ворыўнымі землямі)" - то бок проста таму, што калоніі знаходзяцца на тэрыторыях, якія хочуць узараць, гэтыя тэрыторыі палічылі для суслікаў непрыдатнымі.

У лісце інспекцыі гаворыцца: "Такім чынам, Нясвіжская інспекцыя прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя лічыць немагчымым здзяйсненне ў адносінах да ААТ "Юшавічы" ніякіх адміністрацыйных дзеянняў па факце дыскавання дадзенага ўчастка".

Але 20 траўня праверка калоніі суслікаў пад Затур'ёй паказала, што поле пераарана, а калонія знішчана!





***Ахова птушак Бацькаўшчыны.***

*Суслік. Фота Аляксандра Вінчэўскага.*

## Прызначаны новы дырэктар ААТ "Гарадзейскі цукровы камбінат", паведаміла прэс-служба канцэрна "Белдзяржхарчпрам"

Кіраўніком цукровага завода, размешчанага ў гарадскім пасёлку Гарадзея Нясвіжскага раёна Менскай вобласці, стаў Ігар Макар, які раней займаў пасаду першага намесніка старшыні Менаблвыканкама.

Яго кандыдатура была зацверджана на паседжанні наглядальнай рады ААТ "Гарадзейскі цукровы камбінат".

Больш за 20 гадоў прадпрыемства ўзначальваў Міхаіл Крыштаповіч, які ў студзені гэтага года быў затрыманы Камітэтам дзяржбяспекі разам з трыма іншымі дырэктарамі беларускіх цукровых заводаў. Іх вінавацяць у атрыманні хабараў у асоба буйным памеры.

Ігар Макар нарадзіўся ў 1960 годзе. У 1984 годзе скончыў Беларускі інстытут механізавання сельскай гаспадаркі па спецыяльнасці "Механізаванне сельскай гаспадаркі", у 2002 годзе - Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт па спецыяльнасці "Эканоміка і кіраванне на прадпрыемстве", у 2009 годзе - Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце па спецыяльнасці "Дзяржаўнае і мясцовае кіраванне". У 2006 годзе быў прызначаны старшынём Нясвіжскага райвыканкама, у 2010 годзе пераведзены на працу ў Магілёўскую вобласць - стаў старшынём Горыцкага райвыканкама. 22 траўня 2014 года быў прызначаны на пасаду першага намесніка старшыні Менскага абласнога выканаўчага камітэта.



Фота прэс-службы Менаблвыканкама.

# У Снове гарэла сядзіба Гартынгаў, пабудаваная ў XIX стагоддзі

У Снове (Нясвіжскі раён) увечары 6 чэрвеня гарэла сядзіба Гартынгаў, пабудаваная яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя.

"Дах быў увесь у дыме, адкрытага полымя не было, пяцёра пажарных выязджалі", - расказваюць відавочцы.

Дым людзі бачылі каля восьмай гадзіны вечара.

Прычыны ўзгарання невядомыя. Сядзіба стаіць закінутая, але мясцовыя кажуць, што там часам і дзеці гуляюць, і бяздомныя бываюць.

За савецкім часам у сядзібе знаходзілася кантора калгаса, пасля бальніца. Апошнім часам яна стаяла закінутая.



У 2014 годзе яе ўзяў у арэнду мінчук Іван Грудзько. Збіраўся адкрыць там гасцініцу, але праз фінансавыя цяжкасці планы давялося адкласці. Пра прычыны пажару мужчына не ведае, рамонту у гэтыя дні ў сядзібе не вялося. Але пацвярджае, што ў доме, верагодна, начаць бяздомныя.

"Можа, хто закурыў і заснуў. Мне з міліцыі тэлефанавалі, паведамілі пра пажар, але сказалі, што будынак амаль не пацярпеў. Як прыеду наступным разам, пазабіваю ўсё, бо ўсе дошкі адарваныя", - каментуе сітуацыю Іван Грудзько.

***Наталля Лубнеўская.***

*Фота Андрэя Дыбоўскага, "Глобус Беларусі".*

# НЯСВІЖСКІ ГІСТАРЫЧНЫ КАЛЯНДАР

## *студзень - чэрвень*




**4.02.1515 г.** (505 гадоў таму) - нарадзіўся Мікалай Радзівіл (Чорны). Канцлер ВКЛ з 1550 г. і ваявода Віленскі з 1551г. Праводзіў цвёрдую палітыку ўмацавання дзяржаўнага суверэнітэту ВКЛ.

**Каля 1530 года** (490 гадоў таму) - нарадзіўся беларускі гуманіст і першадрукар, філосаф, асветнік, рэлігійны рэфарматар Сымон Будны, які выдаў у Нясвіжы першыя друкаваныя (на тэрыторыі Беларусі) кнігі - "Катэхізіс" (1562 г.), "Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам" і іншыя.

**1530 год** (490 гадоў таму) - першыя сведчанні (судовыя дакументы) пра Гарадзею.

**1530 год** (490 гадоў таму) - першыя пісьмовыя згадкі пра маёнтак Астроўкі.

**1560 год** (460 гадоў таму) - першыя дакументальныя сведчанні пра Баяры і Ужанку.



*Міхась Сяўрук*

**1740 год** (280 гадоў таму) - у Нясвіжы закладзена мануфактура шаўковых паясоў (пазней пераведзена ў Слуцк).

**1740 год** (280 гадоў таму) - заснаваны прыдворны тэатр князёў Радзівілаў (дзейнічаў да 1791 года).

**1795 год** (225 гадоў таму ) - у Нясвіжы пачала дзейнічаць паштовая станцыя.

**1875 год** (145 гадоў таму) - у Нясвіжы распачала дзейнасць настаўніцкая семінарыя. Сярод яе знакамітых навучэнцаў - Аляксандр Сержпутоўскі, Якуб Колас, Кузьма Чорны і інш.

**27.05.1900 г.** (120 гадоў таму) - у в. Макашы Нясвіжскага раёна нарадзіўся беларускі паэт Уладзімір Жылка.

**27.02.1905 г.** (115 гадоў таму) - нарадзіўся Міхась Сяўрук - мастак, вучань Ф. Рушчыца і Л. Сляндзінскага. У 1939 годзе пераехаў на сталае

жыхарства і творчасць у Нясвіж. Тут і пахаваны.

**27.05.1930 г.** - нарадзілася Станіслава Вятр-Партыка. Пасля вайны пераехала ў польскі горад Тарноў. Займалася грамадскай, асветніцкай, літаратурнай дзейнасцю, садзейнічала ўмацаванню сяброўскіх беларуска-польскіх сувязяў. Ушанавана шматлікімі дзяржаўнымі ўзнагародамі Польшчы. Ганаровая жыхарка Нясвіжа.

1935 год - нарадзіўся Міхась Валасевіч, самадзейны паэт з в. Еськавічы.

**15.01.1940 г.** (80 гадоў таму) - утвораны Нясвіжскі раён (у складзе Баранавіцкай вобласці).

1950 год (70 гадоў таму) - у Нясвіжы на аснове драматычнага гуртка створана тэатр (кіраўнікі - П.І. Садоўскі, І.П. Абаротаў, Г.І. Сарокіна, В.П. Мароз, Я.А. Валабоеў). Званне народнага прысвоена ў 1989 годзе, заслужанага - у 2008 годзе.



***Ланская школа***

**15.03.1985 г.** (35 гадоў таму) - адкрыты гісторыка-краязнаўчы музей у Ланскай сярэдняй школе. Першым кіраўніком музея быў дырэктар школы Генрых Пузіноўскі.

**14.01.1995 г.** (25 гадоў таму) - адкрыты Нясвіжскі гісторыка-краязнаўчы музей.

**15.04.2015 г.** (5 гадоў таму) - пакінуў зямны свет Аляксандр Надсан.

# Нясвіжскаму гістарычна-краязнаўчаму музею - 25 гадоў




**НЯСВІЖСКІ ГІСТАРЫЧНА-КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ**, рашэнне аб адкрыцці якога пры аддзеле культуры было прынята 30.10. 1989 г., афіцыйна быў адкрыты 14.01.1995 г. З 01.01.2005 г. музей рэарганізаваны і атрымаў сучасную назву, у яго склад ўвайшлі: музей, кватэра-музей мастака М.К. Сеўрука (1996), ганчарная майстэрня (2001) і музейны аб'ект "Кузня" (2006).



Асноўным кірункам з'яўляецца краязнаўчая дзейнасць, вывучэнне рамёстваў Нясвіжскага рэгёна. Экспазіцыя музея складаецца з 5 стацыянарных - "Зберагаючы самабытнасць" (2011), "Гандаль і рамёствы Нясвіжчыны" (2008), "Нясвіж. Старонкі легенд і гісторыі" (1998), "Вайна. Трагедыя. Подзвіг" (2005), "Выратаваныя каштоўнасці" (1999) - і 2 выставачных залаў, у якіх штогод адкрываецца больш за 15 выстаў рознай тэматыкі (мастацкія, патрыятычныя, з пасольстваў розных краін).



Экспазіцыі багата напоўнены:

**1. Беларуская вёска канца XIX - пачатку XX стагоддзяў.** Прадстаўлены калекцыі ткацтва, ганчарства, дрэваапрацоўкі і лозапляцення, фрагменты сялянскай хаты, посуд, прадметы побыту, рэгіянальны капыльска-клецкі народны касцюм, прыстасаванні для апрацоўкі лёну, ткацкі станок, земляробчыя прылады працы, карта Нясвіжскага раёна першай чвэрці

XX стагоддзя.

**2. Гандаль і рамёствы Нясвіжа.** Прадстаўлены калекцыі посуду, археалогіі, ганчарства, кузнечества, экспазіцыя ўяўляе Ратушная плошча Нясвіжа канца XIX - 30-х горад XX стагоддзя - "Ратушная плошча ў дакументах", "Майстэрня шаўца", "Сельтарская будка", "Крама ганчара", "Крама медніка", "Мануфактурнай крама ".

**3. Нясвіж. Старонкі легенд і гісторыі.** Прадстаўлены калекцыі “Археалогія”, “Посуд”, “Адзенне”, “Дрэваапрацоўка”, “Фотадакументы”. Экспазіцыя складаецца з некалькіх раздзелаў - "Горад-легенда", "Галерэя гістарычных падзей і легендарных асоб", "Нясвіжская спадчына", "Замалёўкі нясвіжскага побыту", якія адлюстроўваюць гістарычныя этапы развіцця Нясвіжа.

**4. Вайна. Трагедыя. Подзвіг.** Прадстаўлены калекцыі дакументаў, фотадакументаў, вайсковай амуніцыі, нумізматыкі, якія адлюстроўваюць ваенныя канфлікты XX стагоддзя, у экспазіцыі прадстаўлены фотаматэрыялы аб удзельніках Першай і Другой сусветных войнаў, партызанскім руху, экспануюцца асабістыя рэчы франтавікоў, нямецкага салдата, лісты з фронту, узнагароды, матэрыялы аб воінах-інтэрнацыяналістаў.

**5. Стацыянарная выстаўка "Выратаваныя каштоўнасці".** Экспануюцца абразы, складаныя, настольныя крыжы XIX - пачатку XX стагоддзя, перададзеныя ў музей з Берасцейскай і Гарадзенскай мытні.

**6. Кватэра-музей М.К. Сеўрука.** Прадстаўлена персанальная калекцыя М.К. Сеўрука, адкрытая ў Нясвіжы па вул. Садовая, 38 у кватэры мастака-рэаліста Міхаіла Канстанцінавіча Сеўрука (1905-1979). Прадстаўлены жывапіс, графіка, асабістыя рэчы мастака. Калекцыя налічвае 1107 адзінак захоўвання.

**7. Музей "Кузня".** Прадстаўлены знешні і ўнутраны выгляд кузні, інструментаў і прылад працы, адлюстраваны працэс кавальскай справы канца XIX - пачатку XX стагоддзяў.

У 2011 г. музей наведалі 9795 чалавек. Музейны фонд на 01.01.2012 г. налічваў 10209 адзінак, размеркаваных паміж 18 калекцыямі, найбольш значныя з іх - "Жывапіс і графіка", "Фотадакументы", "Дакументы", "Посуд", персанальная калекцыя мастака М.К. Сеўрука (1118 адзінак.). Найбольш каштоўнымі прадметамі з'яўляюцца: куфель (т.зв. "Талеравы кубак", серабро, Кёнігсберг, 1720 - 1757 гг.), літургічная кніга памінальнай месы лацінскай традыцыі - Рэквіем нясвіжскага (?) бернардзінскага кляштара, змяшчае песнапенні XVI - XVII стст. са старажытнай натацыяй (Вільня, 1841 г.), клад (шкляны, фарфоравы і металічны посуд - 141 прадмет), знойдзены ў падвале касцёла кляштара бенедыкцінак у Нясвіжы ў 1989 г. (Польшча (?), канец XIX - пачатак XX ст.).



*Кватэра-музей М.К. Сеўрука*



*Музей "Кузня"*

Крыніца: Першы нацыянальны форум "Музеі Беларусі". Каталог музеяў. Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, 2012 г.

# ЖЫЛКАВА ВЯСНА

## *120 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Жылкі*

27 траўня - 120 гадоў ад дня нараджэння паэта Уладзіміра Жылкі. Ураджэнец Макашоў, ён пражыў на Нясвіжчыне чатырнаццаць ранніх гадоў. А гэта нямала, амаль палова кароткага жыцця - час станаўлення асобы, фарміравання эстэтычнага густу, подступы да літаратурнай творчасці. Макашоўскія ваколіцы, берагі наўздзіў маляўнічай тут Ушы, родныя паэта, кнігі, якія заўзята чытаў, выхоўвалі песняра красы, чалавека, які насуперак "неспрыяльнаму злому ветру" спавядаў прыгажосць як выратавальную сілу той злавеснай эпохі.

Гэты свет ён пакінуў у няпоўныя 33, у першы дзень вясны, у ссылцы, далёка ад Беларусі, у заволжскім горадзе Уржуме.

Сярод значных літаратурных асоб, якіх дала Беларусі Нясвіжчына, забытае на дзесяцігоддзі і вернутае дзесь пад стагадовы юбілей імя Уладзіміра Жылкі, вартае самага пачэснага стаўлення. Сённяшнія даследчыкі здабыткаў беларускай літаратуры з вышыні нашых дзён выказваюць цалкам верагоднае: каб шчадрэйшы лёс ды іншыя гістарычныя абставіны выдаліся паэту, беларусы значна раней маглі б мець першага літаратурнага Нобеля.



*Уладзімір Жылка (1900-1933 гг.)*

### БЭЛЬКА З ДОМА ЖЫЛКІ

Хаце паэта болей за 120. На вуліцы, што вядзе сюды, на пагорак, ад Ушы і млына-вадзяка, яна пазначана нумарам 5. У 1900 годзе, калі нарадзіўся паэт, гэта была не прыватная ўласнасць Жылкаў, а службовае жыллё. Макашовец па прозвішчы Абрамовіч, што служыў у польскай жандармерыі ў Варшаве і меў у вёсцы дзве хаты, здаваў адну ў арэнду дзяржаве. Хата, як казалі ў народзе, была ў два канцы. У адным адкрылі манапольку, у другім жыў з сям'ёй сядзелец той манапольскі Адам Жылка. Ці не пра яе і напіша пазней паэт:

*Мне хата з нізкаю страхой*
*Была мілей за ўсе палацы*
*І над пакоямі пакой…*

Калі патрапляю сюды, заўсёды шукаю зачэпак мінулага, узіраюся ў страрадаўняе, ацалелае, не сцёртае часам, што памятае ціхмянага хлопчыка Валодзю, які любіў чытаць кніжкі і мала цікавіўся дзіцячымі гульнямі. Чатырнаццацігадовым, разам з сям'ёй ён назаўсёды пакіне свет свайго дзяцінства і падасца ў свет іншы - шырокі, ды суровы.

За сто гадоў неаднойчы змяняліся гаспадары гэтай хаты. І кожныя імкнуліся нешта перарабіцьперайначыць на свой густ і патрэбу. Вось і нядаўнія - працавітая і гаспадарлівая пара, Наталля і Уладзімір Савінавы - таксама паклапаціліся пра вонкавы і ўнутраны выгляд свайго жылля. З ахвотай і гонарам паказвалі сядзібу, двор, агарод, свае пераробкі, каб асучасніць і падмацаваць старую будову. А мне карцела паглядзець на адпаліраваную дотыкам рук старасвецкую клямку ў дзвярах, сцяну ў каморы ды… бэльку з сучком. Падаваўся той сучок вокам мінуўшчыны, вокам, што як некалі, так і цяпер, не міргаючы, глядзіць на кожнага, хто заходзіць сюды. Глядзіць ці то з цікаўнасцю, ці то са спадзяваннем, ці то з дакорам.

### СУЧАСНІК ПАЭТА

На рубяжы стагоддзяў падчас школьнай літаратурнай экспедыцыі ў Макашы я, дый мае вучні, падумвалі, а то і прамаўлялі, што Жылка, пры лепшых, больш спрыяльных абставінах, мог бы да-



*Сучаснік паэта Іван Абрамовіч. 1996 г.*

жыць да нашых дзён. Наводзіла на такія думкі-высновы знаёмства з сучаснікам паэта, карэнным макашоўцам Іванам Ільічом Абрамовічам (1902-2005 гг.), узрост якога падбіраўся тады пад сотню гадоў. Разважлівы дзядок, што жыў на ўскрайку вёскі, не быў асабліва гаваркім, але ў сваіх успамінах і сведчаннях імкнуўся быць гранічна праўдзівым, дакладным (мо таму, што ўпершыню наведалася да яго такая вялікая грамада, робіцца гукавы запіс). Іван Ільіч стаўся тады для нас сапраўдным адкрыццём. Малодшы за Уладзіміра Жылку толькі на два гады, ён у вучобе ішоў за ім: вучыўся спачатку ў царкоўна-прыходскай школе ў Гарадзеі, пасля, як і Жылка, у гарадскім вучылішчы ў Міры. Бацькі, як казаў, заўсёды ставілі яму Валодзю ў прыклад. Зрэдчас той дапамагаў яму ў вучобе.

Сем'і Жылкаў і Абрамовічаў сябравалі, збіраліся разам на святы. Бацька Івана быў хрышчоным бацькам Уладзіміра (хрысцілі яго ў Ішкальдзі; на той час старажытны храм быў праваслаўнай царквой). Нагодай для прыязных стасункаў паміж сем'ямі з'яўлялася тое, што роднай вёскай для маці Уладзіміра Жылкі і маці Івана Абрамовіча было недалёкае ад Макашоў Падлессе. З характарыстык Івана Ільіча, бацька паэта запомніўся яму вясёлым чалавекам, заўсёды рухавым, энергічным, гаваркім, а маці - вельмі прыгожай, далікатнага абыходжання жанчынай, з мяккім голасам. "Ці складаў Валодзя вершы? - задаваўся пытаннем Іван Ільіч. - Мо і складаў, але я пра тое не ведаў".

Пасля 1914 г. Іван Абрамовіч з Уладзімірам Жылкам больш не сустракаўся, толькі зрэдчас сякія-такія чуткі пра яго заляталі ў Макашы.

**РАМАНЕЙКІ**

***Макашэвіч.*** Такі псеўданім, з некальмі варыянтамі яго падачы, быў у Жылкі. У гэтым несумненны знак увагі паэта да той зямлі, дзе ён пабачыў свет, дзе *"ўчуў пад спелы жыта шум дзівосных сіл жывыя токі"*.

Але праз чатырнаццаць гадоў жыцця ў Макашах і пазней, калі захварэў, мела яго душа яшчэ адзін вабны куток-прытулак - Падлессе. Вёска непадалёк ад Макашоў (цяпер Стаўпецкі раён) - радзіма маці, Таццяны Ануфрыеўны з роду Раманейкаў. Праўда, Уладзімір Мікалаевіч Раманейка, пляменнік паэта, з якім мне давялося ў свой час сустракацца і гутарыць, удакладняў, што дзед Ануфры жыў не ў самой вёсцы, а на паўночны ўсход ад яе, на хутары.

Тут, у дзеда, любіў летаваць Уладзімір - слухаў быліцы *"аб даўнім і сівым, пра войны, панства, войтаў, русалак і начніц..."*, браў урокі сялянскага жыцця, вучыўся касіць, баранаваць, спазнаваў адвечную радасць працы на зямлі. Па словах Уладзіміра Мікалаевіча, знакаміты санет "Меч" мае хутарское "паходжанне". Бо сапраўды быў выпадак, калі Уладзімір выараў з зямлі рэшткі ці то старадаўняй шаблі, ці то мяча. Зразумела, што для хлопчыка-падлетка гэта было запамінальнае здарэнне. Пазней, у 1924 годзе, яно ўсплыве ў памяці і стане вобразнай асновай для напісання аднаго з самых вядомых і глыбока патрыятычных вершаў.

*...Я з грамадой іду па шчасце нам.*
*Мой меч зіхціць,*
*непераможны, востры,*
*Змагуся сам,*
*дык сотням перадам.*



*Уладзімір Раманейка на магіле дзеда Ануфрыя. 2005 г.*

Памёр дзед Ануфры ў 1926 годзе. Патрыярх роду Раманейкаў, чалавек, якога так любіў і шанаваў Уладзімір Жылка, пахаваны на гарадзейскіх могілках. Знакаміты ўнук толькі на 7 гадоў перажыў свайго дзеда. Абмінула паэта і апошняе чалавечае шчасце - быць пахаваным на роднай зямлі. Чужыя людзі паклалі яго ў чужы дол.

Дачка паэта Наталля Лазарава да апошніх дзён не губляла стасункаў з нашчадкамі роду Раманейкаў, разам з дзядзькам Барысам збірала па сціплых людскіх успамінах бацькаў лёс, пісала лісты ў Гарадзею, дасылала кнігі паэзіі. Сяброўскія стасункі мела з Маргарытай Рулёвай, пляменніцай бацькі. Звязвала гэтых жанчын не толькі блізкае сваяцтва, але і прафесійнае вызначэнне - настаўніцтва. Тут, у Гарадзеі, дасёння захоўваюцца паштоўкі і лісты ад Наталлі Лазаравай, фотаздымкі з сямейнага архіва. Захоўваю і я для будучага музея зборнік Жылкі, які ў 1985 годзе даслала яна Уладзіміру Раманейку з надпісам: *"Уладзіміру на памяць - вершы твайго дзядзькі У. Жылкі, які вельмі паважаў матчыну радню - Раманейкаў".*



*На памяць ад дачкі паэта*

**100 ДУБОЎ ДЛЯ ЖЫЛКІ**

Не задалася юбілейная вясна Жылкі. Нялюдскія хваробы-навалы як праз жыццё паэта, так і сёлета перашкаджаюць, не даюць магчымасці сабрацца шырокім беларускім светам, каб ушанаваць нацыянальна-адраджэнцкую паэзію і ўзорны еўрапейскі талент нашага земляка.

Як прадчуваючы гэта, яшчэ мінулай вясной зацікаўленая грамадскасць Нясвіжчыны зладзіла акцыю "100 дубоў для Жылкі". Спачатку ў Гарадзеі, на беразе Ушы, а праз некалькі дзён у Макашах саджалі дужыя і даўгавечныя дрэвы, нібыта спраўджвалі тастамант макашоўскага шукальніка красы, пекнаты, хараства. З-за спякоты-сухмені не ўсе з тых маладых саджанцаў прыжыліся. Ды будзем верыць ў новыя свежыя вёсны, саджаць дрэвы, учытвацца ў Жылкавы палімпсесты, вандраваць па яго дарогах і, дай Бог, даедзем-дойдзем да яго далёкай магілы, а тут, у Нясвіжы ці Гарадзеі, пабачым вуліцу яго імя ды парупімся пра музейную экспазіцыю. Паэт зрабіў, што мог, цяпер - нам старацца.

І пастараліся. 27 траўня 2020 года акурат на 120-годдзе Уладзіміра Жылкі на гарадзейскім беразе Ушы за зонай адпачынку "Ціхая затока", дзе прыжываюцца, адольваючы сухмень, карэняцца ў скупаваты дол маладыя дубкі, пасаджаныя год таму



*"Пад гэтым небам, так каханым, я пастушком гуляў у бор…"* **(Гарадзея. "Камень Жылкі")**

падчас акцыі "100 дубоў для Жылкі", усталявалі на маляўнічым валуне памятную пліту. Яна нагадвае пра паэта-земляка, яго 120-гадовы юбілей ды тужлівую "лілею між балот" - улюбёны вобраз Жылкі.

Дзеля ўшанавання памяці паэта выдаткавалі свае ахвяраванні сябры раённай арганізацыі ТБМ, жыхары Гарадзеі і Нясвіжа. Добры і вельмі дарэчны ўнёсак у калектыўную справу зрабіла кіраўніцтва і прафкам Гарадзейскага цукровага камбіната.

Гарадзея - частка айкумены паэта: тут ён вучыўся, тут жылі і жывуць яго нашчадкі, на гарадзейскіх могілках займеў вечны спачын яго дзед Ануфры. Таму з'яўленне тут "Каменя Жылкі" вельмі натуральнае. Гэта будзе першы акцэнт у нясвіжскай мемарыялізацыі паэтавага імя і годны матыватар падарожнічаць далей, да яго Макашоў. Удзельнікі той святочнай сустрэчы так і зрабілі.

Як у Гарадзеі, так і ў Макашах чыталі вершы Жылкі, саджалі дубкі. Разважалі пра лёс паэта і яго паэзію, яшчэ да сёння цалкам не данесеную да нашчадкаў, землякоў, сённяшніх школьнікаў. Сяброўскія прамовы-развагі былі пераважна пра будучыню - пра перс-пектывы музея паэта і раённага Свята паэзіі ў Макашах, надання адной са школ ці бібліятэк імя Жылкі. Верылася, што ўсё так і будзе, абавязкова будзе! Залітыя шчодрым сонцам Макашы адгукаліся суладным птушыным шчэбетам ды згоднаківалі духмянымі галінкамі бэзу.

Год Жылкі працягваецца.

***Наталля Плакса**, Нясвіж.*



***"…І што набыў, усё, што маю,***
***Што душу цешыла маю, -***
***Ўсе скарбы, ўсе свае багацці***
***І песні ўсе - крывіцкай хаце."***
**(в. Макашы. Каля хаты У. Жылкі. Сярод удзельнікаў старшыня ТБМ Алена Анісім.)**



***Расказвае краязнавец Аляксандр Абрамовіч (в. Студзёнкі)***

# Міхась Сяўрук

## *115 гадоў з дня нараджэння*

Сёлета спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння таленавітага беларускага мастака Міхася Канстанцінавіча Сеўрука (1905-1979). Міхась Сяўрук - выхадзец са слаўннай пляяды мастакоў Заходняй Беларусі, яго працы захоўваюцца ў беларускіх і замежных музеях, а таксама ў прыватных зборах. Напрыклад, у Мемарыяльнай кватэры-музеі М.К. Сеўрука ў Нясвіжы знаходзіцца больш за тысячу яго карцін. У Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь захоўваюцца 68 твораў мастака, у тым ліку 12 маляўнічых, якія прадстаўляюць асноўныя этапы яго творчасці ад 1932 да 1973 года.

Міхась Сяўрук нарадзіўся 27 лютага 1905 года ў Варшаве, а ў 1919 годзе яго сям'я вярнулася ў родныя краі, у Нясвіж. Міхась Канстанцінавіч вучыўся ў Нясвіжскай гімназіі. Скончыўшы яе ў 1926 годзе, паступіў на мастацкі факультэт Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя і правучыўся там аж да 1932 года. Яго педагогамі ў вобласці пейзажнага жывапісу былі Фердынанд Рушчыц і Людамір Сляндзінскі, які выкладаў манументальны і фігуратыўны жывапіс, а таксама малюнак. Ад Рушчыца Сяўрук узяў жыццёвасць выяў, экспрэсіўнасць, яркія і сакавітыя колеры, манументалізм і лаканізм. Сляндзінскі ж прышчапіў маладому мастаку любоў да італьянскага рэнесансу з яго найвышэйшым мастацтвам кампазіцыі і дакладнасцю малюнка.

1930-я гады былі росквітам думкі, адважных ідэй і эксперыментаў у жыцці Міхася Сеўрука. У той жа час гэты перыяд стаў складаным этапам як для краіны, так і для яе жыхароў: па Рыжскай дамове 1921 года Заходняя Беларусь, уключаючы Вільню, адышла да Польшчы. Калі ў Вільні абвастрылася супрацьстаянне працоўных Заходняй Беларусі ўладам, многія прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі не засталіся абыякавыя да гэтых гістарычных падзей, сярод іх быў і Міхась Канстанцінавіч Сяўрук. Ён быў адным з арганізатараў Віленскага таварыства мастакоў, у якое ўваходзілі Пётр Сергіевич, Язэп Драздовіч, Язэп Горыд.

Міхась Сяўрук актыўна працаваў з выдавецтвамі, афармляў часопісы і кнігі на беларускай мове. У прыватнасці, ён аформіў першы зборнік вершаў Максіма Танка "На этапах", які выйшаў у 1936 годзе. На жаль, збонік праіснаваў зусім нядоўга, бо амаль адразу ўвесь тыраж быў знішчаны.



***Міхась Сяўрук. Аўтапартрэт. 1938. Са збору Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь***

Захаваліся толькі некаторыя рэдкія асобнікі. У 1938 годзе Сяўрук стварыў вокладку музычнага зборніка "Наша песня". Жыццё прымушала майстра брацца за любую працу. Некаторы час ён афармляў шыльды і вітрыны крам, рабіў размалёўкі ў інтэр'ерах касцёлаў, пісаў на замову партрэты.

З 1939 года пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР Сяўрук жыў у Нясвіжы, дзе доўгія гады працаваў настаўнікам малявання і чарчэння ў школе. З гэтым старадаўнім горадам мастак звязаў 40 гадоў свайго жыцця. У Нясвіжы ім былі напісаны такія творы, як "Стрыжка авечак" (1939), "Збор ураджаю" (1962), "Новая хата" (1968), "Дзяўчаты" (1968). Ва ўсіх названых карцінах адчуваецца самастойны, упэўнены погляд спелага майстра.

Паэтычная сувязь чалавека і пейзажу, адлюстраванне сялянскага побыту, працоўных будняў, малюнак народных тыпаў з'яўляюцца характэрнымі рысамі твораў Сяўрука. У яго малюнках адчуваецца імкненне да манументалізацыі і скульп-

турнасці формаў. Менавіта скульптура, па словах мастака, "дапамагала разуменню формы, уменню зрабіць яе больш рэльефнай і адчувальнай". Пра свой творчы метад майстар пісаў: *"У карцінах і гравюрах я мала карыстаюся натурай, толькі раблю на ёй праверку ўжо створанага. Натура - я пераканаўся ў гэтым - адразу ж прыбірае кампазіцыю, пачынаеш "астуджацца" да сваёй працы. Знікае прыгожая лінія, і атрымліваецца зусім не тое, што ты задумаў".*



***Стрыжка авечак. 1939. Са збору Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь***

Міхась Сяўрук працягнуў тую лінію беларускага мастацтва, якую вызначылі ўжо ў 1920-я гады такія вядомыя мастакі, як Міхась Філіповіч і Пётр Сергіевіч. Яны імкнуліся да абагуленасці формы, выбудоўваючы яе на простай збалансаванасці пластычных і каляровых мас, на ўмоўным спалучэнні стрыманых цёплых і халодных адценняў. Праз кампазіцыйны лаканізм і прастату матываў майстра напаўнялі творы глыбокім філасофскім зместам.



***Дзяўчаты. Са збору Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь***

Менавіта такія характарыстыкі ляжаць у аснове візітнай карткі творчасці Міхася Сеўрука - карціне "Жніво" 1937 года. У ёй выразна бачны аўтарскі почырк, індывідуальны погляд мастака на рэчаіснасць. У дадзенай кампазіцыі майстар надаў вялікую ўвагу пейзажу. Поле, неба, стагі - усё дыхае паэтычнасцю. У каларыце пераважаюць охрыстыя адценні, як знакі сонца і жыцці. У правай частцы - сонечныя прамяні заліваюць залатое поле і стагі. У левай - дужыя, моцныя дубы, у цені якіх ратуюцца ад спёкі працаўнікі. Рытм і дынаміка кампазіцыі створаны "кругавымі лініямі", якія перагукваюцца адна з адной - лініямі рук намаляваных працаўнікоў, узгоркаў, аблокаў. Галоўныя персанажы - маладая сялянская жанчына ў выяве мадонны, дзіця, стары - гэта выявы роднай Беларусі. Простыя будні Сяўрук паэтызуе, напаўняючы сакральным сэнсам. Яго таленту падуладна злучыць рэальны свет з марай, казкай, мроямі.

"Жніво" было напісана пасля заканчэння мастацкага факультэта Віленскага ўніверсітэта і некалькіх гадоў творчай практыкі. Упершыню твор прадстаўляўся на Усяпольскай выставе жывапісу, скульптуры і графікі ў Варшаве. Сёння "Жніво" з'яўляецца прыкладам нацыянальнай класікі. Гэта хрэстаматыйная праца знаходзіцца ў зборы Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь з 1980-га года.

Сваімі лепшымі творамі Міхась Сяўрук назаўжды ўвайшоў у гісторыю беларускага мастацтва. У іх паэтызацыя і рэальнасць злучаюцца разам і ствараюць сваю непаўторную беларускую песню…

*Аўтар тэксту - **Юлія Вячаславаўна Маспанава**, старэйшы навуковы супрацоўнік аддзела навукова-асветніцкай працы Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь.*

# Станіслава Вятр-Партыка

## *90 гадоў з дня нараджэння*

*Станіслава Вятр-Партыка нарадзілася 27 траўня 1930 года ў Нясвіжы. У гады Вялікай Айчыннай вайны знаходзілася ў ссылцы ў Казахстане. Праз шэсць гадоў пераехала жыць у Польшчу, у горад Тарноў. У пяцідзесятыя гады пасля заканчэння сярэдняй школы вучылася ў педагагічных інстытутах Кракава і Варшавы. Трыццаць гадоў працавала выкладчыцай рускай мовы і літаратуры ў сярэдніх школах горада Тарнова.*

*Пісаць вершы пачала рана. У Польшчы яе вершы спачатку друкаваліся у гарадскіх газетах, а пазней - у выданнях ваяводства і рэспубліканскіх СМІ.*

*Многія творы Станіславы Вятр-Партыкі прысвечаны саёй малой радзіме, любові да роднага Нясвіжа, некаторыя ўспаміны, звязаныя з Казахстанам.*

*Усё сваё пасляваеннае жыццё Станіслава Вятр-Партыка звязала з старажытным горадам Тарновам: займалася грамадскай дзейнасцю, вяла асветніцкую работу на радыё, арганізоўвала паездкі ў Беларусь, шматразова наведвала родны горад. Дзякуючы яе творчасці Нясвіж стаў прыцягальным для тарноўцаў і ўладаў горада. Менавіта таму ўлады Тарнова ў 2009 годзе выступілі з ініцыятывай падпісання дамовы аб супра-цоўніцтве паміж Тарноўскім раёнам і горадам Нясвіжам. У гэтым жа годзе дамова была падпісана.*

*За сваю дзейнасць Станіслава Вятр-Партыка была ўганаравана шматлікімі дыпломамі, прэміямі і дзяржаўнымі ўзнагародамі Польшчы.*



**Малітва**

Я павінна вярнуцца, мой Бог літасцівы,
Мне патрэбна, о Божа, пранесці свой крыж!
Там пакінутых спраў вельмі шмат, як на дзіва -
Ты, дазволь у каханы вярнуцца Нясвіж.
Мне адсюль праз Мялец, Белавежу і Пільзна,
Дзесь блакітную пацерку, каб адшукаць.
Каля Слуцкае Брамы шчасліваю трызнай
Будзе Ёська галодны рагалік чакаць.

Мне да пана Ананькі патрэбна забегчы
І да пані Крашэўскай часопіс аднесці.
У гамак пад каштанам на хвілю прылегчы
І аб мілай старонцы размову павесці.
Добры Божа, хацела б з'явіцца туды я,
Каб сабраць фотаздымкі ўроскід на доле,
Там пакінула скрыні ў камодзе пустыя
І самотных жукоў без надзеі на волю.

Паглядзець, "Жабка Эрдаль" як танчыць уранні,
Сцежкай, Ванду наведаць хаця б на хвілінку -
Неабходна ў Нясвіж… кветнічку на верандзе
Хоць прылашчыць лісточкі, галінкі, сцяблінкі.
Можа скача на конях, а можа йдзе пешшу
Князь таксама ў Нясвіж, на свой замак зірнуць.
А я, можа, застану штандары на вежы -
Гэтак час у мінулае крыху вярнуць?

Кажушок закапанскі амаль яшчэ новы
Назаўсёды застаўся нясвіжскаю казкай,
Не сагрэе мяне ўжо зімою пуховай -
Ціш малітвы лагодзіць мой сум шчодрай ласкай.
Добры Божа, ў Нясвіж мне дазволь на хвіліну -
Там пярсцёнак з бурштынам, гадзіннік і ... сон
Век стаіць прад вачыма жывая карціна,
Толькі сэрца з Нясвіжам пяе ва ўнісон.

*Пераклад Наталлі Бордак.*

29.10.2007 г.

# Знойдзены легендарны камень Міцкевіча

У вёсцы Студзёнкі на Нясвіжчыне адшукалі камень з надпісам Адама Міцкевіча, які быў апісаны ў гістарычных мемуарах. На камені выбіта **"Ewa raj utracila Tys go wskrzesila"**. Пра знаходку паведаміў краязнавец з Нясвіжчыны Аляксандр Абрамовіч:

- Выпадкова я ўбачыў, што ў тым склепе няма дзвярэй, і зайшоў. Гэты камень знайшоўся. Адам Міцкевіч пабываў у Студзёнках і ў альбоме гаспадыні Студзёнак зрабіў гэты надпіс. З нагоды таго, што тут пабываў Міцкевіч, гэты надпіс увекавечылі на гэтым помніку. Майстар зрабіў подпіс на камені, гэта ўсё залежала ад яго майстэрства, наколькі ён здолеў перадаць гэты подпіс з альбома? Трэба адмыслоўцаў падключыць.

***Беларускае Радыё Рацыя.***

# Студзёнкі і Адам Міцкевіч - невядомая дагэтуль повязь

Неспадзявана здарыліся дзве знаходкі. Першая. Юліта Нэйман натрапіла на ўспаміны ксяндза Ежы Каліноўскага (1859-1930) - зводнага брата пахаванага ў Студзёнках Віктара Каліноўскага. Wychwalajcie mezow slawnych. “Wspomnienie o swietym Rafale Kalinowskim” (https://issuu.com/wkb-krakow/docs/gil_wklad?fbclid=IwAR2kXC4fcM_Hu_ZzZl9X3Ud1e1_9Fj3rBgSOs0lMNvrUTTEBgzkmMFF-B8s)

Вось як узгадвае Студзёнкі Ежы Каліноўскі:

*Студзёнкі - цудоўная сядзіба,аднапавярховы дом, невялікі, але выгодны, прыгожа аздоблены, з хатняй капліцай. Тры гасцёўні ў рад: першая ад вітальні, сярэдняя і трэцяя ад саду з цалкам зашклёнай сцяной. Летам з яе адкрываўся від на рознакаляровыя кветкі, узімку - на белую роўнядзь. Заўжды ў той гасцёўні было светла, цёпла і прыемна. Капліца была з другога боку дома.*

*На захад ад дома распасцерліся дзве вялікія сажалкі, злучаныя між сабой рэчкай. Гэтыя сажалкі А. Міцкевіч апісаў у паэме "Пан Тадэуш" На поўдзень і на ўсход - вялікі прыгожы парк з рознымі мясцовымі дрэвамі: стогадовыя дубы, ліпы, лістоўніцы, хвоі, грабы і сціплыя, але так прыгожыя сваёй белай карой і срэбным лісцем бярозы, кусты бэзу, язвіну і руж, і ўсё гэта… на лужку з люстранымі шыбамі сажалак, з рэчкай, што ўецца як вуж па траве, з акуратна перакінутымі масткамі праз гэту рэчку, рабілі Студзёнкі малым зямным раем. Так азначыў Міцкевіч, які наведаў Студзёнкі і ў альбоме гаспадыні напісаў гэтыя словы:*

*" Ева рай страціла,*
*Ты ж яго, пані, стварыла".*
*("Ewa raj utracila,*
*Tys go, pani, stworzyla".)*

*Словы гэтыя пасля былі высечаны на камені, што да нядаўняга часу ляжаў за садам, пры дарозе на мясцовыя могілкі. На гэтых могілках у гатычнай капліцы пахавана Сафія Грушэцкая з Развадоўскіх, маці жонкі Віктара Каліноўскага, яе стрыечная сястра, вялікіх цнот хрысцянскіх нявеста, Яна Развадоўская і Віктар Каліноўскі.*

*Студзёнкі шмат год належалі князям Радзівілам, пасля ў пажыццёвай арэндзе генерала войска польскага Развадоўскага, які першы раз ажаніўся з удавой Мараўскай, сястрой князя Караля Радзівіла "Пане Каханку"(1734-1790), а ў другі раз з Вагроцкай, маці шасцярых дзяцей, з якіх адна пад імем Сафія за Аляксандрам Грушэцкім, і з таго шлюбу трое дзяцей; старэйшай была Марыя, жонка Віктара Каліноўскага. Студзёнкі пасля смерці генерала Развадоўскага былі ў арэндзе ў Грушэцкіх, пасля Каліноўскіх. Знаходзяцца ў Менскай губерні, у Наваградскім павеце.*

***АРКВ.АР 111, (Jerzy Kalinowski), Notes, s. 24-26.***

А неўзабаве здарылася і мая знаходка. У склепе Алены Станкевіч (дзявочае прозвішча Міхалік) знайшоўся ўмураваны ў сцяну камень з высечаным надпісам: **Ewa raj utracila,Tys go wskrzesila. Mickiewicz.** Склеп непадалёк ад былых панскіх могілак. Памер бачнай часткі каменя 85 на 64 см, умураваны ён перавернута. Адзінае адрознене - ***pani stworzyla (пані стварыла)***, як падае Ежы Каліноўскі і ***wskrzesila (ўваскрэсіла)***, як пазначана ў склепе. Падаецца, азначэнне ***"wskrzesila"*** больш дакладнае, болей паэтычнае і ўзнёслае. Ежы Каліноўскі мог крыху і не прыпомніць.

У паэме "Пан Тадэвуш", кніга восьмая "Наезд", ёсць такія радкі:







*У полі пачынаецца канцэрт вялікі*
*Вось строіць інструменты скончылі музыкі,*
*Азваўся тройчы драч у лузе, і тым часам*
*Яму уторыць стаў брыдун з балота басам,*
*А бакасы, угору вырваўшыся, ўюцца*
*І бэкаюць, як быццам аб бубенец б'юцца.*

*Ў фінал мушыных шумаў, гоман птушак, здалі*
*Ставы два хорам здвоеным вось заспявалі,*
*Нібы каўказскія чароўныя азёры,*
*Што ўдзень маўчаць, а ўноч вядуць перагаворы.*
*Адзін стаў, што быў ясны, з берагам пясчаным,*
*Блакітнымі грудзьмі даў тон усхваляваны,*
*Другі, што з дном быў цёмным*
*і абліччам мутным,*
*Яму адказваў крыкам жаласным, магутным.*
*У абодвух тых ставах спявалі жабы зважна,*
*То сола перарывіста, то ў хор працяжна.*
*Адзін фарцісіма пяе, другі сціхае,*
*Той быццам чымсь абураны, другі ўздыхае.*
*Так размаўлялі два ставы з сабой праз поле,*
*Як быццам арфы дзве чароўныя Эола.*

Цяпер у Студзёнках толькі адна сажалка (стаў) запоўнена вадой, другая перасохла. Рэчка, што злучала сажалкі, абмялела і ўяўляе ручай. Захаваліся некалькі стагодніх ясеняў і срабрыстых клёнаў. Верагодна, і купка бэзу з тых часоў, бо вельмі ўжо тоўстыя ствалы. Ад былой сядзібы няма і знаку.

Неўзабаве пасля знаходкі каменя Алег Грушэцкі апублікаваў артыкул "Рай Адама Міцкевіча пад Нясвіжам" https://novychas.by/.

***А. Абрамовіч.***

# Рай Адама Міцкевіча пад Нясвіжам

Студзёнкі - невялічкая вёска за 15 кіламетраў ад Нясвіжа. Але мала хто нават з даследчыкаў ведае, што яе апісаў у сваёй неўміручай паэме "Пан Тадэвуш" наш славуты зямляк Адам Міцкевіч. Больш таго - нядаўна адшукалі валун з надпісам, які Міцкевіч зрабіў у альбоме гаспадыні маёнтка, калі наведваў Студзёнкі і быў ад іх у захапленні.

Гэты малавядомы факт згаданы толькі ў аднаго з даследчыкаў, пры тым, што тое даследаванне не тычыцца наўпрост біяграфіі вялікага паэта. Аднак гісторыя вакол гэтай вёскі і яе ўладароў можа здацца настолькі цікавай, што можа стацца вартай асобнай кнігі ці гістарычнага рамана. Чаго варты толькі імёны яе ўладароў і асоб, з ёй звязаных, прадстаўнікоў заможных і шляхецкіх родаў - Радзівілы, Развадоўскія, Грушэцкія, Каліноўскія, Ваньковічы...

## З гісторыі вёскі. Ад Радзівілаў да Грушэцкіх

Першыя згадкі пра вёску адносяцца да 1558 года, калі Мікалай Глябовіч у прысутнасці Мікалая Радзівіла падараваў маёнтак Студзёнкі ў Наваградскім ваяводстве ВКЛ Якубу Красуцкаму (ці Я. Красоўскаму). У 1650 годзе яе купілі і самі Радзівілы, у пана Быкоўскага, і вёска становіцца часткай Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў. Пасля Другога падзелу Рэчы Паспалітай (1793) вёска знаходзіцца ў складзе Расійскай імперыі ў Нясвіжскім, а з 1796 - у Слуцкім павеце Менскай губерні.

Аўдавелая дачка Міхаіла Казіміра Рыбанькі, Тэафілія Канстанцыя Радзівіл (1738-1807), легендарная "рыцарская дзяўчына" і адна з самых радавітых і багатых нявест Вялікага Княства і Польшчы, у 1793 годзе бярэцца шлюбам з 24-х гадовым ротмістрам Янам Тадэвушам Развадоўскім (1769-1849; ротмістр кавалерыі літоўскіх войскаў, афіцэр Лістападаўскага паўстання 1830-1831, заснавальнік Баранавіч, генерал). Ёсць нават звесткі, што Тэафілія



*Тэафілія Радзівіл і Ян Развадоўскі*

Радзівіл была ў жаночай масонскай ложы "Ідэальнай вернасці" ў Вільні, куды ўваходзілі самыя радавітыя і захопленыя палітыкай дамы. Для маладога Развадоўскага шлюб са значна старэйшай за яго князёўнай быў, бясспрэчна, выгадным - па шлюбе ён робіцца ўладаром і арандатарам Студзёнак. У дакументах за 1805 год фальварак Студзёнкі Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў запісаны ў арэндзе Яна Развадойкі (Развадоўскага).

У 1807 годзе князёўна Тэафілія памірае. Яе пахавалі ў радзівілаўскім Нясвіжы. Праз некалькі гадоў Ян Развадоўскі бярэцца шлюбам з Марыяй Вангродскай. Ад шлюбу нарадзілася 7 дзяцей, сярод якіх былі Сафія (нар. к. 1809) і Канстанцін (1813-1885; генерал-лейтэнант, камендант Варшавы, атрымаў у 1872 г. тытул графа). 8 студзеня 1833 года ў Ішкалдскім Траецкім касцёле Сафія пабралася шлюбам з дваранінам Магілёўскай губерні паручнікам Андрэем (Анджэем) Грушэцкім (нар. к. 1805; у некаторых крыніцах ён памылкова запісаны, як Аляксандр), які потым становіцца новым гаспадаром маёнтка.

## Адам Міцкевіч у Студзёнках. Рай Міцкевіча

Маёнтак Студзёнкі ў тыя часы ўяўляў сабой прыгожы аднапавярховы прасторны асабняк, з цудоўным афармленнем і з хатняй капліцай. У рад ішлі тры гасцёўні: першая знаходзілася адразу побач з вітальняй, другая - пасярэдзіне, і трэцяя, якая мела цалкам шкляную сцяну, выходзіла на сад. Улетку з сядзібы адкрываўся раскошны від на пярэстыя кветкі на акуратных градках, узімку - на чароўную беласнежную роўнядзь.

У гасцёўні было заўсёды светла, цёпла і ўтульна. Капліца стаяла з іншага боку дома. На поўдзень і на ўсход ад дома раскінуўся велізарны парк, які быў закладзены яшчэ пры Радзівілах. У ім былі найлепшыя гатункі дрэў нашага краю: велічныя векавыя дубы, высокія ліпы, лістоўніцы, хвоі, грабы, плакучыя бярозы, кусты бэзу, язвіну і руж… Усё гэтае харраство цешыла вока на бяскрайнім прыгожым зялёным газоне з люстранымі шыбамі ставаў (сажалак), якія былі злучаныя паміж сабою звілістай рэчкай праз зялёнае поле, а праз рэчку былі кінутыя зграбныя масткі.

Усё гэта рабіла Студзёнкі малым зямным раем. Менавіта раем і назваў Адам Міцкевіч гэтыя мясціны, калі іх наведаў. Паэт быў у захапленні ад сядзібнага парка, і ў альбоме гаспадыні напісаў наступныя словы:

*"Ewa raj utracila,*
*Tyz go wskrzesila".*
*("Ева рай страціла,*
*Ты ж яго ўваскрэсіла").*

Гэтыя словы пазней былі высечаныя і на камені, які некалькі гадоў прастаяў у парку, за садам, на шляху да мясцовых магілак. Па іншых звестках запіс у альбоме казаў: "Ewa raj utracila, Tyz go, pani, stworzyla" ("Ева рай страціла, Ты ж яго, пані, стварыла"). У любым выпадку запіс на камені выглядае менавіта, як у першым варыянце. Нясвіжскі краязнавец Аляксандр Абрамовіч нядаўна адшукаў той камень. Ён быў умураваны ў сцяну склепа, які стаіць непадалёк ад былых панскіх магілак (на якіх у гатычнай капліцы была пахаваная і пані Сафія Грушэцкая з Развадоўскіх і яе сваякі). Памер бачнай часткі каменя 85х64 см.

Адзінае што - у крыніцах не прыводзіцца, у чыёй жа кнізе зрабіў запіс Адам Міцкевіч. Пра запіс згадвае польскі гісторык касцёла, доктар гуманітарных навук Ганарат Чэслаў Гіль у кнізе-даследаванні біяграфічным "Wychwalajcie meyow slawnych. Wspomnienie o swietym Rafale Kalinowskim" (Кракаў, 2014 г.). З яе можна зразумець, што запіс Міцкевіч зрабіў для Сафіі Грушэцкай. Але Сафія была прыкладна з 1809 года нараджэння. Вядома, што ў тыя мясціны, у маёнтак Туганавічы, паэт прыязджаў летам 1820 года да Марылі Верашчакі (яе маці была цёткай Ігната Дамейкі, а таксама траюраднай сястрой Тадэвуша Рэйтана і Тадэвуша Касцюшкі), разам з сябрам, філаматам Тамашам Занам (які спыняўся яшчэ і ў Ішкалдзі, што за 10 км ад Студзёнак). Па ваколіцах яны рабілі конныя шпацыры. Найбольш верагодна, што менавіта ў гэты перыяд Міцкевіч і наведаў Студзёнкі. Адсюль вынікае, што запіс ён зрабіў найверагодней у "гасцявой кнізе" Марыі Развадоўскай (1783-1845; народжаная Вангродская), якая і была фактычна той самай "гаспадыняй", а не Сафіі, яе дачкі. Хаця надпіс на камені, зразумела, быў выбіты значна пазней, можа і за часамі, калі гаспадыняй была ўжо Сафія Грушэцкая.



***Запіс з метрычнай кнігі касцёла ў Ішкалдзі пра шлюб Андрэя Грушэцкага і Сафіі Развадоўскай (скан зроблены Юлітай Нэйман)***

Праўда, на Сафію быццам указвае яшчэ іншы факт. У шлюбе з Андрэем Грушэцкім Сафія нарадзіла сына Уладзіслава (1833-1850), дачок Марыю (к. 1834-1900) і Цэліну (1835-1863). Пра тое, што Міцкевіч адведваў Студзёнкі ў часы дзяцінства Марыі Грушэцкай, Ганарат Гіль згадвае ў сваім артыкуле "Swiety Rafal Kalinowski - patriota" (час. "Wadoviana. Przeglad historyczno-kulturalny", № 2, 1998). Чаму гэтыя факты згадваюцца ў біяграфіі пра святога Рафала Каліноўскага, разгледзім ніжэй, а пакуль засяродзімся на Міцкевічы. Вядома, што паэму "Пан Тадэвуш" ён пісаў у 1832-1834 у Парыжы, дзе жыў у эміграцыі, у якую выправіўся ў 1829 годзе. Наведаць Студзёнкі ён мог толькі да ад'езду, бо з эміграцыі ўжо не вяртаўся. Вядома таксама, што яшчэ ў 1824 годзе Міцкевіч быў высланы ў выгнанне з Літвы. І тут мы бачым заўважныя храналагічныя нестыкоўкі. Апроч таго, месца нараджэння Марыі адзначана, як вёска Гута Магілёўскай губерні (верагодна Бялыніцкай парафіі). Тое, што яна народжаная ў 1834 годзе, вынікае з таго, што ў запісе з метрычнай кнігі касцёла ў Ішкалдзі пра шлюб Віктара і Марыі Грушэцкай, які адбыўся 8 верасня 1857 года, запісана, што ёй 22 гады. Таму, падобна, што тут доктар Гіль памыліўся.

## "Пан Тадэвуш". Свіцязянка

На захад ад сядзібы ў Студзёнках знаходзяцца злучаныя паміж сабою рэчкай два велізарныя ставы (сажалкі), якія Міцкевіч апісаў у паэме "Пан Тадэвуш" у восьмай кнізе "Наезд":

*"Ў фінал мушыных шумаў, гоман птушак, здалі*
*Ставы два хорам здвоеным вось заспявалі,*
*Нібы каўказскія чароўныя азёры,*
*Што ўдзень маўчаць, а ўноч вядуць перагаворы.*
*Адзін стаў, што быў ясны, з берагам пясчаным,*
*Блакітнымі грудзьмі даў тон усхваляваны,*
*Другі, што з дном быў цёмным і аблічам мутным,*
*Яму адказваў крыкам жаласным, магутным.*
*У абодвух тых ставах спявалі жабы зважна,*
*То сола перарывіста, то ў хор працяжна.*
*Адзін фарцісіма пяе, другі сціхае,*
*Той быццам чымсь абураны, другі ўздыхае.*
*Так размаўлялі два ставы з сабой праз поле,*
*Як быццам арфы дзве чароўныя Эола".*

Пра тое, што Адам Міцкевіч апісвае ў паэме менавіта гэтыя мясціны, доктар Ганарат Гіль кажа ў кнізе "Wychwalajcie mezow slawnych. Wspomnienie o swietym Rafale Kalinowskim" (Кракаў, 2014 г.). У тым жа "Пане Тадэвушу", таксама ў восьмай кнізе, апісанне ставаў сустракаецца і далей:

*"А від сапраўды быў прыгожы, маляўнічы!*
*Ставы два пахілілі да сябе аблічы,*
*Як пара закаханых: правы быў глыбокі*
*Без траваў, чысты, гладкі, як дзяўчыны шчокі,*
*А левы чуць цямнейшы, як твар маладога,*
*З загарам і пушком абсыпаны нямнога.*
*Пяском залочаным свяціўся злёгку правы,*
*Як ясным воласам, а левы кучаравы,*

*Лазой наежаны і вербамі чубаты.*
*Абодва ж зелені вянком былі абняты".*

Але тут выяўляецца самае цікавае, у наступным слупку:

*"А зверху жменямі бляск месяца кладзецца,*
*Як быццам Свіцязянка, сеўшы на раўніне,*
*Адной рукой ваду лье з шклянага начыння,*
*Другою з фартушка кідае ў хвалі тыя*
*Зачараваных скарбаў плíткі залатыя".*

Што звяртае на сябе ўвагу? Свіцязянка! Аднайменную баладу Адам Міцкевіч напісаў у 1821 годзе з нагоды імянін сваёй каханай Марылі Верашчакі, якую мы ўжо згадвалі вышэй. Ад Туганавічаў, дзе жыла і нарадзілася Марыля і ў каторай гасцяваў Адам Міцкевіч у 1820 годзе, усяго якіх кіламетраў 25. Ці не бывалі яны разам у тых Студзёнках падчас сваіх конных шпацыраў? Цалкам верагодна. Больш таго, падобна, што пані Марыля бывала ў маёнтку і без Міцкевіча. Да гэтай высновы падштурхоўвае яе далейшая біяграфія.



***Развітанне Адама Міцкевіча з Марыляй Верашчакай (Томаш Лосік, 1889)***

Каханне Адама і Марылі не было шчаслівым, і іх марам быць разам не было наканавана спраўдзіцца. Марыля была заручоная з графам Ваўжынцом Путкамерам, з якім пабралася шлюбам у 1821 годзе. Яе дачка, Сафія (1825-1897), была замужам ад 1847 года за Анджэем (Андрэем) Каліноўскім (1805-1878; настаўнік, пазней - дырэктар Шляхецкага Інстытута ў Вільні). Дарэчы, мясцовы краязнавец Аляксандр Абрамовіч мяркуе, што Андрэй Каліноўскі мог быць сваяком паўстанца Кастуся Каліноўскага. Краязнавец прыходзіць да высновы, што Андрэй Каліноўскі з'яўляецца родным братам прадзеда Кастуся Каліноўскага, Мацея. Верагоднасць такая ёсць. Абодва яны паходзяць з роду Каліноўскіх герба Калінова, Кастусь нарадзіўся ў вёсцы Мастаўляны Гарадзенскага павета, а Андрэй - у Гародні. І па датах пасуе. Але сцвярджэнне, мяркую, тым не меней вартае праверкі.



***Андрэй Каліноўскі і Сафія Путкамер***

Анджэй Каліноўскі ўжо меў двух сыноў ад папярэдняга шлюбу, з Юэфай Палонскай: Віктара



***Запіс з метрычнай кнігі касцёла ў Ішкалдзі пра шлюб Віктара Каліноўскага і Марыі Грушэцкай (скан зроблены Юлітай Нэйман)***

(1833-1880) і Юзафа (1835-1907). Віктар у 1857 годзе, то-бок пры жыцці Марылі Верашчакі, пабраўся шлюбам з Марыяй Грушэцкай (старэйшай дачкой Андрэя Грушэцкага).

Жыць яны пераязджаюць у Студзёнкі, у маёнтак Грушэцкіх, дзе і гуляюць вяселле. А шлюбам яны пабраліся ў мясцовым парафіяльным касцёле Найсвяцейшай Тройцы ў Ішкалдзі, пра што сведчыць запіс у метрычнай кнізе ад 8 верасня 1857 года. Безумоўна ж, Марыля Верашчака (1799-1863), маці мачыхі Віктара Каліноўскага, мусіла прысутнічаць на тым вяселлі, як блізкая сваячка. Сваю ж мачыху, Сафію, Віктар і Юзаф ласкава называлі "мамачкай", бо яна заўсёды з любоўю клапацілася пра іх. Пазней Юзаф звяртаўся да яе ў лістах "Любая мама", хоць і быў малодшы за яе толькі на восем гадоў.



*Віктар Каліноўскі і Марыя Грушэцкая*

## Каліноўскія. Святы Рафал і няспраўджанае каханне

Падчас падзей 1863 года Віктар Каліноўскі далучыўся да паўстання, за што патрапіў у Менскую турму. Падобна, што зняволенне пакінула на ім свой адбітак - ён пачынае пакутаваць на хваробу касцяной ткані і паступова слепне. У 1880 годзе ён памірае. Яго пахаванне адбывалася на панскім цвінтары ў Студзёнках. Гэта былі невялікія могілкі з агароджаю. Пры дарозе да іх узвышаліся таполі, стаяла невялічкая каплічка. У савецкія часы гэтыя могілкі, на жаль, двойчы руйнавалі. У 1947 бульдозерам знеслі падмуркі агароджы. А 1949 годзе ў Студзёнках быў арганізаваны калгас імя Леніна, які ўвайшоў праз дзесяць гадоў у склад саўгаса "Гарадзейскі". Па словах краязнаўца Аляксандра Абрамовіча, панскія могілкі перашкаджалі забору жвіру з кар'ера за лесам для будаўніцтва Гарадзейскага цукровага камбіната, і яны ізноў былі зруйнаваныя. А капліцу, што была пры могілках, як гэта не сумна, знеслі на Вялікдзень дзесьці ў 1961 годзе. Парэшткі з панскіх могілак былі перавезены на вясковыя могілкі і пахаваныя ў брацкай магіле разам з расстралянымі падчас вайны чырвонаармейцамі. Па сведках мясцовых, пасля забору жвіру паўсюль валяліся чалавечыя косткі. А частку надмагілляў мясцовыя расцягнулі на падмуркі. Гэтак невядомы лёс чорнага мармуровага помніка аднаму з Каліноўскіх. А надмагільны камень Віктара Каліноўскага і па сёння ляжыць на ўскрайку вёскі, папросту кінуты пад плотам каля дарогі. На вялізным камені высечана па-польску: "Wiktor Kalinowski. Spoczul w Bogu 13 Grudnia 1880 r.".




***Надмагільны камень Віктара Каліноўскага (Фота Аляксандра Абрамовіча)***

Але не менш, а мо і болей, уяўляе цікавасць гісторыя брата Віктара, Юзафа. Ён таксама неаднойчы бываў у Студзёнках і нават доўгі час быў закаханы ў малодшую сястру жонкі Віктара, Цэліну Грушэцкую (1835-1863). І не проста быў закаханы, а нават прасіў яе рукі. Аднак ён, небагаты інжынер Берасцейскай цвердзі, быў не ў стане на адпаведным узроўні ўтрымліваць і забяспечваць сям'ю, і сваякі Цэліны не былі згодныя са шлюбам. У 1862 годзе маладую прыгажуню выдаюць за аднаго з найбуйнейшых землеўладальнікаў Слуцкага павета Адама Даманьскага (1831-1891). На жаль, пасля года шчаслівага шлюбу, яна нечакана захварэла і

памерла, магчыма, што і пры родах. А Адам Даманьскі праз некалькі гадоў ажаніўся з Эміліяй Вайніловіч, стрыечнай сястрой Эдварда Вайніловіча, фундатара Чырвонага касцёла ў Менску.

У 1863 годзе Юзаф Каліноўскі выходзіць у адстаўку ў чыне штабс-капітана і пераязджае ў Вільню, дзе ён, як і ягоныя браты, далучаецца да Студзеньскага паўстання. З чэрвеня 1863 Юзаф узначальвае ваенную секцыю Выканаўчага аддзела Літвы і робіцца найбліжэйшым памочнікам кіраўніка паўстання Кастуся Каліноўскага. А яшчэ гэта быў перыяд, калі Юзаф звяртаецца да Бога. У пэўны час ён нават жадаў уступіць у ордэн капуцынаў, але не паспеў гэтага зрабіць. 24 сакавіка 1864 года, на другі дзень пасля выканання прысуду адносна Кастуся Каліноўскага, арыштоўваюць і Юзафа Каліноўскага. Ягоныя браты, Віктар, Караль і Габрыэль ужо былі пакараныя за ўдзел у паўстанні. 2 чэрвеня 1864 года Юзафу Каліноўскаму быў абвешчаны строгі прысуд - смяротнае пакаранне праз расстрэл. Яго родныя прыклалі ўсе намаганні, каб хаця б зменшыць прысуд, і ў рэшце Каліноўскага асудзілі толькі на 10 гадоў ссылкі ў Сібір ва Усолле (каля Іркуцка), пры гэтым пазбавіўшы яго шляхецкіх правоў і матэрыяльных дабротаў. У далёкую дарогу ён бярэ крыж і Новы Запавет. Марыя Грушэцкая спрабавала скарыстаць усе свае сувязі, каб выбавіць яго з ссылкі, вызваліць адтуль. Але актыўны ўдзел у паўстанні быў вельмі сур'ёзным парушэннем для судовай сістэмы расійскай улады, і нічога змяніць было ўжо немагчыма.

У ссылцы Юзаф актыўна ўключаецца ў рэлігійнае жыццё. Ён дапамагае ссыльным вырашаць розныя праблемы, арганізоўвае для дзяцей і моладзі нядзельныя школы. Пасля таго, як царскія ўлады забралі з Усолля каталіцкіх святароў за ўдзел у тайных рэлігійных дзеяннях, Юзаф робіцца фактычна духоўнай апорай для ссыльных. У ліпені 1868 года ён пераязджае ў Іркуцк, у якім застаецца на бліжэйшыя 4 гады. Тут ён працуе ў парафіяльнай школе, удзельнічае на плябаніі ў святой імшы, прымае святую камунію. Дзякуючы яго ведам і прафесійным навыкам, Юзафа прыцягваюць да ўдзелу ў навуковых даследаваннях Сібіры.

І ўвесь час, што Юзаф знаходзіцца ў ссылцы, ён не забывае пра сваё каханне. У сваіх лістах да родных ён нярэдка згадвае Цэліну і часта моліцца за яе. У 1873 годзе ён вяртаецца на Радзіму і наведвае свайго брата Віктара ў Студзёнках з яго жонкай, гаспадыняй маёнтка Марыяй Грушэцкай. У сваіх лістах, якіх ён на працягу 30 гадоў напісаў 32, Марыю ён пяшчотна называў Мася, трактаваў яе, як сваю сястру і выказваў да яе братэрскую любоў. У 1874 годзе Юзаф ад'язджае да Варшавы, дзе жыве яшчэ адзін яго брат, Габрыэль.



*Св. Рафал (Юзаф) Каліноўскі (1897)*

Праз некалькі гадоў, у 1877 годзе, Юзаф уступае ў Ордэн кармелітаў і прымае манаскае імя Рафал. Ім былі напісаны ўспаміны пра паўстанне 1863-1864 гадоў. Таксама ён з'яўляецца аўтарам рэлігійна-філасофскіх трактатаў. 22 чэрвеня 1983 года, у Кракаве, Ян Павел II беатыфікаваў Рафала Каліноўскага, а 17 лістапада 1991 года, у Рыме, абвясціў яго святым. Святы Рафал Каліноўскі з'яўляецца патронам афіцэраў і жаўнераў, заступнікам у цяжкіх і безнадзейных справах, а таксама апекуном католікаў Сібіры.

Вось так невялікая вёска Студзёнкі, рай Адама Міцкевіча пад Нясвіжам, яе гісторыя і ўладары, як і яе тайны, нечакана стала пунктам прыцягнення цэлага шэрагу знакавых асоб беларускай гісторыі.

***Алег Грушэцкі.***

# Таямніцы былой капліцы

Сапраўдны навагодні цуд падаравала Гарадзейская краязнаўца Наталля Апацкая, адшукаўшы ў Нацыянальным гістарыным архіве Беларусі **Дело "О каплице находящейся в имении Студзіонка помещицы Софии изъ Розвадовскихъ Грушецких"**. Сын былога ўладальніка Студзёнак генерала Яна Развадоўскага (на жаль, імя яго не згадваецца) і дачка Сафія (у замужжы Грушэцкая) з 1864-га па 1869-ы дасылаюць просьбы ў праваслаўную Менскую Духоўную Кансісторыю аднавіць дамавую капліцу і дазволіць там весці набажэнствы па лацінскім абрадзе. Са справы мы бачым, што капліца была заснавана ў 1836-ым г. з дазволу Віленскага Рымскага Епіскапа Кланчэвіча, Епіскапа Жылінскага і Менскага Вайткевіча. У 1864-ым прыстаў з ксяндзом Кушчэўскім (пробашч касцёла ў Ішкалдзі (1863-1865 г.) зачынілі капліцу, а рэчы з яе перавезлі ў Ішкалдскі касцёл, а па яго закрыцці - у Паланэчку. Пазначаецца, што капліца знаходзілася ў разбураным стане. Да разгляду справы далучаюцца праваслаўныя святары з Нясвіжа, Лысіцы і Ліпы. У лістападзе 1869-га справа закрываецца з адмовай Развадоўскім з прычыны "вредного влияния на окружающее народонаселение, ещё не затвердившееся в православии".


19 Марта 1869

Ваше Преосвященство!


по архиву № 57693

МИНСКОЙ ДУХОВНОЙ КОНСИСТОРІИ

по Столу

№ по общей описи Стола

ДѢЛО

Начато 19 ... 186 года.

Кончено ... 186 года.

Сдано въ архивъ ... 186 года

На ... листахъ.


При семъ честь имѣю оставаться Вашего Преосвященства

съ глубокимъ высокопочтеніемъ

всепокорнѣйшею слугою

Софія Ивановна Грушецкая

Вдова по Капитана Императорской Гвардіи

Имѣн. Студзіонки

Уѣздъ Несвижск.

Минской Губ. 1869 года Октября 21

Цікава, чаму ж гаворыцца, што дамавая капліца тады была разбурана? Звязана з паўстаннем 1863-1864? Дачка Сафіі Марыя і Віктар Каліноўскі пабраліся шлюбам у 1857-ым. Пра ўдзел у паўстанні Віктара - брата знакамітага Юзафа (Рафала) Каліноўскага - ёсць згадкі ў літаратуры. Няма пакуль дакументальных пацверджанняў. У знакамітага

1864. Года Юнія 17. д. письмомъ за № 32. Админи-
страторъ Ишкольдскаго бывшаго Римскаго-Католическаго При-
ходскаго Костела, на основаніи предписанія Эпархіяльнаго Мин-
скаго Эпископа, отъ 28. Мая за № 285. сего года 1864. извѣстилъ
Меня дабы въ предь не совершать Литургіи при домашнимъ
Олтаръ находящимься у меня въ Имѣніи Студзенкахъ
Въ слѣдъ засимъ принялъ подъ росписку Костельной Утвари
Бывшие на моихъ рукахъ документы съ 1836. года оставлен-
ныя по моемъ умершимъ Отцу Генералъ Розвадовскомъ,
постоянно возобновляемыя мѣстными Эпархіяльными
Эпископами; въ слѣдствіе требованія Пристава 4го. Стана
1866. г. Января 7го д. ему мною переданы. —
Какже находясь въ преклонныхъ Лѣтахъ, и при ра-
строенныъ здоровьѣ, не въ состояніи учащать въ отдален-
ные Костелы отъ мѣста моего Жительства, по сему

рускага паэта і пісьменніка Г.У. Іванава ёсць апавяданне "Губительные покойники", у якім вядзецца, як пад выглядам нябожчыкаў у капліцу паўстанцы пераносілі порах. Калі былі выкрыты, граф стрэліў у труну і адбыўся выбух. Бацькі Г.У. Іванава валодалі маёнткам Студзёнкі ў 1899-1909 г., таму сюжэт апавядання мог быць звязаны з нейкімі сапраўднымі падзеямі. Мясцовы жыхар Д. Рудлеўскі апавядаў, што перад вайной (мабыць за палякамі) капліца была адноўлена. Паваенную гісторыю зносу капліцы і панскіх магілак я ўжо апавядаў. Архіўная справа пацвердзіла само існаванне капліцы і што на тыя часы гаспадарамі былі Развадоўскія.

***А. Абрамовіч.***

*В. А. Акула*

# На паўднёвы захад ад Мінска

### АД АЎТАРА

З хваляваннем узяў я ў рукі маленькі жмуток паперы, на якім выцвілымі ад часу літарамі напісана: *"Гінем за Радзіму, але не здаёмся. Лічыце нас камуністамі і камсамольцамі!"*

І зноў адна і тая ж думка: "Чыёй рукой напісаны гэтыя радкі? Можа, напісаў іх былы камандзір звязу партызанскага атрада імя Катоўскага Герай Савецкага Саюза Вінцэсь Драздовіч, які ўзначальваў групу добраахвотнікаў? А можа, гэта развітальныя словы Зміцера Цітко, у кулямётным ствале якога знойдзена запіска, ці некага з астатніх шаснаццаці партызан, якія падзялілі лёс таварышаў у тым жорсткім Лаўскім баі?"

Ніхто ўжо не даведаецца гэтага. Але вядома адно: клятва Радзіме была дадзена жменькай храбрацоў у самы цяжкі момант, калі да смерці сапраўды заставаліся "чатыры крокі". І яны, васямнаццаць чалавек, стрымалі клятву.

Адзін за адным перагортваю архіўныя дакументы партызанскіх брыгад імя Варашылава і імя Чапаева, і, здаецца, ізноў павеяла на мяне парахавым чадам, скрозь смугу партызанскіх вогнішчаў убачыліся твары сяброў па зброі...

Баявая, апалена агнём і перакрэсленая свінцом наша маладосць! Пра яе нагадваюць вось гэтыя, спісаныя рознымі почыркамі лісткі паперы.

Доўга яшчэ будуць адшукваць і адшліфоўваць гэтыя неацэнныя знаходкі стараценлі-навукоўцы, пісьменнікі, паэты, каб ляглі яны затым у залаты радок гісторыі подзвігу савецкіх людзей у гады Вялікай Айчыннай вайны, імя якому Перамога.

Падзеі тых суровых ваенных гадоў усё далей сыходзяць ад нас у гісторыю, хоць нам, удзельнікам Вялікай Айчыннай, яны заўсёды будуць здавацца зусім нядаўнімі. Усе пасляваенныя гады ў нашых думках, пачуццях, справах побач - загінулыя таварышы. Яны сталі часткай нас саміх, часціцай нашай святой зямлі. Вайна жыве ў нашай памяці не толькі ў яркіх выявах успамінаў пра гераічнасць савецкіх людзей, заўчасна якія пайшлі з жыцця баявых сяброў, у болі незагойных ран, але і ў асоба абвостранай нянавісці да фашызму, што паквапіўся на волю і незалежнасць нашай Радзімы.

Ідуць гады. Ужо вырасла новае пакаленне людзей, якое ведае пра вайну толькі па кінастужках, кнігах ды ўспамінах ветэранаў, якіх, на жаль, становіцца ўсё менш і менш.




Вось таму святы абавязак наш успомніць пра тых, хто абвеяны легендамі, зрабіць усё, каб ніхто не быў забыты, нішто не было забыта. І тыя, хто жыве сёння, хто толькі што нарадзіўся для жыцця і хто народзіцца праз дзясяткі гадоў, павінны ведаць, як дасталася перамога над карычневай чумой фашызму, якім коштам яна аплачана, якімі слязамі яна аплакана.

Гэты абавязак і мяне прымусіў узяцца за пяро.

### У ПЕРШЫЯ ДНІ

Над дарогай Баранавічы - Слуцк вісела шэрае густое воблака пылу. Гуд матораў, іржанне коней, грозныя выкрыкі каманд - усё гэта злівалася ў адзіны гул вайны і лавіной кацілася на ўсход. А я накіроўваўся насустрач гэтаму страшнаму валу, насілу пераадольваючы яго шчыльную плынь.

Вайна заспела мяне ў Слуцку, у сябрука Валянціна Каршуна. У тую кароткую чэрвеньскую

ноч мы з Валянцінам зусім не заснулі - шэптам дзяліліся навінамі і планамі, успаміналі школьнае жыццё. Раніцай збіраліся схадзіць на рыбалку.

Але, ледзь толькі замігцеў світанак, горад ускалыхнуўся ад выбухаў бомбаў. У адно імгненне мы выскачылі на вуліцу. У некалькіх месцах успыхнуў пажар, чуліся трывожныя крыкі, плач жанчын, дзяцей. Глуха тупаючы ботамі, па бруку прабеглі некалькі вайскоўцаў. З імглістага світанку вынырнула невысокая постаць чалавека. Гэта быў бацька Валянціна.

- Вайна, дзеткі,- насілу выдушыў ён гэтыя два словы, злажыўшы рукі на нашы плечы. Я адчуў, як яго пальцы падрыгваюць.

"Няўжо ён так спалохаўся?" - падумаў і ўпотай зірнуў на яго твар. Вочы нейкія шкляныя, вусны шчыльна сціснуты. Так, змяніўся чалавек.

Мы яшчэ не ведалі, што такое вайна. Як не ведалі пра яе і тыя, хто пры паўторным налёце фашысцкіх сцярвятнікаў не кінуўся ў схованку, не прыціснуўся да зямлі. Такому людзі навучыліся потым. А тады многіх закранулі шурпатыя аскепкі бомбаў.

Убачыўшы першыя ахвяры вайны, да болю ў сэрцы захацелася дахаты. "А можа, і нашых ужо няма?" - мільганула думка.

Праз чатыры дні, развітаўшыся з сям'ёй Каршуноў, я адправіўся ў родную вёску. Вузенькай сцяжынкай, якая перасякала накасяк агарод, хутка выбег на дарогу, што вяла да шашы Слуцк - Баранавічы. Азірнуўся - горад прыцішэў, стаіўся. У наступаўшым світанні ўжо выразна віднеліся пышная зеляніна і быццам прыціснутыя да зямлі хаты. Вузкія ўчасткі агародаў, невысокія платы, сады. Над усім гэтым слалася лёгкая ранішняя смуга, перамяшаная з дымам пажарышчаў.

Далёкі прыглушаны гул матораў даляцеў да майго слыху. Гул нарастаў. Прайшло яшчэ трохі часу, і я ўбачыў на шашы калону чырвонаармейцаў. Доўгая шэрая стужка цягнулася на ўсход. Патрабуючы саступіць дарогу, настойліва сігналячы, пранесліся санітарныя машыны.

Я з трывогай узіраўся ў счарнелыя твары параненых, назіраў, як паспешліва ходзяць узадуперад камандзіры, аддаюць хрыплымі галасамі каманды.

А насустрач ім паднімалася сонца. У навіслым пыле яно нагадвала распалены дыск, падвешаны над дарогай, які не свяціў, а, здавалася, паліў стомленых людзей.

Калона раптам звярнула з дарогі, выгінаючыся, пачала ўцягвацца ў лес. Неўзабаве стала відаць, як на ўзлеску спешна акопваліся байцы.



*Акула В. А.*

Над шашой нізка праляцеў нямецкі самалёт, падобны на раму. Я выразна адрозніў на ім чорныя крыжы. Ён зрабіў некалькі кругоў над уцекачамі і паляцеў на захад.

Першыя бежанцы! Дарогі вайны запаўняла гэта шматпакутная маса людзей. У іх не было камандзіраў, не было статутаў і інструкцый, па якіх яны маглі б дзейнічаць, ім ніхто не даваў ніякіх указанняў. Гэта была стыхія. Але стыхія, падпарадкаваная логіцы вайны: далей і хутчэй адысціся ад месцаў баёў.

Вось яны, старыя і зусім яшчэ маладыя, з бледнымі, перапуджанымі тварамі, у спехам накінутай апранасе. Хто ўзгрувасціўся на клункі з рэчамі, хто ішоў каля вазоў. У многіх за плячамі клункі. Толькі дзіцячы плач ды панукванне коней парушалі аднатонны шум руху. Большасць тых, хто валокся па шашы - сем'і вайскоўцаў, цывільныя, якія ў 1939 годзе прыехалі на працу ў вызваленыя раёны Заходняй Беларусі.

- Гэй-гэй, збоч! - прычуўся голас.

Калона пачала забіраць направа. Яе абганяла паходная кухня-двухколка. Кухар - малады чырвонаармеец, з вясёлымі ад прыроды смяшынкамі ў вачах, спрытна сядзеў на перадку. Ад кухні зыхо-

дзіў прыемны пах ежы. Абагнаўшы калону, кухар спыніў каня, саскочыў на зямлю. Узмахам рукі даў зразумець: "Стойце!"

- Падыходзьце, атрымлівайце сняданак! - сказаў ён, звяртаючыся да ўцекачоў.

Шчыльна абступілі кухню людзі. Кухар спрытна дзейнічаў чарпаком. У мяне таксама пад лыжачкай засмактала, і я прыладзіўся да чаргі. Наперадзе была жанчына з дзіцем на руках. Падышоўшы да кухні, яна неяк замітусілася, выбіраючы зручнейшае месца, дзе б пакласці дзіця, вызваліць рукі. Прымерылася на зямлю, але тут жа спахапілася, прыціснула дзіця да грудзей, нясмела азіраючыся па баках.

- Давайце, я патрымаю, - прапанавала свае паслугі пажылая жанчына.

- Не, не, што вы, дзякуй, - бегла адказала маці, і ногі яе раптам падкасіліся, яна ніцма паваліліся на камяні. Людзі кінуліся на дапамогу. Я заўважыў, як нечыя рукі падхапілі дзіця. І... стрэлам прагучала:

- Мёртвенькае!

Поўная жанчына трымала на выцягнутых руках мёртвае дзіця, разгубленым поглядам абводзячы натоўп. Лёгкая коўдрачка спаўзла далоў, і было прыкметна, што светлыя валосікі хлопчыка прапітаны бурай крывёй.

Усе ўміг забыліся пра голад. Кухар адкінуў чарпак у бок, стаяў моўчкі, шырока расплюшчыўшы свае блакітныя вочы. Нехта ў натоўпе цяжка ўздыхаў, нехта галасіў, праклінаючы вайну і Гітлера.

І раптам з-за лесу вынырнулі тры фашысцкія самалёты. Яны ішлі зусім нізка.

- Беражыся! - пранеслася па натоўпе.

І тут жа, высякаючы іскры, з віскам зацокалі па камянях кулі. Затым грукнула некалькі выбухаў, і ўсё вакол завалакло куравой. На другім заходзе сцярвятнікі зноў скінулі бомбы. Але гэтым разам з пералётам, далей.

Калі ўсё рассеялася, першым я ўбачыў кухара. Ён ляжаў, раскінуўшы рукі, і, здавалася, усміхаўся. Яго вочы былі напаўадкрытыя, з рота тоненькім струменьчыкам цякла кроў. Выбухам перавярнула кухню. Велізарныя колы яе павольна круціліся ў паветры.

- Восем чалавек напавал,- з гаркатой прамовіў шыракаплечы барадач.

На правах старэйшага ён жа распарадзіўся пра арганізацыю пахаванняў. Яго каманды выконвалі ўсе.

- Ты гэта куды? - спытаў ён, убачыўшы, што я адходжу ў супрацьлеглы бок.

- Дахаты,- адказаў я.

Барадач хмыкнуў, паціснуў плячамі і адвярнуўся. А я хутка пакрочыў далей, не сустракаючы ўжо ні адыходзіўшых чырвонаармейцаў, ні калон бежанцаў. Дарога апусцела.

**ВОСЬ ЯКІ ЁН, ВОРАГ!**

Лёгкі ранішні ветрык калыхаў жыта, якое падступіла да самага адхону дарогі, і яно як бы вітала мяне шызым, яшчэ не наліўшымся коласам.

Якая звонкая цішыня! Нават чуваць, як падалі, мякка пляскаючыся аб лісце дрэў, расінкі, занадта гучна, здавалася, спявалі птушкі.

Але нейкі дзіўны гул пачаў украдвацца ў гэтую ранішнюю цішыню. Ён хутка нарастаў. Ужо, здавалася, пачала ўздрыгваць зямля. І раптам, як токам, працяло: "Немцы!"

З дубняку, зелянеўшага ў лагчыне, вырваліся матацыклы. Яны імчаліся да шашы. За імі паказаліся тупарылыя танкеткі.

Калі матацыклы выехалі на грудок, я добра разглядзеў іх. Вялікія, з калясками. На кожным па тры салдаты: адзін у калясцы, другі - на задняй сядушцы, кіроўца за рулём. На ўсіх атрутна-зялёныя кароткія мундзірчыкі і непадобныя на нашы каскі. У дваіх аўтаматы, над перадком каляскі кулямёт.

Матацыклісты спыніліся зусім побач. Немцы хутка сабраліся ў кучу, пра нешта пачалі спрачацца. Адзін з іх наставіў у мой бок аўтамат і загарлапаніў:

- Ком цу мір! (Ідзі да мяне!)

Я падышоў да фашыста.

- Куды ты ісці? - спытаў ён.

- Дахаты,- адказаў я.

Фашыст сарваў з маёй галавы фуражку і балюча пацягнуў за валасы. Затым кінуў фуражку мне ў твар, пляснуў у далоні:

- Ап-ля!

Астатнія дружна загагаталі, а я стаяў, не ведаючы, што рабіць.

- Бістро пшель! - закамандаваў усё той жа немец і з сілай выцяў мяне па шыі.

Матацыклы, зароўшы маторамі, памчаліся. Неўзабаве міма з грукатам панесліся танкеткі. Я глядзеў на гэтую лавіну, якая кацілася, грукочучы металам, але таго страху, што сціскае душу, які паспытаў на шашы падчас бамбёжкі, чамусьці не адчуваў.

- Гады праклятыя! - плюнуў услед апошняй машыне і звярнуў з шашы на вузкую палявую сцяжынку.

Яна і вывела мяне да нізкага берага зарослага асакой азярца. Абыходзячы яго бокам, ізноў убачыў немцаў. Іх было шмат. Я ўпаў у траву і папоўз у бок пералеску, але натыкнуўся на замаскіраваныя

дзве нямецкія гарматы. Дзявацца было не было куды, я забраўся пад корч і з жахам пачаў чакаць, што будзе далей. У густой зеляніне травы на той бок азярца заўважыў цёмныя пункціры акопаў. Пачуў гучную каманду. "Нашы!" - з радасцю падумаў. Раптам над палянай узвілася ракета. Немцы пайшлі ў наступленне. Насустрач ім выцялі з-за яра кулямёты. "Ду-ду-ду" - выразна выдзялялася ў грукаце гармат. Страх уціснуў мяне ў ліпкую балотную гразь. Я бачыў, як зялёнымі яшчаркамі папаўзлі да яра немцы. Затым на паляну вырваліся чырвоназорыя савецкія танкі. Яны імчаліся, расстрэльваючы з кулямётаў ціснуўшыхся да яра фашыстаў.

Танкі перасеклі яр і выскачылі на паляну, развярнуліся ў адну лінію і рынуліся на варожыя гарматы. Змяўшы іх, танкі разышліся і пачалі расстрэльваць з кулямётаў пахаваўшыхся немцаў. Адзін танк прамчаўся зусім побач. Я паспеў нават разгледзець твар стаяўшага ў люку камандзіра. Ён, абапёршыся на браню, страляў з аўтамата. Танк змяў вялікі, крыты брызентам, грузавік і на імгненне спыніўся, паслаў яшчэ некалькі кулямётных чэргаў па ўцякаўшых фашыстах, затым павярнуў назад. За ім пайшлі і астатнія. Паляна апусцела. Толькі чадзіла дагараўшая нямецкая машына.

Сілы канчаткова пакінулі мяне. Калі б хтонебудзь наставіў аўтамат і загадаў устаць - не змог бы. Ногі і рукі зрабіліся як ватовыя. Так і ляжаў пад карчом зусім бездапаможны.

Сонца пераваліла зеніт і паліла неміласэрна. У такі час у лясных нізінах асабліва душна. Нават дрэвы стаялі млявымі. У роце адчуваў гаркату, як быццам наеўся палыну. На душы зусім пуста. Нарэшце сабраўся з сіламі, падняўся і паплёўся напрасткі. Выйшаў да таго месца, дзе зусім нядаўна займалі абарону чырвонаармейцы. У акопах зіхацелі свежыя гільзы, валялася некалькі газаахоўнікаў, падсумкі. Метраў за сто ад акопаў наткнуўся на забітага немца. Ён не ляжаў, а неяк дзіўна скурчыўся на карачках, уткнуўшы галаву ў арэхавы куст. Побач валяўся пісталет. Я прыхапіў яго і схаваўся ў кустах. Са зброяй абыходзіцца ўмеў. Падлеткаў маёй вёскі Навасёлкі гэтаму навучылі памежнікі. Яны дапамагалі нам рыхтавацца да здачы нормаў на значкі БГПА і "Варашылаўскі стралок". Самі часам трэніраваліся ў стральбе, за ваколіцай секлі шаблямі лазу на поўным скаку.

Валокся доўга, а куды выйду - не ведаў. Хацелася хутчэй патрапіць у якую-небудзь вёску. Нарэшце перасек дарогу, з'езджаную машынамі, і апынуўся на ўскрайку лесу. Густым нізкім алешнікам, што паласой цягнуўся ўздоўж дарогі, прабраўся бліжэй да вёскі, прыслухаўся. Ціха. Ні на гародах, ні ў полі не відаць людзей. Нават жывёла не пасвілася на лугах - быццам вымерла ўсё. Толькі жаласна і працягла выў недзе сабака.

Увайшоў у вёску і спыніўся каля будынка, над дзвярамі якога боўталася новенькая шыльда "Жаволкаўскі сяльмаг".

"Жаволкі,- мільганула думка,- далекавата адхіліўся ад сваёй вёскі".

Вокны сельмага былі выбіты, дзверы расчынена. На падлозе - жмуты паперы, рассыпаны крупы, соль. Разламаная фанерная скрыня валялася каля ўваходу, з яе высыпаліся злепленыя камяком цукеркі-падушачкі. Я нагнуўся, каб узяць цукеркі, і пачуў ззаду нечы грозны голас:

- Рабаваць прыйшоў?

Азірнуўся - стары. Моцны, бародка клінам, лоб чысты, высокі. Сапраўдны партрэт Някрасава з падручніка рускай літаратуры.

- Што ж тут рабаваць, дзядуля, калі ўсё ўжо разнеслі?

- Сволачы! - вылаяўся стары.- Раніцай уварваліся, усё разграмілі. Нагамі таптаалі тавары... А ты чый будзеш? - спытаў ён раптам, жмурачы свае блізарукія вочы.

- З Навасёлак я. Дахаты вось дабіраюся, - адказаў і распавёў яму пра сваю вандроўку.

- Так, раскідала, праклятушчая, людзей,- прамовіў ён. - Нашы ўсе ўцяклі з вёскі. Толькі куды ўцякуць з дзеткамі на руках і калі зноў збяруцца. А я вырашыў не ўцякаць, застаўся накшталт за вартаўніка, ды нічога не ўпільнаваў - быдла, курэй пастралялі, ірады, краму спустошылі. Хоць я, унучак, сапраўды быў прыстаўлены вартаўніком да гэтай крамы, грошы мне плацілі. Што ж цяпер скажу, як вернецца Савецкая ўлада?

Стары паківаў галавой, пра нешта разважаючы, а затым спахапіўся:

- Чаго ж мы стаім, пайшлі ў хату. - Ён узяў мяне за руку, правёў праз двор, пхнуў нізенькія дзверцы прыбудовы. - Пасядзі тут, зараз ежу збяру,- падміргнуў ён і схаваўся.

Неўзабаве вярнуўся і расклаў на стале цыбулю, сала, хлеб.

- А можа, па маленькай? - падумаўшы, прапанаваў ён і дастаў з-пад стала пачатую бутэльку.- Ну, як хочаш, а я прапушчу для апетыту.

Наліў паўшклянкі, выпіў адным глытком, кракнуў. Еў моўчкі, апетытна. Затым не спяшаючыся выцер вусы, зірнуў на мяне запытальна:

- Што ж гэта будзе, унучак, калі так ён прэ, пракляты?

Так, старога хвалявала тое адзінае пытанне, якое хвалявала мільёны савецкіх людзей. А што я мог яму адказаць, калі сам нічога не разумеў. З галавы ўвесь гэты час чамусьці не выходзілі знаё-

мыя памежнікі, іх камандзіры, такія заўсёды ўпэўненыя, вясёлыя. Няўжо і яны нічога не ведалі?

Спаць улёгся на шырокай лаве, засланай вялікім кажухом. Заснуў, слухаючы аповед дзеда пра тое, як досвіткам, калі ўжо немец у вёсцы знаходзіўся, уварваліся нашы танкісты.

- Шуганулі, быццам ветрам іх, паганцаў, выдзьмула.

Мне падумалася, што "шуганулі" фашыстаў тыя ж танкісты, што і ў лесе бой вялі.

А ў сне мяне праследвалі кашмары. Кідаўся, крычаў. Дзед сур'ёзна ўстрывожыўся, падышоў да мяне, накрыў цяплей і... знайшоў пісталет.

Раніцай я заўважыў згубу, але не адважыўся сказаць пра гэта.

Дзед хітра ўсміхаўся ў вусы і таксама маўчаў. Толькі калі растлумачыў, як дабрацца да Навасёлак, і даў на дарогу правіянту, спытаў:

- А пушку каму пакідаеш? Вазьмі, можа, спатрэбіцца. І кніжачку сваю далей схавай. За яе фашыст не пахваліць.

Я толькі цяпер успомніў, што пры мне камсамольскі білет. А маглі ж немцы яго знайсці, калі затрымоўвалі.

- Дзякуй, дзеду! - падзякаваў я свайго новага знаёмага.

- Шчасліва, унучак! - памахаў ён на развітанне сваёй вялікай жылістай рукой.

Праз тыдзень дабраўся я да роднай вёскі.

**ПЕРШЫЯ КРОКІ**

Навасёлкі па тых часах былі, мабыць, самай вялікай вёскай у Капыльскім раёне - 395 двароў. Роўныя строгія вуліцы адным канцом кіраваліся да шашы Баранавічы - Слуцк, а другім - уперліся ў зялёную сцяну лесу. Хаты ляпіліся адна да адной саламянымі стрэхамі, счарнелымі ад часу платамі і амаль не бачныя былі ў густой зеляніне садоў.

Я выйшаў на ўскраіну лесу, што перад вёскай Пузава. Вечарэла. З лугавін цягнуўся рэдзенькі туман, малочна-белыя яго кудлы быццам учапіліся ў галіны кустоў і віселі, палахліва ўздрыгваючы ад лёгенькага ветрыку.

Сэрца радасна забілася: цэлая вёска! За зялёнымі купаламі дрэў не мог разгледзець хат. Там у густой чарадзе стаіць і мая. Захацелася ўбачыць бацьку, братоў, сясцёр. Што з імі? Ці кранула іх вайна?

Бацька пляснуў рукамі і абняў мяне. Малодшы брат і сёстры абступілі мяне і з цікаўнасцю разглядалі, быццам ніколі не бачылі. Па іх поглядах і настрою я зразумеў, што і яны паспелі адчуць на сабе "новы парадак".

Навасёлкаўцы з жахам глядзелі скрозь шчыльна зачыненыя вокны на гітлераўскіх салдатаў. Іх шэра-зялёныя мундзіры з распасцёртым арлом на грудзях, глыбокія каскі, падкаваныя жалезам боты, адрывістая незразумелая гаворка наводзілі жах. Фашысты залазілі на гарышчы, капаліся ў адрынах, усё пераварочваючы дагары нагамі. Час ад часу чуліся стрэлы. Акупанты лавілі курэй, забіралі жывёлу, забівалі для пацехі сабак. Яны пачуваліся гаспадарамі.

Наступілі чорныя дні. Вёска стаілася ў чаканні чагосьці жудаснага. Кожны дзень прыносіў дрэнныя весткі. Людзі распавядалі пра страшныя зверствы акупантаў.

Фронт аддаляўся на ўсход. Баі вяліся дзесьці каля Менска, на Бярэзіне. Гул артылерыйскіх кананад ужо не дакочваўся да Капыльскага раёна. Толькі па начах віднеліся полыні пажараў. І раптам ізноў вайна нагадала пра сябе. У ноч з 3 на 4 ліпеня каля вёскі Старыца ўспыхнуў гарачы бой. Артылерысты, якія прарываліся з акружэння, сустрэлі вялікую варожую калону і выцялі па ёй з усіх відаў зброі. На месцы бою засталіся чатыры варожыя танкі і шмат іншай тэхнікі. Дзясяткі акупантаў знайшлі сабе магілу. Група храбрацоў пасля кароткай сутычкі прарвалася скрозь варожы заслон і сышла ў блізкія лясы. Раз'юшаныя фашысты ўвесь свой гнеў абрынулі на мірнае насельніцтва. Яны спапялілі вёску, расстралялі яе жыхароў, а параненых чырвонаармейцаў аблівалі бензінам і спальвалі.

Чырвоныя следапыты пасля вайны ўстанавілі імёны многіх загінулых. Цяпер вядома, што гэта былі артылерысты батарэі 287-га артпалка пад камандаваннем лейтэнанта І. М. Усцінава. Жыхары паставілі на ўскраіне Старыцы помнік ваярам, загінулым у тым баі.

А тады, у першыя дні вайны, вестка пра гэтую страшную трагедыю абляцела ўсю акругу. Людзі скалануліся ад жаху. На сценах хат з'явіліся загады "новай улады". Яны шчодра абяцалі смерць усім, хто акажа хоць наймалы супраціў вялікаму войску фюрара, хто паспрабуе схаваць ваеннапалонных, камісараў ці габрэяў, хто будзе злоўлены ўдалечыні ад вёскі і да т. п. Кожны пункт гэтых загадаў заканчаўся словам "расстрэл".

Прайшлі чуткі, што немцы быццам бы вырашылі знішчыць і нашу вёску за тое, што ў першы дзень вайны навасёлкаўцы злавілі трох фашысцкіх лётчыкаў, якія выкінуліся з падбітага самалёта, і перадалі іх чырвонаармейцам.

Чуткі, адны за другія страшней, літаральна ашаламлівалі. Нехта сказаў, што па шашы немцы гоняць ваеннапалонных і іх трупамі выслана да-

рога. Міхась Бабеня, Фёдар Каршун і я вырашылі сходзіць туды. Дагэтуль скалынаюся ад убачанага. Калона ваеннапалонных рухалася на Баранавічы. Наперадзе на велізарным кані сядзеў худы немец-канваір, на грудзях - аўтамат, у руках - бярозавая палка. Мяркуючы па тым, што кара на канцы яе была абадрана і жмутамі звісала, немец часцяком выкарыстоўваў яе. Па баках калону таксама суправаджалі пешыя і конныя канваіры. Замыкалі - немцы на возе, з якой злавесным чорным вокам глядзеў кулямёт.

Стомлена цягнуліся палонныя. Знясіленыя, многія перавязаны скрываўленымі бінтамі, яны падтрымлівалі адзін аднаго і цяжка ішлі ў абрыўках абутку, а то і басанож. Канваіры на конях снавалі ўзад-уперад. Раптам пярэдні павярнуўся ў сядле.

- Песня! - крыкнуў ён і пачаў дырыжаваць рукамі. - Рус, песня! - грозна паўтарыў ён каманду і ўзяўся за аўтамат.

Калона маўчала. Кароткая аўтаматная чарга шаснула па першым шэрагу. Некалькі чырвонаармейцаў спыніліся, быццам наткнуліся на нябачную сцяну, і пачалі павольна абсоўвацца.

- Цурук! - загарлапаніў канваір і ўздыбіў каня.

Палонныя адскочылі. Чацвёра так і засталіся ляжаць пасярод дарогі.

- Нох цурук! - адціскаў ваеннапалонных раз'юшаны фашыст.- Песня, рус! Айн, цвай! - закамандаваў ён і накіраваў калону па трупах.

Але ваеннапалонныя імкнуліся не наступаць на загінулых таварышаў. Тады фашыст выпусціў доўгую чаргу па ідучых. Калона змялася, ваеннапалонныя адступіліся да лесу. Па іх выцяў кулямёт. Насілу фашысты ўтрымалі калону і зрушылі яе далей. На дарозе засталося больш за паўсотню трупаў. Сяляне суседніх вёсак пахавалі потым загінулых.

У Навасёлкі прыбыла група эсэсаўцаў. У чорных мундзірах, як крумкачы, яны разбрыліся па вёсцы, выганяючы на вуліцу ўсіх - і старых і малых. Мужчын сабралі ў асобную групу, затым тоўсты афіцэр гаварыў, а лысенькі з лісінай фізіяноміяй цывільны перакладаў яго прамову.

- Вялікая Германія прынесла вам волю. Наш фюрар узнагародзіць кожнага, хто будзе садзейнічаць яго пераможным узброеным сілам. Вы павінны дапамагаць вялікай Германіі хлебам, мясам, малаком. Для гэтага мы прывезлі вам мясцовую ўладу - старасту. Яго загад - закон для ўсіх. Хто не паслухаецца - расстраляем...

Вельмі старанна "вывучалі" эсэсаўцы мужчынскую групу. Зазіралі ў рот, прымушалі здымаць галаўныя ўборы.

- Хто камуністы, выходзь! - закамандаваў перакладчык.

Ніхто не выйшаў.

- Чужыя ёсць?

- Няма чужых,- пачуўся нечы нясмелы голас.

Фашысты, нарабаваўшы ўсякага дабра, з'ехалі. Людзі разыходзіліся па хатах сумныя, быццам з пахавання. Кожны думаў сваю думу. А яна зводзілася да аднаго: біць трэба ворага! Нельга сядзець склаўшы рукі.

Неяк увечар зайшоў я да свайго аднакласніка Валодзі Бірука. Валодзя пачаў распавядаць пра становішча на фронце. Яно было цяжкім. Ішлі крывапралітныя баі за Смаленск, на Украіне...

Распавёў ён і пра выступ па радыё І. В. Сталіна, які звярнуўся да ўсіх савецкіх грамадзян з заклікам біць ворага, не пакідаць яму нічога: ні кілаграма хлеба, ні літра паліва. У тыле прапанавалася ствараць партызанскія групы і атрады, руйнаваць варожыя камунікацыі, знішчаць жывую сілу суперніка...

- Ты, браток, як запраўскі агітатар, - не ўтрымаўся я, - ды толькі адкуль у цябе такія звесткі?

Валодзя хітра ўсміхнуўся:

- Радыё слухаю!

Як высветлілася, ён сабраў дэтэктарны прыёмнік. Але антэну яго трэба было расцягваць вельмі шырока і высока, таму Валодзя прыстасаваў яе ў лесе.

- Хочаш паслухаць?

- Вядома!

Пасля абеду, прыхапіўшы для маскіроўкі пілу і сякера, мы адправіліся ў лес. Ішлі, паглыбляючыся ў гушчар. Нарэшце Валодзя спыніўся і зірнуў угару. Я таксама заўважыў тоненькія, як павуцінкі, чырванаватыя правадкі. Яны мудрагеліста перапляталіся і цягнуліся да самых верхавін дрэў. - Ты што, нават не здымаеш яе? - спытаў.

Валодзя паглядзеў на мяне здзіўлена.

- Ды што я, дурань? Кожны раз на дрэвы лазіць - портак не набярэшся.

- А ўяўляеш, чаго можа каштаваць гэта? - сур'ёзна заўважыў я.

- Хто даведаецца! - адмахнуўся Валодзя і пачаў падключаць прыёмнічак.

Я прыціснуўся да слухавак, але ў іх раздаваўся суцэльны шум і трэск. Нарэшце ледзь не ўскрыкнуў ад радасці, пачуўшы такое роднае: "Гаворыць Масква!" Я ўвесь ператварыўся ў слых, імкнучыся ўлавіць кожнае слова дыктара.

Валодзя пхнуў мяне:

- Чуеш?

- Ды чую, не замінай!..

Але ён ізноў пхнуў. Я аглянулся і ўбачыў, як напружана ўзіраецца ён у глыб лесу.

- Нехта ідзе, - прашаптаў Валодзя.

Мы стаіліся ў густым ельніку. Неўзабаве ўбачылі, як паміж дрэвамі прамільгнуў нечы цень, а затым паказаўся чалавек, які ішоў, зазіраючы на верхавіны дрэў, мабыць, выбіраючы сухое дрэва. Раптам ён спыніўся і спалохана пачаў адыходзіць. Мы зразумелі: заўважыў антэну.

Валодзя выйшаў са схованкі.

- Дабрыдзень, дзядзька Косця! Не бойцеся, гэта нашы правады.

- А я думаў... Ці мала што, - як бы апраўдваючыся, загаварыў дзядзька Косця.

- Хочаце паслухаць? - прапанаваў Валодзя і падвёў яго да прыёмнічка.

Гэтак жа, як і я, прагна лавіў ён кожнае слова. А потым выпрастаў сваю спіну, усміхнуўся:

- Я так і думаў, што брэша Гітлер! Дудкі яны Маскву возьмуць! Жыве яна, родная. Зараз усім гаварыць буду, каб не верылі фашысту... Дзякуй табе, сынок! Але глядзі, будзь асцярожны, - і ён хут-ка пайшоў.

- Навошта ж ты сябе выдаў? - дакараў я Валодзю.

- Хай ведаюць людзі, што Чырвоная Армія змагаецца. Дзядзькі Косці Лобана не бойся, ён жа - камуніст.

- Людзі павінны, вядома, ведаць, - не адступаў я, але не ўсіх жа будзеш сюды вадзіць на праслухоўванне.

- Так, - задуменна працягнуў Валодзя, а затым выгукнуў, - перапісваць будзем зводкі і распаўсюджваць!

Так нарадзілася ідэя. А неўзабаве з'явіліся ў вёсцы і першыя ўлёткі.

На звычайных сшыткавых старонках друкаванымі літарамі перапісвалі мы зводкі Савінфармбюро. Праўда, былі яны несуцяшальнымі. Людзі, сціснуўшы сэрца, дазнаваліся, што пасля жорсткіх і кровапралітных баёў здадзены той ці іншы горад. Але ўсё ж Чырвоная Армія жыла, ваявала, аказвала ворагу супраціў.

З'яўленне рукапісных улётак выклікала нямала розных плётак сярод вяскоўцаў. Адны верылі ім, іншыя ставіліся скептычна. Даводзілася часам чуць і такія гутаркі:

- Дзеці гуляюць, а ты верыш!

- Не скажы, дзеці! - пярэчыў суразмоўца.- Праўда ў гэтых улётках. Маскву фашыст не ўзяў, а вось брэша, хоча, каб мы паверылі.

- Можа, і праўда, ды толькі адкуль яна прыйшла, праўда гэтая, калі ні радыё, ні газет?..

Справа ў тым, што для пакалення таго часу радыё ўяўлялася толькі ў выглядзе велізарнага рэпрадуктара, які ўсталёўваўся звычайна ў цэнтры вёскі. Да яго збіраліся людзі паслухаць Маскву. Але ні ў кога з маіх аднавяскоўцаў не было радыёпрыёмнікаў. Валодзя Мармоль да вайны вучыўся ў сярэдняй школе і займаўся ў радыёгуртку, а калі школа была спустошана фашыстамі, ён прыхапіў сёе-тое з фізкабінета і змайстраваў дэтэктарны прыёмнічак.

Слухаючы спрэчкі аднавяскоўцаў, часам хацелася сказаць, што ўлёткі - не дзіцячая гульня. Але ўмовы канспірацыі абавязвалі маўчаць. У душы мы з Валодзем ганарыліся, што наша сціплая праца бударажыць розумы, усяляе недавер да фашысцкай прапаганды.

- Вось ты, кум, кажаш, паперкі! - запярэчыў дзед Кірэй Бабеня. - А я памятаю, як у імперыялістычную ў акопах мы таксама чыталі падобныя паперкі. О, гэта былі паперкі, за якія царскі паручнік выдатна з'ездзіў мне па зубах...

- За гэтыя, дзядуля, зубамі не адбыдзешся! - сказаў нехта. - Тут галавой можна паплаціцца. Вунь немцы ўжо вынюхваюць, каго б падчапіць...

У курсе нашых спраў быў адзін толькі чалавек - камуніст Васіль Васілёнак. Гэта кадравы камандзір. Вайну ён сустрэў недалёка ад Беластока. З яго аповядаў мы многае дазналіся пра тыя першыя вогненныя гадзіны. Сам Васілёнак цудам застаўся ў жывых. Паўзком дабраўся ён, паранены, да крайняй хаты найбліжэйшай вёсачкі. У густых зарасніках агурочніка і знайшла гаспадыня яго раніцай без прытомнасці. Добрыя людзі дапамаглі акрыяць ад ранення і падрыхтавалі ў дарогу. Начамі, абыходзячы населеныя пункты, прабіраўся Васіль да знаёмых месцаў у Капыльскі раён. Разлічваў у бацькоў жонкі паправіцца, набрацца сіл і рушыць на ўсход, да сваіх.

- Нічога, хлопцы, мы яшчэ паваюем, - падбадзёрваў ён нас, - трэба толькі, каб людзі верылі ў перамогу.

Васіль хваліў нас за выпуск улётак, раіў збіраць і хаваць зброю, патроны, прыглядацца да людзей, хто як вядзе сябе, з кім можна будзе пачынаць барацьбу з захопнікамі, вучыў асцярожнасці і адвазе.

За кароткі час мы з Валодзем сабралі і схавалі дванаццаць вінтовак, больш паўтысячы патронаў. А свой трафейны пісталет я падарыў Васілёнку. Ён неўзабаве пайшоў у партызаны.

**ВЫВЕДКА**

Апоўдні я з Валодзем Біруком падышоў да раеўскага лесу, якраз у тым месцы, дзе сцяжынка

ўлівалася ў шырокую, затаптаную коньмі і зрэзаную глыбокімі каляінамі дарогу. Тут стаяў падбіты бронетранспарцёр, як бы адмыслова пастаўлены, каб ахоўваць уваход у лес. Дарога агінала яго з трох бакоў. А правей праходзіў роў, берагі якога густа параслі быльнікам. У гэтых месцах зусім нядаўна праходзілі гарачыя баі, і па нашай здагадцы там магло застацца шмат зброі. Вырашылі сабраць, што ўдасца. Раптам заўважылі пасярод балота невялікі астравок. Туды і накіраваліся.

Пераадолеўшы зыбкую багну, выбраліся, нарэшце, на паляну.

- Давай адпачнём, - сказаў Валодзя і прылёг, прымінаючы нягнуткія галінкі верасу.

Я не паспеў яшчэ апусціцца на зямлю, як убачыў паміж дрэвамі мільгнуўшую постаць.

- Нехта на выспе ёсць, - шапнуў я Валодзю і пачаў яшчэ пільней узірацца ў глыб лесу.

Валодзя таксама насцярожыўся. Неўзабаве мы заўважылі, як трое ішлі прама да нас. Не было сумневу, што яны нас убачылі.

- Дабрыдзень, хлопцы, - усміхаючыся, прамовіў невысокі мужчына.

Твар яго густа зарос шчаціннем, і толькі вочы молада свяціліся.

"Знаёмы голас", - мільганула думка. "Дык гэта ж Жыжык!" І я не ўтрымаўся:

- Дабрыдзень, Іван Кліменцевіч!

Як потым высвятлілася, з ім на выспе былі Уладзімір Шпакоўскі, Пётр Ліннік, Пётр Лагвіненка, Уладзімір Лазоўскі і Іван Масілевіч.

...Туман падымаўся рванымі жмутамі і сплываў усё далей у поле. Мы спыніліся на пагорку, дзе калісьці быў хутар Вароніна. Адгэтуль да Крывасёлак - рукою дастаць. Прыслухаліся да вячэрняй цішыні.

- Відаць, спакойна,- сказаў Жыжык, і мы пачалі прыглядацца да паселішча.

Вось ужо і сілуэты хат прыкметныя. Увайшлі гародамі ў двор Івана Мароза. З цемры кінуўся пад ногі сабака, заліваючыся брэхам. Ад нечаканасці Жыжык адскочыў у бок і прыціснуўся да сцяны.

- Шарык! - прычуўся густы бас гаспадара, і сабака супакоіўся. - Хто там? - кінуў у цемру Мароз.

- Свае, - адазваўся Жыжык.

Ён пазнаў гаспадара і ступіў насустрач.

- Добры вечар, Іван Іосіфавіч!

Мароз хвіліну-другую ўзіраўся ў госця.

- Ці не Іван Кліменцевіч?! - раптам вырвалася ў яго радасна, і ён з распасцёртымі рукамі сустрэў госця. - Вось ужо не чакаў! Праходзьце.

Жыжык, Бірук і я ўвайшлі ў хату.

Гаспадар яшчэ раз цыкнуў на сабаку, на імгненне затрымаўся, услухоўваючыся ў начныя гукі,



***Жыжык І. К.***

і пстрыкнуў завалай.

Акно на кухні завесілі коўдрай, запалілі газоўку. Пры цьмяным яе святле Мароз пільна ўзіраўся ў твар Жыжыка:

- Жывы, здаровы? Ну і добра. Зарос толькі,- ён усміхнуўся, - ды і мы бароды адгадоўваем, старэй здавацца хочам, як-ніяк маскіроўка.

Іван Іосіфавіч выйшаў у спальню, і было чуваць, як будзіў ён жонку.

- Які госць у нас! Чуеш, падніміся. Збяры на стол.

Гаспадыня неўзабаве выйшла на кухню, прыжмурыўшы вочы, узіралася ў Івана Кліменцевіча.

- Не пазнаеш, ці што? - з папрокам спытаў Мароз. - Гэта ж былы інструктар райкама.

Жонка пляснула рукамі:

- Слова гонару, не пазнала! Іван Кліменцевіч! Ай-яй-яй! - І замітусілася, ставячы на стол ежу і запрашаючы нас да стала.

Жыжык заўважыў:

- Вось ты, Іван Іосіфавіч, сказаў, што я былы інструктар райкама партыі. - Ён зрабіў націск на слове "былы". - А мяне, між іншым, ніхто не вызваляў ад гэтай пасады. Выходзіць, і ты былы чалец

не стараннаму вядзенню медычнай дакументацыі, гаварыў:

- Памятай, пішаш не для сябе, пішаш для пракурора.

Заўсёды навесну галіў сабе галаву “на лыса”, і 1 красавіка мы ўсе збіраліся ў тэрапіі на імяніны дырэктара, Збігнева. Жонка доктара Збышка, кардыёлаг Данута, арганізоўвава прыгожы прыём - салодкае і марожанае. Уваходзіць доктар Кусто, а адзін са стажораў RT выскачыў:

- О, пан доктар зрабіўся фараонам...

Быў скончаны ў вачах шэфа, усе замерлі, бо ніхто ніколі не адважваўся пажартаваць. Калі RT прыйшоў на стажыроўку ў гінекалогію, для шэфа не існаваў... Я, калі прыйшла ў першы дзень на стажыроўку ў гінекалогію, таксама была досыць смелая. Доктар папрасіў мяне, каб замерала яму ціск, я налажыла жгут і гавару:

- Пане доктар, калі ласка не міргаць і не дыхаць.

Здзіўлены паглядзеў на мяне, меў вялікія блакітныя вочы і мусіць яму спадабаўся мой жарт.

Атмасфера была сямейная; с.п. доктар Май, Божа, сама дабрыня, ардынатар педыятрыі, калі не было смертнасці ў радзільні і аддзяленні, у канцы месяца ставіў сняданне - белую каўбасу і здобу, прыходзіў персанал з усяго шпіталя.

Я добра зарабляла, мела халтуркі ў санаторыях, дзяжурыла на хуткай дапамозе і ў шпіталі ўжо на платных дзяжурствах, а трапілася мне таксама праз пару месяцаў замена ў пункце забору крыві, трэба было трохі папрацаваць, паездзіць па вайсковых частках, пачараваць жаўнераў, каб не шкадавалі крыві - усё ж, не да апошняй кроплі..., якія гэта былі грошы для стажоркі!!!

А якая сатысфакцыя - на вакацыі 1966 года прыехала да мяне мама, пасадзіла яе на тапчане і абсыпала маму грашыма! Не мела на чым спаць, тапчан займала мама, а падлогу калежанкі, якія прыехалі на вакацыі, то дзяжурыла...

Музычным фонам былі класічныя творы, у т.л.: “Папаўдні фаўна” Дэбусы, “Дэвертымент” Моцарта, а з папулярнай музыкі “Stranger in the nigt” Сінатры, хіт сезону.

**Каханне**

Недзе праз месяц побыту ў Калабжэгу сустрэла пана ад валізкі з Белагарду. Пайшлі на каву ў “Фрэгат” - я была ў вельмі добрай форме, добрая атмасфера на працы, лета, мора..., ну, і зрабіла на чалавека ўражанне, гэта было відаць. Так пачалося знаёмства з панам ST, у дададак ён дапамог мне зняць жыллё за невялікія грошы, бо жыла я ў так званым пакоі. “Нарачоны” з Познані замазваўся што раз хутчэй, я шмат працавала, зарабляла добра. Адхапіла вельмі добрую халтуру, залатвіў мне Доктар Кусто, у санаторыі МСВ, гэта была вельмі добрая школа працы аздараўленчай, знаёмства з панам Т пацяснела. Раз нават, калі я паехала дадому, прыехаў неспадзявана ў Кола, чым мяне жудасна разгневаў. Тату таксама.

Чалавек адукаваны, прыстойны, халасты, добра абстаўлены матэрыяльна. Мая прыяцелька Дануся, Цыцарон на педыятрычных дзяжурствах па пранікненню ў галоўкі, у вызначэнні груп крыві і выкананні пробаў скрыжавання, гаварыла:

- Слухай, гэта добрая партыя, а як што не так, то ў крайнім выпадку развядзешся.

Мама мая прыязджала да мяне досыць часта і гаварыла так:

- Кавалера трэба пасадзіць за стол, на абед ці на вячэру і агледзець, а потым трэба згуляць з ім у карты.

Нічога не схавае. І тут была ўся мудрасць. Уталкоўвала гэтыя максімы пазней усім сваім каляжанкам, якія мелі дачок на выданне. Таму прыслухвалася да тых настаўленняў.

Мама паглядала на мяне з паразуменнем, а Яскевічава (недасведчаным патлумачу, што гэта каляжанка з акадэміі, жылі разам - Вайташкова, Банчыкова і я) лопалася ад смеху сваім характэрным рогатам.

Мы дома з бацькамі часта гулялі ў карты, была гэта забава, супольнае вясёлае правядзенне часу з прыяцелямі, і каментаваць той гульні не буду.

Але так сталася, што 8 чэрвеня ён задэкляраваў выезд да бацькоў у так зв. справе шлюбу.

Не падкладаю тут ніякай мелодыі, бо неяк мне не прыпамінаецца, музыка будзе пазней.

9 чэрвеня было свята Божага цела, мы пайшлі на працэсію, па дарозе дадому пачаў ісці дождж, і мы ўвайшлі ў кавярню “Дануся” - я жыла побач. Уселіся. Я тут гляджу, а ў куточку па правым баку сядзіць мужчына - светла бежавы гарнітур, кароценька пастрыжаны, цёмны, загарэлы і з элегантна есць марожанае. Паглядзела і бліскавіца думкі прайшла праз мяне, а ўся душа вылецела з мяне праз макаўку галавы. Думка была такая - гэта мужчына для мяне!

Паглядзела на ST, ён - неяк дзіўна на мяне, тут ідзе песенька “Ніколі больш не глядзі на мяне такім паглядам”. І падумала, што я зрабіла...

У суботу цэлай кампаніяй, было гэта добрае таварыства маладых людзей - юрыстаў, архітэктараў - за аднаго з іх выйшла замуж Ганя Барташэвіч, я была сведкай на шлюбе, пайшлі вечарам у “Марское вока”.



Драўляная панямецкая кавярня на палях, пабудаваная на пляжы, туды мы рэгулярна хадзілі ўсёй капманіяй, была музыка, танцы, а піяніст на мой уваход граў адзін і той самы твор, мелодыю “The shadow in your smile”. Граў яе заўсёды, калі я ўваходзіла ў кавярню... Што гэта былі за часы!!!

Знаёмы падышоў да мяне і гаворыць:

- Вікторыя, выйдзі са мной на тэрасу, хачу табе некага прадставіць.

Выйшлі, каля бар’ера стаіць той “мой” з кавярні, не пачула ані імені, ані прозвішча... аглухла... пашлі танцаваць, толькі раз, але танга!!!

Вярнулася да сваёй кампаніі.

Праз пару дзён прыехала да мяне мама, бо пра выезд у Кола я цяпер не ўспамінала, была ў мяне таксама каляжанка з ліцэя Ірэнка, ну што тут доўга гаварыць... распавядаю ўсё маме, стаім каля акна і глядзім на вуліцу, жыла я на высокім першым паверсе - ідзе! Спадабаўся маме, а ў радыйку, маім транзістарку, гралі “Знаёмыя толькі пагядам”.

Праз некалькі дзён ардынатар падымае тэлефонную трубку, усе сядзім у кабінеце, бо шэф меў праблемы з хадзьбой і карыстаўся ласкай, таму, каб было блізка, рапарты, выпіскі, кансультацыі адбываліся ў лекарскай дзяжурцы.

- Вікторыя, нейкі прыстойны мужчынскі голас да цябе.

Застылі пёры ў руках.

- Гаворыць Дзівота, - хвароба, не ведаю чалавека, думаю, але слухаю.

- Ці не маглі б сустрэцца, пачакаю на паню перад шпіталем. Калі пані выходзіць?

Усё з трубкі чуваць. Ардынатр ўтыкаецца і кажа:

- Праз гадзіну...

Пачуў.

- Дзякую, ну то буду чакаць.

А, не! Цяпер прыпамінаю, што ён прадставіўся шэфу, і доктар сказаў мне, што гэта нейкі добра пастаўлены, прыстойны голас. Дзівота.

Ну і чакаў мяне, і так пачалося.

Вечарам ад 18-ай я мела дзяжурства па хірургіі і гінекалогіі, прыйшоў у шпіталь, дзяжурства не было такім напружаным, таму пагаварылі можа з гадзіну - сказаў мне, што адплывае ў мора і вернецца праз пару месяцаў. Распавёў мне ўсё пра сябе, я ведала, што буду чакаць.

Нераз прыходзяць мне ў галаву дзіўныя думкі, на нейкім спатканні пры музыцы падумала сабе: “Ну, калі зараз заграюць “Besame mucho”, то выйду за яго замуж! Загралі.

Ну, так і трывае да сёння.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Запозненае прызнанне

## *Біяграфічны сповед*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

## Хутары

Вымаўляю гэтое слова і чую, як поўняцца замілаваннем ды лёгкай смугою мае думкі. Дзве хутарскія мясціны ў суседніх вёсачках Хадатавічы і Малаеды, адкуль родам бацька і маці, сышліся ў маім сэрцы незгасальнай знічкай, якая колькі ўжо гадоў свеціцца ў думках і цешыць душу. Ад яе зыркага агеньчыка сыходзяць хвалі гаючага цяпла малечых дзён, што прабеглі сярод блізкіх і дарагіх людзей. На хутарах прайшло маё маленства. Да гэтых хутарскіх мясцін цягнуліся мае шляхі-дарогі, пакуль жылі там родныя. Цягнуцца і зараз, хай няма ўжо ні каменьчыка на тых мясцінах, дзе стаялі пабудовы, адно поле на ўзгорках, да самага небасхілу, так, што, здаецца, ніколі тут не жылі людзі. Але жылі, сеялі, аралі, расцілі дзяцей, спраўлялі вяселлі і радзіны. Гэта не тая гісторыя, што адкрываецца праз архіўныя пажоўклыя лісты, гэта дзея жыцця, якую я бачыў і спасцігаў сваім малечым розумам. І якую зараз, праз гады, спасцігаю зусім інакш, у іншым сэнсе, бо стаў бацькам, адчуў імгненнасць і беззваротнасць мінулых дзён. Тут не столькі хроніка часу, колькі хроніка адбіткаў дзіцячай памяці аб тагачасным вясковым жыцці.

**Хадатавічы. Дзед Васіль**

Невялічкі ўзгорак каля лесу, метраў мо сто. Ад яго акуратная і раўнюткая сцежка, прама ў елкі ды хвойкі, бярэзіны ды алешыны. На ўзгорку хата, плот вакол двара, пасярэдзіне праём, прыкрыты загарадкай з жэрдак, каб заехалі падводы ці зайшлі ў хлеў карова з цялушкай і авечкі, наўскасяк гумно. Збоку, пад плотам, калодзеж, прыкрыты густою



рабінаю; далей невялічкі садок, абапал ад яго соткі, за якімі бяжыць у бок дзядзькі Сяргея пахілая сцяжынка. А там, за дзядзькавай сядзібай, шырокая дарога на вёску, дзе грамадою тоўпяцца хаты і хлявы, разлілося балота, дзе людна і цікава.

А тут хутар бабы Наташы. Бацькавы мясціны. Тут я, малы, бегаю па двары за курамі, торкаю дубцом сонную свінню, гуляю з сабачанём, пужаю варон і сарок. Тут мне і цікава, і сумна. У хаце адзін дзед Петрык. Ён у камізэльцы паціху дыбае вакол шырокага стала, на шыі вісіць "санціметар". Размячае аўчыну, рэжа яе на кавалкі вялікімі і вострымі нажніцамі. Аглядае іх нетаропкім позіркам, перакладвае, мяркуючы на будучы кажух, потым пераносіць да швейнай машыны і стракоча то гулка, то паціху. Ён не ходзіць на працу, шые дома людзям кажухі, а калі-нікалі яшчэ такія лёгкія, з сукна, валёнкі з падкладкай на ваце ці камізэлькі.

Але больш кажухі. Петрык асабліва не любіць, каб я тут круціўся каля яго. Бо ўсюды, на дашчатай падлозе, на лавах, ляжаць кускі аўчыны, і я магу іх збэрсаць. Баба Наташа грыміць чыгункамі ў пярэднім пакоі, дзе печ, падлога з гліны, куфар у кутку, што застаўся ад дзеда Васіля, стол для яды. За дзвярыма - цёмная каморка, выхад у сенцы, з іх - на двор.



*Дзед Васіль - салдат царскай арміі. Прыкладна 1916-1917 гг.*

Мяне цягне ў каморку. Там, пад дашчатымі паліцамі, нерухома сядзіць на сене ў старой пляцёнцы курыца. Яна не пудзіцца, нават калі падыходжу блізка. Толькі пачынае кудахтаць і круціць галавою з чырванаватым грэбенем. Я не разумею, чаму на надворку нават і блізка не падыйду да курыцы - адразу ўцячэ, а тут нерухома сядзіць, не баіцца. Баба чуе кудахтанне, крычыць мне: не пужай, а то зляціць з яец, куранят не будзе...

Маці недзе на полі каля бульбяніка, бацька прыедзе пад вечар на ровары, а мо пехатою прыйдзе з Нясвіжа. Там ён знайшоў работу і часта не начуе на хутары.

Я выходжу на двор, баўлю час, ганяючыся за парасём, пакуль баба Наташа зноў мяне не прыпыніць. Потым ціха вяртаюся да курыцы ў прыцямнелую камору. Стаю перад ёю і думаю, адкуль жа возьмуцца тыя кураняты. Залажу пад паліцы, прысаджваюся каля пляцёнкі. Слухаю, як зусім па-іншаму чуюцца ў каморцы дваровыя гукі. Зарыкала карова - прыгналі з пашы на абед; забразгатала аб ланцуг вядро ў калодзежы - баба дастае ваду; задзынкала малако ў дайніцы - пачала даіць; пранізліва запішчаў кот - патрапіў бабе пад ногі, мяўкаючы і выпрошваючы свежага малака... "От, гадасць, няймецца табе, пайшоў вон!" - злуецца спалоханая баба Наташа.

Мне ў каморцы ўтульна і добра. Ніхто не ведае, дзе я, а я, наадварот, ведаю пра ўсіх, дзе яны... Вочы млеюць і пакрысе закрываюцца, я засынаю салодкім сном і, здаецца, бачу хмаркі на сінім небе, потым зоркі і месячык. Аднекуль здалёк голас маці, гоман на двары. Ці то нават бацькаў голас чуецца мне. Потым галасы становяцца гучней і трывожней, мяне штурхаюць, бяруць за рукі. Казка канчаецца, праходзіць сон...

- Бачыш, дзе ён, а мы тут свет перавярнулі! Увесь двор абмацалі, - упякае мяне баба Наташа. Твар яе расчырванелы. - Дзякуй Богу, што знайшоўся хлопяц... Ажно ў сэрцы закалола...

Падыходзяць бацька з маці. Я нічога не разумею. Бачу толькі, што на двары прыцемкі. Дзіўна - нядаўна ж было сонейка! Бацька бярэ мяне на рукі, маці чамусьці кажа:

- От, шныпарка малая! Эта ж куды залез! Толькі спусці яго з вачэй, то ні знойдзяш - такі дастычны... Падумаць адно, пад курыцу - і спіць сабе, а мы тут места ні находзім...

Гэта, бадай, адзінае, што засталося ў маёй памяці з нашага сумеснага жыцця з бабай Наташай на яе хутары. Баба Наташа. Драгавец Наталля



*Дзед Васіль (уверсе, другі злева) на фронце з салдатамі*



*Дзед Васіль пасля акопаў.*
*1917-1920 гг.*

Лявонцьеўна, была родам з суседняй клецкай вёскі Быхаўшчына. То кіламетраў з пяць у бок Клецка, за нашым лесам. У размовах звычайна казалі Бухаўшчына. Бабуля ў дзявоцтве мела бацькоўскае прозвішча Бельская. Пайшла замуж у Хадатавічы за Драгаўца Васіля Андрэевіча, майго дзеда. Было тое недзеў 1922-1923 гадах. Бо мой бацька, Драгавец Мікалай Васільевіч, нарадзіўся 25 верасня 1925 года, а перад ім была яшчэ старэйшая сястра Таня, ды памерла ў маленстве.

На гэтым хутары, на зямлі, што выдзеліў дзеду Васілю яго бацька Андрэй Андрэевіч, спачаліся і мае першыя крокі. Маладыя баба Наташа і дзед Васіль жылі спачатку разам з дзедавым братам Сяргеем, у адной хаце. На сваім пляцы ў першыя гады справілі толькі гумно. Хату ставіў другі мужык бабы Наташы Петрык Пятрушчыкаў, так яго звалі па-вясковаму, а па пашпарту Гадун Пётр Іосіфавіч. За яго яна пайшла замуж пасля смерці дзеда Васіля. Петрыка я і памятаю малым, як старэйшага мужчыну на хутары. Было мне тады гадоў чатыры-пяць.

А дзеда, Васіля Андрэевіча, ведаю толькі па адной-двух фотакартках. Адна маленькая, мо пяць на пяць сантыметраў, другая трохі большая - ён у форме салдата царскай арміі на фронце, недзе пад Баранавічамі, бо быў мабілізаваны на вайну з немцамі, відаць, у 1916 ці 17-м годзе.

Дзед Васіль памёр з тыфу, маладым і спраўным, памёр заўчасна. Па ўспамінах ён быў чалавек вельмі добры да людзей і да сваёй сям'і. Моцна кахаў жонку, цешыўся з сына. Маленькі Коля, наш бацька, запамятаў два ці тры вобразы жывога таты.

- Адзін раз ён брыўся, намыліў шчокі белай пенай, як дзед Мароз,- расказваў ён мне пра дзеда.- Схапіў мяне за каўнер, ды да сябе цягне, хоча прыціснуць да шчакі і смяецца, а я вырываюся, перапуджаны... Дык ён кажа: “Не бойся, Колік, то ж я, бацька, а не дзед Мароз...”

- Другі выпадак быў такі. Я малым круціўся каля вярстака, ён рабіў, заняты быў, не прыглядаўся на мяне. Маці праганяла, каб не шкодзіў, а я ўсё роўна там кручуся. Ухапіў неўпрыкмет яго аршын, такі з дзеравянных планачак сталярскі мэтар, круціў яго туды-сюды, пакуль не зламаў. А за Польшчай інструмэнт дорага каштаваў. Бацька ўгледзеў, забраў зламаны аршын ды ім мяне па мяккім месцы пацягнуў. Кажа, каб не шкодзіў болей...

Вось і ўсё, што засталося ў яго памяці. Маленькім хлапчуком быў, калі развітаўся назаўжды з бацькам. Нечаканая смерць забрала маладога дзеда Васіля, яму споўнілася толькі трыццаць, а сям'ю зрабіла сіратамі. На пачатку трыццатых гадоў на беларускіх землях лютаваў тыф, ад якога людзі не мелі ніякага ратавання, акрамя смерці. Тыф касіў пад корань цэлыя сем'і, сіратамі заставаліся немаўляты і падлеткі. Не абышла бяда і нашых пролкаў. Родная сястра дзеда Васіля Ганна ў суседніх Малаедах захварэла тыфам. Ён даражыў ёю, моцна перажываў і шкадаваў. Таму, калі яна памерла, сам паклаў яе ў труну і панёс на могілкі. А праз колькі дзён захварэў тыфам і хутка памёр, пакінуўшы малых - пяцігадовага сына Колю і ўсяго гадавалую дачку Ядзю. Так яны засталіся адны, без бацькі.

Застацца без гаспадара на зямлі - большага гора не прыдумаць. На мужчыне стаяла гаспадарка і перш-наперш цяжкая хлебаробская праца. Узараць зямлю, пасеяць жыта, сабраць ураджай,

бабу Наташу.

- За Васілём, казалі на сяле, Наташа гора не знала. Ён яе на руках насіў, - так гаварыла наша маці пра дзеда Васіля.

- Баба Волька нек расказвала, што яны разам былі недзе ў гасцях, і Наташа нешта закапрызнічала за сталом, то Васіль стаяў над ею ўвесь вечар, ажно тросся каля яе...

Пры маім маленстве, калі сяло гудзела людзьмі як вулей пчоламі, яшчэ заставаліся жывымі колькі чалавек, што памяталі дзеда Васіля. І заўжды пры ўспамінах гаварылі аб ім з асаблівай павагай: што Васіль Андрэеў чалавек быў акуратны, спагадлівы і вельмі прыстойны. А яшчэ славіўся як умелы сталяр. Рабіў прасніцы, верацёны, лавы і сталы, нават кросны.

Кросны дзедавай работы, што адышлі ў пасаг цётцы Ядзі, захаваліся. Мы з братамі адшукалі іх на гарышчы ў цётчынай хаце і паставілі на маім лецішчы. Штораз, бываючы там, углядаюся ў дзедаву працу. Шырокія ліпавыя плахі на чатырох вуглах, сасновы кругляш для палатна, грэбень з касцянымі планкамі, лодачка-бягунок, унізе, пад нагамі, панажы, шырокія і даўгаватыя педалі, нібыта лыжы... Усё пераплецена вяроўкамі-цягамі, злучана планачкамі, сціснута клінамі.

Колькі ж умельства, напругі і кемлівасці спазычылася дзеду Васілю, каб іх змайстраваць! Бо кросны гэта не для прастака, гэта выраб дыхтоўнага майстра. Яны ў сялянскай хаце, што тая маленькая фабрыка па вырабу тканіны. Прыбяруцца жанчыны зімовым ранкам з работамі - ды за кросны. Павольна, дзень да дня, накручваюцца на вал-кругляш цвяцістыя суконныя пакрывалы ці ільняное пруткае палатно. Ляскоча цэўка, стукацяць панажы. Ды не ў кожнай хаце такія фабрыкі. Дарагая рэч на той час.

Помніцца, як спраўна ўвіхалася за кроснамі цётка Ядзя, бацькава родная сястра. Не адвесці вачэй: то лоўка шугане плыткую лодачку-шпульку, чаўнык з цэўкай, налева, то, наадварот, направа; то перабірае нагамі па дошках-клавішах; то моцна грукоча рабрыстымі бёрдамі, падбіваючы перапленыя ніткі...

Казалі яшчэ пра дзеда, што любы і прыязны ён быў да сваёй радні. А радня здатная - чатыры сястрыцы і брат. Што з імі, дзе ды як яны прытуліліся?

Ганна, што заўчасна памерла з тыфу, была замужам за Антосем Пасацкім, родным братам бабы Волькі (аб ім яшчэ будзе гаворка) у Малаедах. Ад іхняга шлюбу засталося чацвёра дзяцей: Вася Пасацкі, жыў там жа, у Малаедах; цётка Стэпка, была замужам за Іванам Ляпешкам, жылі ў Нясвіжы;






***Кросны - справа для дыхтоўнага майстра***



*Сям'я Івана Іванавіча і Сцепаніды Антонаўны Ляпешка. Сыны Мікалай і Анатоль. 1968-1969 гг.*

дзядзька Анцік, жыў у Баранавічах, і Зоня, яе не помнілі, бо заўчасна згінула ад "падучкі", падучай хваробы. Усіх, акрамя, вядома, Зоні, я добра ведаў, бо часта бачыліся і наведваліся.

Мо бліжэй за іншых склаліся стасункі з цёткай Стэпкай і Іванам Іванавічам Ляпешкамі. Страчаліся, гасцявалі, не пpaмінaлi - заходзілі, бываючы ў нясвіжскіх крамах ці на базары. Не было выпадку, каб яны не накрылі стол, не пачаставалі мяне гарадскімі прысмакамі. Блізкімі таварышамі мне сталі іх сыны, Анатоль і Мікалай, будучыя афіцэры. Іван Іванавіч, бацька і гаспадар, быў здатным сталяром, вельмі каларытным, гаваркім чалавекам. Дагэтуль я часцяком у розных жыццёвых выпадках карыстаюся яго знакамітым выразам: "Кажы добра й будзе добра!".

Усялякі раз па дарозе дадому ў свае Хадатавічы хочацца мне зазірнуць на "Нова места", так ка-залі некалі на гэтыя пабудовы ў Нясвіжы, за Слуцкай брамай, на ўзгорку, дзе стаіць дагледжаны дом, жывуць прыязныя нам сын Івана Іванавіча Мікалай з абаяльнай Нінай, жонкай. Старэйшы, Толя, быў высокім афіцэрам Генштаба, зараз з сям'ёй жыве ў Маскве.

Цікава, што родныя па малаедаўскай Ганне прыходзіліся дваюраднымі і бацьку, і маёй маці. Бо Ганна была роднай цёткай бацьку, а Антось, яе мужык, родным дзядзькам маці. Калі пра Ганну я толькі чуў пераказы ў размовах, то другую родную сястру дзеда Васіля, цётку Вольку Грудзінаву, я хоць і не вельмі добра, але памятаю з дзяцінства, бо Грудзінавы жылі на ўскрайку сяла, перад могілкамі, куды я выганяў у статак нашу карову. Цётка была ўжо хворая, распаўнелая, часта сядзела ля адкрытага акна і пазірала на вуліцу. Заўжды вельмі ўважліва і дасціпна прыглядалася да мяне, малога пастушка, калі я бег за статкам. "Так эта Вася, Колеў сын?!" - пыталася яна ў каго на вуліцы ці на надворку і з дабрынёй кідала позірк у мой бок, аглядаючы з ног да галавы. Грудзіна Вольга Андрэеўна, сястра дзеда Васіля, нарадзілася ў 1903 годзе, а памерла ў 1985-м. Зараз у той хаце дажывае свой век бацькава стрыечная сястра Зоня, адзінокая і састарэлая, бо не сталася дзяцей. Яшчэ дзве сястры жывуць, Маня - у Нясвіжы, Валя - у вёсцы Хрыпкава, кіламетраў з пяць ад Хадатавічаў, таксама пажылыя.

Мо лепей і бліжэй за ўсіх ведаў я дзядзьку Сяргея, роднага брата дзеда Васіля. Ён, як нарадзіўся, так і пражыў з сям'ёй у Хадатавічах усе свае гады. Спачатку на хутары, з паўкіламетра ад бабы Наташы, а потым прымусілі дзеда з абжытага пляца, дзе мясціліся прыгожы садок, невялічкая сажалка, поплаў для выгулу птушкі, хлеў, гумно, хаціна - усё спрацавана і аздоблена ягонымі рукамі - перабірацца на голы дзядзінец у вёску. Сяргей і Мар'я, яго жонка, выгадавалі чацвёра дзяцей: дачок Сашу, Маню, Фаню, сына Толю.

Былі яшчэ сёстры ў дзеда Васіля. Стэпка замужам у Салаўях, вёска ў суседнім Клецкім раёне. Яе дзеці: Васіль з Грыцькавічаў, прыязджаў на бацькава пахаванне летам 2006 года; Маня. Волька і Таня. Я іх зусім



*З бацькам на магіле дзеда Васіля. 2002 г.*



*На нашым вяселлі. Прыгажуня з Салаўёў*

не ведаю. Толькі на маё вяселле ў 1977 годзе па запрашэнні бацькоў прыехала з Салаўёў Стэпчына дачка Таня. Прыгожая і прыемная жанчына, працавала там у краме. З ёю была дачка, студэнтка Менскага медыцынскага інстытута, прыгажуня - мая, атрымліваецца, траюрадная сястра. Пасля таго не бачыліся.

Яшчэ Анця, дзедава сястра, жыла ў Хадатавічах. Ад яе пайшоў і пабудаваўся недалёка ад нас Міша Каўшэль ці Міша Анцін, як яго называлі на сяле; у Казлах замужам за Марулевічам жыла Саша, Анціна дачка, і была яшчэ Фаня, пайшла замуж у Хрыпкава, вёска каля Міцькавічаў.

Такі вось ланцужок, ды не маленькі, нашай радні па дзеду Васілі. Калі падлічыць, дык траюрадных у нас з братам сясцёр і братоў, ого, колькі! Але ж пра некаторых не ведаем нават, дзе яны жывуць і чым займаюцца. Так складваецца па жыцці. Разрастаюцца галінкі з дрэва, вяжуцца новыя сувязі, падымаюцца новыя парасткі.

**Баба Наташа. Петрык**

Памятаю, як мы з'язджалі з бабінага хутара ў сваю адбудаваную хату, у вёску. Дзядзька Вечык, родны матмын брат, прыслаў грузавік. Для мяне, малога, то было дзіва дзіўнае - незабыўнае. Кабіна, мноства незнаёмых рычагоў, педаляў, ручак; непаўторныя пахі з мешаніны бензіну, скураных сядзенняў, цыгарэтнага дыму, чалавечага поту. Я і зараз беспамылкова пазнаю гэты пах у любым грузавіку. Ды, праўда, зараз кабіны так не пахнуць. Усё ў пластмасе.

А тады бацька і маці пасадзілі мяне каля шафёра, самі пагрузілі ў кузаў невялічкі скарб, што выдзеліла ім баба Наташа і што прыдбалі самі за гэтыя некалькі сямейных гадоў. У памяці нават гучная гамонка наконт крэслаў, якія бацька вынес з бабінай хаты. Ці то баба прасіла, каб ён іх не забіраў, а бацька не згаджаўся, бо крэслы прывёз дзядзька Вечык, як яны пажаніліся. Так ці інакш, але падзел адбыўся. Справа гэта заўжды нялёгкая і можа надоўга сапсаваць адносіны паміж раднёй. Тым больш, што галота пасля вайны была неймаверная. Але калі пачалі садзіцца, бацька наверх, мы з маці да шафёра ў кабіну, баба Наташа заплакала. Зажалілася яе сэрца.

Пра жыццё на хутары маці ўспамінала не лепш. Баба Наташа была гарачаватая характарам. "Успыльчывая", - казалі бацькі. Гэтая асаблівасць яе характару нядобра адбівалася на сямейным суіснаванні.

- Парадку ў іх ня было, - не раз з прыкрасцю гаварыла маці, прыпамінаючы свае першыя замужнія гады, - Петрык падчыняўся матцы, здароўем слабы, які з яго гаспадар?! Ня было толку... Наташа ўсё недавольная, нярвовая. Мяне на самую цяжкую работу, дажа, калі табою бярэмянна, пасылала...

- Адзін раз пасварылася. Дык выправіла ў прымаразак начаваць у гумно з хаты. Нешта ёй закруціло ў галаве. Бацька ў Нясвіжы, я адна там аставалася. Эта што за людзі такія былі, каб бярэмянную дзеўчыну ў гумно адправіць?..

Калі мы аддзяліліся, пераехалі ў сваю хату, што з дзедавага гумна паставіў на вясковым пляцы бацька, то і адносіны сталі лепшымі. Як раней, так і цяпер: свякроў і нявестка не павінны разам таўчыся ў хаце, бо не абыдуцца без папрокаў. Баба



*Баба Наташа са мной маленькім на хадатаўскім хутары. Прыблізна 1952-1953 гг.*

Наташа ці не штодня наведвалася з хутара на вёску да Ядзі, дачкі, не абмінала і нас, прысаджваючыся на кухні на зэдлік, што быў умураваны ў збітую з гліны нашу печ. Ніколі маці не выказала хоцьякі папрок ёй за мінулае, ніколі не было, каб не запрасіла за стол паесці "рэдкаго" (так называлі па-вясковаму тое, што гатавалі на першае: суп, боршч, бульён) ці смажанага са скваркай (пад скваркай разумелася не толькі спражанае сала, але і кавалак мяса, ці птушыная костка). Гаварылі аб справах на гаспадарцы, аб вясковых ці калгасных навінах. А навіны не радавалі.

На канцы 50-х - пачатку 60-х гадоў, выконваючы чарговую бязглуздзіцу тагачаснага савецкага кіраўніка Мікіты Хрушчова, хутары пачалі рушыць, жорстка, нават сілай прымушаючы сялян перасяляцца ў вёскі. Што значыць перасяляцца? То сапраўдная трагедыя. Ні капейкі на гэта не давалі. Бяры селянін сякеру, разбірай сваю хату, гумно, хлеў і перацягвай на параконцы на новы пляц. Але ж там трэба зрабіць падмурак, выкапаць пограб, калодзеж, абгарадзіцца плотам, паставіць хлеў... Бяда! Адкуль узяць сілы, людзей, дзе знайсці грошы?

Прыйшлося разбіраць і бабіну хату. Прымус мясцовых начальнікаў быў непахісны. Бацька разам з Колем Ядзіным, мужам сястры, пад галашэнне і жаночы плач пачалі бурыць пабудовы і перавозіць хутар на голую пустэчу ў вёску. Абжытае месца, калі разабралі хату, стала няўтульным і жаласлівым. Праз год трактарамі выдзерлі прыгожы сад, засыпалі калодзеж - ад былога жытла не засталося і следу.

Баба Наташа цяжка прывыкала да новага месца, не кажучы аб тым, колькі гэта каштавала ёй сілы, душэўнай мукі і здароўя. Перасяліўшыся, яна стала часцей бываць у нас, жалячыся на розныя няўдобіцы вясковага існавання. І зямля бедная, няўгноеная, і абрабіць яе няма сілы, і сенакосу не даюць...

Яно так і было. Доля сялянская ніколі не была завіднай. І пад Расіяй, і пад палякамі, і пад нем-цамі аб адным толькі думалася: як выжыць, як пракарміцца, як вытрываць. Бо не родзіць зямля, душыць падаткамі ўлада; у вайну партызаны забяруць апошняе, альбо немцы падпаляць хату за тое, што заходзілі партызаны... А яны, партызаны, не пыталіся, заходзіць ці не заходзіць...

Пры бальшавіках, як называлі на вёсцы савецкі лад, сілай загналі ў калгасы, адабралі зямлю, жывёлу, усталявалі жорсткае працоўнае рабства, лічы, што без аніякай аплаты, за сімвалічныя пяць капеек. Аблажылі падаткамі кожную курыцу на двары і яблыньку ў садзе. Сагналі людзей з хутароў. Аб пенсіях нават і не чулі.

Я дзіўлюся часам: як, наогул, яны выжылі і выстаялі ў пекле вайны, у сталінскім рабстве, у хрушчоўскай бязглуздзіцы? Дзяржава ніколі не песціла беларускага селяніна, яна ніколі не была яму сваёй, роднай. Часцей за ўсё была мачахай, злоснай і нядобрай, як у тыя тлумныя паслярэвалюцыйныя часы. Таму і не дзіва, што не трывалі такога жыцця, рана адыходзілі на той свет людзі. Помнікі на могілках сведчаць: памёр у пяцьдзясят, у пяцьдзясят пяць, калі перажыў шасцігадовы дзясятак, то добра...

Патрацілася нервамі і здароўем праз тыя ліхаманкавыя гады і баба Наташа. Толькі ўявіць, чаго ёй каштавала застацца адной з малымі дзецьмі на руках пасля смерці гаспадара! Гібельны лёс чакаў наперадзе такую жанчыну. "Уратавалася", як казалі, што за Петрыка пайшла замуж. Гэта сапраўды было выратаваннем для яе і для дзяцей - Ядзі і Колі. Хоць з гаркатою, не раўняць, што пры родным бацьку, але выжылі, перартрывалі вайну,



*Няма ні каменьчыка там, дзе стаялі пабудовы*



*Калодзеж, як у вёсцы*

калгасную галадуху, падняліся на свае ногі.

Сэрцам і душою баба Наташа была спагадлівым чалавекам. Я добра памятаю яе ў бальнічнай палаце. Мяне давязлі да дактароўу Нясвіж, калі апендыцыт пераходзіў у агульную інфекцыю. Жыццё вырашалі хвіліны. Збярог мяне ад магілы хірург нясвіжскай райбальніцы Мікалай Мікалаевіч Падгайскі. Яшчэ ў машыне, перад Нясвіжам, я страціў прытомнасць, нічога не памятаў, а калі праз дзень расплюшчыў вочы, то ўразіўся, што вакол белыя сцены, а на столачку каля майго ложка сядзіць баба Наташа. Два тыдні яна начавала ў бальнічнай палаце, але дагледзела мяне, шасцігадовага ўнука, пасля вяртання з таго свету. Ні бацька, ні маці не маглі адлучыцца з гаспадаркі і ад работы ў калгасе. Пагадзілася быць са мною ў тыя цяжкія хвіліны баба Наташа.

...І зараз бачу перад вачыма яе вобраз. Бачу, як яна ідзе да нас. Сагнутая, з палачкай, але шпарка рушыць па вясковай вуліцы, перавязаная на галаве цёплаю хусткай, у чорнай фуфайцы, рукавіцах і валёнках. Часта дыхае, заходзячы ў хату, бо калоціцца сэрца. Мне заўжды станавілася шкада бабу Наташу. Было відаць, як цяжка ёй даецца жыццё. Мучылі арытмія і задышка. Пакрысе сталі дрыжаць рукі. Часта яна магла разнервавацца і заплакаць з-за якой дробязі. Здавалася, няма нічога кепскага, каб нервавацца і перажываць, а яна ўсё роўна заклапочаная і напружаная. Цяпер, праз гады, я разумею, што баба Наташа, бываючы ў нашай хаце, вінавацілася перад бацькам і маці за мінулае, за тыя прыкрыя недарэчнасці ў адносінах падчас сумесных дзён на хутары.



*Каля адрынкі (дзверы ўхлеў ці гумно), што зрабіў дзед Васіль. 2002 г.*



*Куфар дзедавай работы*

А была яна ўжо немаладая. Ды яшчэ заўчасна, восенню, 6 лістапада 1966 года, памёр і другі мужык, Петрык. Не вытрываў, не пераэжыў пераезду з хутара. Пачала адольваць хвароба. Ён даўно мучыўся пякоткай страўніка. Мне было трынаццаць, пайшоў у пяты клас. Дзеду Петрыку ішоў шэсць-дзясят трэці - не стары яшчэ мужчына. Перад тым бацька адвёз яго ў Даматканавічы. Там мясціўся фельчарска-акушэрскі пункт і было некалькі ложкаў для хворых. Бацька трохі ведаў тамашняга доктара Страцкевіча. Але не памагло. Хвароба была даўняя. Яшчэ на хутары я наглядаў, як Петрык часта падыходзіць да куфэрка, дастае белы парашок, размешвае з вадою і выпівае. Мяне дзівіла, што парашок шыпіць у вадзе, выпускаючы процьму бурбалак. Так шыпела сода, якой ён ратаваўся ад пякоткі, ці язвы па-руску.

Петрык умеў добра шыць кажухі. А гэта справа на вёсцы цанілася. Кажух узімку для селяніна - найпершая адзежа. Зімы ў той час стаялі марозныя, завейныя. У ватоўцы перакалоцішся з холаду. А добрых шаўцоў няшмат. Да Петрыка людзі займалі чаргу, нязлі аўчыны і з суседніх вёсак: Арды, Жылічаў, Даматканавічаў. Яго прафесійны інструмент - нямецкая швейная машынка "Зінгер" - брала тоўстую аўчыну. Кажухі выходзілі



*Дзед Петрык шыў кажухі. То хлопцы любілі ў іх пафарсіць...*

ў Петрыка акуратныя, да спадобы людзям. Таму і гонар ён меў. Грошы зарабляў неблагія. Лічыўся завідным кавалерам. Так на сяле называлі сталых хлопцаў-халасцякоў. Калі ўзяў у жонкі бабу Наташу пасля смерці Васіля, то купіў пляц на хутары, паставіў там новую хату. Дзівіліся людзі: глянь, Петрык Наташу ўзяў з двума дзецьмі... На сяле такое здаралася рэдка. Жанчына з дзецьмі, удава - прапашчая лёсам; не кожны мужчына рашыцца карміць не сваіх...

Калі шчыра гаварыць, то дзед Петрык быў па вясковай прыкмеце чалавек "нелядакі", значыцца, не сварлівы, не злы. Крыху занудны, па матчыных словах, "фанабэрысты", але да бабы Наташы прыязны, да дзяцей прыёмных таксама. Бо са сваімі не зладзілася. Як я дазнаўся праз архіўную даведку, неяк дома аб тым і не гаварылася, у бабы Наташы з Петрыкам нарадзіўся сын Аляксандр. 9 чэрвеня 1932 года яго пахрысцілі ў царкве ў вёсцы Малева ў прысутнасці хросных Мікалая Якаўлевіча і Яўгеніі Мікалаеўны Другавец. Але хлопчык неўзабаве памёр. Слабенькі аказаўся здароўем. Сам Петрык таксама быў слабы сілаю, хваравіты, гаспадаркаю не мог займацца. Ды меў іншую здатнасць: майстар, шавец - не той статус, каб каля свіней хадзіць. Араць, сеяць ды гной цягаць на прыватніцкую зямлю давялося вучыцца маладзенькаму яшчэ Колю, нашаму бацьку.

Мінуўся немалы час ад тых падзей. Баба Наташа і Петрык пахаваны на вясковых могілках адзін каля аднаго. У іх на помніку адно прозвішча - Гадун Наталля Лявонцьеўна і Гадун Пётр Іосіфавіч. Дзед Васіль ляжыць ад іх трохі вышэй, метраў праз трыццаць. Збоку магіла яго бацькі, нашага прадзеда Драгаўца Андрэя Андрэевіча. Тут, на могілках, яны ўсе блізкія і навечна паядналыя.

Баба Наташа памерла 7 ліпеня 1982 года. Было ёй пад восемдзесят гадоў. Я ўжо дасягнуў пасады першага сакратара Менскага гарадскога камітэта камсамолу. Тыдні за два да смерці прыехаў на вёску. Маці кажа: моцна хворая баба Наташа, ты пайдзі да яе. Мы пайшлі з бацькам да цёткі Ядзі, дзе ляжала немагушчая бабуля. Я спрабаваў яе супакоіць, разважыць, але яна ўсё ведала лепей за мяне. "Не, дзеткі, я не пражыву доўга. Слабая зусім...". Так і выйшла. Мо праз тыдзень ці два баба развіталася з намі. Ішоў дождж, была восень. На пахаванне прывезлі маладога бацюшку. Пасля могілак мы стаялі з ім каля Грудзінавага плоту і разважалі пра зямное жыццё...

Бабу задушыў валляк, так на вёсцы казалі пра запаленне шчытападобнай залозы, ці па-навуковаму гіпертэрыёз. Праз некалькі гадоў такая ж






*Магілы бабы Наташы і Петрыка на Хадатаўскіх могілках*

хвароба напаткае бацьку, маці, мяне, цётку Ядзю, яшчэ многіх вясковыхлюдзей. Прычынай, відаць, тое, што вада ў нашых калодзежах не мае патрэбнай колькасці ёду. Яна сапраўды іншая нават на смак. Чай з яе атрымліваецца, нібыта з мыла звараны. Ды гэта тэма асобнай размовы. А тады, на могілках, я ўпершыню пацалаваў бабу Наташу ў халодныя губы. Пры жыцці не прыйшлося. А кепска. І шкада таго. Мо пра тое думаў і бацька, калі, развітваючыся назаўсёды, казаў перад труною: "Даруй мне, маці, за ўсё...".

З родных у бабы Наташы былі сястра Марыля і брат Аляксандр. Ён не вярнуўся з фронту, згінуў на вайне. Марыля жыла пад Клецкам. Муж яе, Бацьвінка, працаваў на вадакачцы, на чыгуначнай станцыі ў Лукаўцах. Яна не раз, як казала маці, ушчувала бабу Наташу за сваркі, калі бацька і маці жылі на хутары ў Хадатавічах. Цётку Марылю яны паважалі. Цётка цяжка хварэла. Я бачыў яе толькі аднойчы, калі прыехала яна на хутар пагасцяваць да бабы Наташы, да сястры сваёй. Здаецца, тое было на Каляды. Добра адкормлены конь чмыхаў белаватай парай; здатныя санкі запакаваны пахучым сенам і пакрыты квяцістай саматканай дзяружкай; цётка Марыля, поўная целам, бадзёрая і прыязная, з боханамі жаўтаватых пірагоў, з пакункамі і карзінамі...

Ад Марылі пайшоў сын, бацькаў дваюрадны брат Валодзя Бацьвінка, які неспадзявана памёр. Я добра ведаў яго дзяцей Галю і Юру, маіх траюрадных. Ды Юра памёр маладым, а Галя скончыла педагагічны інстытут, замужам на Магілёўшчыне.

У бабінага брата Аляксандра яшчэ да вайны радзіліся Маня і Ніна. Маня жыла ў Ардзе, да нас амаль не прыходзіла, а Ніна ў Жылічах (вёска Клецкага раёна) і была замужам за Лёдзем Казарыным. Такое не характэрнае і рэдкае для нашых мясцін імя - Лёдзя. Так звычайна звалі, на польскі манер, жанчын. А тут мужчына, вядомы ў калгасе трактарыст, дасціпны чалавек. Лёдзя з Нінай часцяком на матацыкле, звычайна пад вечар, наведваліся да нас у Хадатавічы. Ён поўны, мажны, з кучаравымі валасамі і вельмі цікавы ў размове. Расказваў пра свае справы ці пытаўся пра наша жыццё, то нібыта артыст у тэатры: голас то заміраў, то ўзвышаўся, іграў мноствам тэмбраў, сугуччаў, пераліваў - заслухаешся... Цётка Ніна штораз яго прыпыняла: то сціхні ты ўжэ...

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Віктар Дземеш*

# КАБ І СЛОЎЦАМ НЕ ЗГРАШЫЦЬ
## альбо маё бачанне Сымона Буднага

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Частка IV**

**Не давай сябе адолець ліху**

Сотні бочак з півам Радзівіл
Выкаціў:
- Гуляйце смерды-хлопы!
Шчодрасцю такою ўсіх здзівіў,
Медавухаю не абдзяліў,
Пір гудзе ажно на паў-Еўропы.

Гэта праўда, так вось і было,
Выпадак такі меў месца колісь,
Хоць і "Чорны", але ў ім жыло
Высакародства, што з нябёс цякло,
Тое помніць наш Нясвіжскі поліс.

Нехта - як з карэнняў, хтось ляжыць,
Абдымае матухну-зямельку...
- Эх, як добра з Радзівілам жыць!
І зусім не хочацца тужыць,
І тым больш з адчаю лезці ў пельку.

А які адчай? Цвіце Нясвіж,
Ну і ты з ім расцвітай паціху,
Паміж будняў, сціплых свят паміж,
І з малітваю глядзі на крыж,
Не давай сябе адолець ліху.

**Працаваў да поту ды ў ахвоту**

Дзесяць тысяч год таму назад
Вынайшлі былі шумеры піва;
Хто напою з мужыкоў не рад,
І мы п'ём па два, па тры падрад
Куфлі і ўсміхаемся шчасліва.

У часы Сярэднявечча яго знаў
Тут кожны, і ў шынках крыклівых
Ахвотна да абеду браў,
З пенаю губамі пекна граў,
Умасляў свой побыт палахлівы.

За жыццё быў страх, дзе гвалт і здзек,
Дзе лілася кроў ракой няспыннай.
Колькі болю зведваў чалавек!
Той, хто стаў мацней, слабейшых сек
Нават без прычыны, без правінаў.

Будны ў тых шынках зрэдзьчас бываў:
Рэлакс, потым зноўку за работу,
Пра якую ён не забываў,
Але розум свой не рабаваў:
Працаваў да поту ды ў ахвоту.

З бою ў бой - і гэтак кожны дзень,
Манатонна, але так цікава!
Над станком Сымона хуткі цень,
Млосць сцякае ў пяты ад кален,
Але ўпарта рухаецца справа.

**Калі Богу верыш, як сабе**

Калі Богу верыш, як сабе,
Па слядах ягоных крочыш прама,
Перасіліш д'ябла ў барацьбе
І любога ворага таксама.

Бог да далі светлай нас вядзе,
Набліжае выбраную мэту,
Дорыць моц і смеласць кагадзе,
Паддае і волі, і імпэту.

Выйдзеш з перавагаю ў бядзе,
Як пяройме гэткая знянацку,
І не возьме подлая нідзе,
Ты ў яе руках не станеш цацкай.

**Калі свядомасць прыгнятае нас**

Адкрыйся, як ты жыў, Сымон,
Як выстаяў сярод рознагалосіц,
Калі твой лёс пастаўлен злом на кон
І па табе нямыя ўжо галосяць.

Я б не сумеў так з норавам сваім,
Калі б лінуў у твар у нечы праўду,
І гэта б стаў апошні праўдзе гімн,
І хтосьці быў такому б дужа рады.

Як добра, што жыву не ў той я час,
Але і зараз відавочна цяжка,
Калі свядомасць прыгнятае нас,
Нібы на жываце ад дзягі спражка.

Здужаеш крутыя віражы,
Упадуць любыя перашкоды,
Смела перад часам ты бяжы,
Абганяй няўпэўненыя годы.

**Частка V**

**Век сляпых дарог**

Ты прыклад для мяне ў жыцці ўсялякім,
У райскім і пякельным, як калі...
Ірвуць душу маю, нібы сабакі,
Сябры-варагі да жывой крыві.

Сымон, ты гэткае зазнаў таксама
Тады яшчэ, у век сляпых дарог,
Калі між люду ценькая Асана
Чуць-ледзь жыла, яе не ведаў Бог...

**Помніць родная зямля**

Няхай віюцца плёткі-змовы
На ўсім маім зямным шляху,
З табой, Сымон, любыя ўмовы
Пераадолею змагу.

Выпрабаванні, што паслаў мне
Мой лёс, нікчэмныя пасля
Тваіх святых выпрабаванняў...
Іх помніць родная зямля

З Нясвіжам любасным у цэнтры,
Што Радзівілы берaглі,
Аўтарытэтна і імпэтна,
Як толькі ўмелі, як маглі...

**Да чалавечых дзеяў без хістання**

Пазбыўшыся пачуццяў, дзе Мамона,
Распяўшыся душою на крыжы,
Любі Нясвіж і Буднага Сымона,
Жыццём - такім кароткім - даражы.

Аддайся Богу без вагання,
Вядзі людзей, што побач, што з табой,
Да чалавечых дзеяў без хістання
На свой і першы, і апошні бой.

**Учынак**

*Неба з аўчынку*

Зрабі сабе маленькі адпачынак,
А потым зноў на подзвіг кожны дзень,
Дзе Буднага разглядваеш ты ўчынак,
Нябёсы, што складаюцца з аўчынак,
Святло тваё на прыпечку з лучынак,
Абы ў святле тым раставраўся цень.

**Славы меднай залатыя трубы**

Час уцякае, як рываль ад шпагі
У небыццё, у страх ці ў супакой,
І мы, Зямлі часовыя бадзягі,
Цячом за ім лавінаю, ракой.

Сымона стрэну там, о, Божа любы,
Дзе сінь нябёс, дзе хмар сівыя гурбы,
Скажу яму сардэчных жменю слоў,
І славы меднай залатыя трубы
Нам праспяваюць пра любоў.

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Уладзіслаў Станіслаў Рэймант*

# 1794 год

## Апошні сойм Рэчы Паспалітай*

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Госці, захопленыя гэтым пышным відовішчам, блукалі анямелыя, нібы цені Елісейскіх палёў[1]. Бо хвілінамі здалося не аднаму, што Алімп спусціўся на зямлю з недасяжных вышынь і што ў гэтых чароўных гаях, поўных маланкаў і грымотаў, блукаюць разам са смяротнымі багіні, німфы і дрыяды[2] ў ціхім захапленні шчаслівым замілаваннем. І сапраўды, часамі грэцкія тунікі, аголеныя грудзі і босыя ножкі выплывалі раптам у прамяністых іскрах, нібы падвешаныя ў аблоках. Часамі толькі праплывалі бледнымі сілуэтамі, нібы ў гарачкавым трызненні, а хвілямі ўсё чалавечае знікала і панавалі толькі асляпляльныя выбухі прамяністых фарбаў і ценяў.

Відовішча было такім прыгожым, што, калі быў дадзены знак вяртацца, усе пакідалі пагорак з жалем, адрываючы сумныя вочы ад дагараўшых цудаў.

- Дзве тысячы дукатаў выдаткаваны на дым і смурод! - выказаўся нехта ўслых.

- А кароль кожны некалькі дзён клянчыць праз Боскампа авансы! - зашаптаў другі.

- А, не атрымліваючы жалавання, босае і галоднае войска, распаўзаецца па хатах, хоць вораг у межах Рэчы Паспалітай, - дадаў Зарэмба, прыблізіўшыся да гаварыўшых, але тыя заміргалі спалоханымі вачыма і замоўклі.

- Ідзём танчыць! - з'явіўся нечакана Война. - Куды гэты ты падзеўся? Падкаморша аблігавала[3] мяне, каб я цябе да яе прывёў. Хутка ж ты набіраеш вышыню ў яе вачах.

- Не ганюся за такім павышэннем! - буркнуў незадаволена Север.

Усё ж абодва накіраваліся разам з іншымі да палаца, які ўжо здалёк ззяў усімі вокнамі. Побач, абапіраючыся на плячо маладзенькага ксяндза, плёўся ў панурым маўчанні біскуп Касакоўскі.

- Прыйшла мне ў галаву геніяльная думка,- звярнуўся раптам Война да біскупа, які ўскінуў на яго хмурыя і злыя вочы.- Трэба даць Польшчы новага дэфенсара[4].

Біскуп затрымаўся на хвіліну.

- Мы маем для Кароны Станіслава; Літва цешыцца сваім Казімірам, таму было б слушна даць Русі[5] Якуба!

Касакоўскі пырснуў ад смеху, але моўчкі працягваў слухаць жарты.

- Біскуп Скаршэўскі,- прадаўжаў далей цалкам сур'ёзна Война, - дакажа чорным па белым, з найвялікшай вучонасцю, якія ў Польшчы дзеюцца цуды пад эгідай новага патрона; якім сапраўды цудоўным чынам прымнажаецца багацце некаторых суграмадзян; і як каронныя аслы ператваюцца ў мудрацоў і саноўнікаў. І якіх набывае сабе расійскі рубель гарачых празалітаў[6]. Не апісаць усіх гэтых заслуг і на валовай шкуры. Нунцый падтрымае нас у Рыме, і яе вялікасць імператрыца, вядома, не запрацівіцца такому ўзвышэнню свайго слугі, а Рэч Паспалітая годна ўзнагародзіць свайго шчырага добразычліўца. Бо ён жа сам запэўнівае, што ўсё, што ён робіць, робіць толькі для нашага дабра. Няўжо ж нам не захапляцца такой дабрадзейнасцю? Няўжо мы атруцім няўдзячнасцю такое чулае сэрца?

Зарэмба бухнуў смехам. Біскуп жа пагразіў:

- Як бы васпану раней не паўкарацілі язык!..

- Гэта будзе тады мая ахвяра на алтар няўдзячнай Айчыны.

- Васпану над усім толькі б пасмяяцца.

- А хіба ўсё гэта не варта насмешкі?

* Пераклад Станіслава Судніка паводле Wladyslaw St. Reymont. Rok 1794. Ostatni sejm Rzeczypospolitej. Wydawnictwo Literackie. Krakow, 1953 г.

[1] Елісейскія палі - у грэцкай міфалогіі замагільны свет, месца, дзе знаходзяцца памерлыя.

[2] Дрыяда - лясная німфа.

[3] Аблігаваць (з лац.) - абавязваць.

[4] Дэфенсар (лац.) - апякун, патрон.

[5] Русь - тут трэба разумець Украіну (*рэд.*)

[6] Празаліт (з лац.) - новы і гарачы прыхільнік, неафіт.

Біскуп маўчаў. Толькі, калі яны падымаліся на тэрасу, прамовіў прыязна:

- Запрашаю да мяне на абед. Буду рады цябе ўбачыць, хоць бы ўжо заўтра.

Война пакланіўся з падзякай і, правёўшы біскупа да дзвярэй палаца, узяў Зарэмбу пад руку і пачаў шаптаць яму з ажыўленнем:

- Павінен табе дакласці, што гэты трываць не можа Сіверса і робіць яму падкопы, дзе і як толькі можа. Абодва ненавідзяць адзін аднаго, хоць курчаць адзін аднаму прыемныя міны, як у танцы. Праглынуў мой кручок, ужо ж я яго выцягну.

- Ненавідзяць, кажаш ты, адзін аднаго. Але абодва дружна працуюць для Семірамiды[1]...

- Адзін працуе для сваёй спадарыні, а другі стараецца ўрваць, што атрымаецца, для сябе і для сваёй галоднай сямейкі. Ненаедны чалавек і таму страшны! Многім рэчам ты тут навучышся, май толькі вушы і вочы.

- Сказаць па праўдзе, я не па тое прыехаў, - адказаў асцярожна Зарэмба.

- Шукаеш фартуны? - задаў пытанне без хітрыкаў Война.

- Хачу аднавіць свой страчаны чын. Калі памятаеш, я не статыст[2], а жаўнер, і мне чужыя ўсякія іншыя матэрыі.

- Ну што ж, рыцар з-пад Дубенкі[3], будзеш у Гародні перамагаць розных подкаморшаў і ляжаш смерцю адважных на зялёным полі "фараона". Я пра тое, каб табе не забракла нагоды. А раптам табе ўдасца спакусіць Фартуну.

- Трэба з ёй памерацца.

- Вітаю рашучыя прынцыпы. Прызнайся, аднак, ці на самай справе ты прыехаў толькі для таго, каб тэнтаваць[4] пра вяртанне пад харугву? - спытаў ён нечакана.

- Так, і разлічваю, што дзядзька мне ў тым дапаможа.

- Кашталян заржэ кормнага вала ў гонар вяртання блуднага пляменніка і абросіць слязамі чулаае паяднанне. А што скажуць твае ранейшыя соцы[5]?

- Я ж вяртаюся на службу Рэчы Паспалітай.

- Дакладней, на службу магнатэрыі. Я бачыў твой подпіс на маніфесце[6].

- Але цяпер nolens volens[7] я мушу адкінуць пыху з сэрца і прасіць абсалюцыі[8].

- Кароль ахвотна даруе табе яе, можа быць, нават паабяцае табе сёе-тое, дзе-небудзь, калі-небудзь. Ніхто ж яго за абяцанне асуджаць не будзе. З усяго гэтага я мяркую, аднак, што табе моцна надакучыла лічыць бацькаўскія копы і лаяцца з пейзанамі[9].

- Адгадаў, я хачу ўжо сваіх гемайнаў[10] і экзарцарункаў[11],- прамовіў са смехам, задаволены тым, што Войнаа не прыпірае яго да сцяны пытаннямі.

- А што там у вас чуваць дома? - спытаў Война як быццам між іншым.

- Цяпер, уласна, я добра не ведаю,- збянтэжыўся, - цяпер я туды не заязджаў.

Увайшлі ў вестыбюль. З прылеглых баковак, перарobленых ў прыборачныя, даносіліся жаночыя галасы і смех.

- Ну, уладкоўвайся тут, як умееш, а я мушу на хвілінку адысціся, - сказаў Война і пайшоў.

Зарэмба павярнуўся да пазалочаных дзвярэй. Расчынілі іх перад ім два лакеі ў чырвоных фраках і белых парыках.

Яго агарнула цяпло, прасякнутае млявым пахам духоў, васковых свечак, гулам чалавечых галасоў і брынчаннем наладжваных інструментаў.

Спыніўся, здзіўлены шыкоўнай залай, што была велізарная, як касцёл, абітая чырвоным адамашкам і закончаная хорамі, што абапіраліся на чатыры белыя калоны, з-пад якіх пзалочаныя дзверы вялі ў анфіладу расчыненых насцеж пакояў. Пазалочаны шырокі карніз аблямоўваў угары сцены, рассечаныя белымі мармуровымі пілястрамі[12] на падоўжныя пано, у кожным з якіх паблісквалі старажытныя авальныя кандэлябры, кованыя са

[1] Семіраміда - надаванае Кацярыне ІІ імя легендарнай царыцы Вавілона, якая мела быць кабетай вялікіх здольнасцяў, жорсткай і свабодных звычаяў.

[2] Статыст (з лац.) - палітык.

[3] Рыцар з-пад Дубенкі - пад Дубенкай у Люблінскім ваяводстве (18 ліпеня 1792) польскае войска пад кіраўніцтвам Касцюшкі геройскі супрацьстаяла пераважным сілам царскіх войскаў.

[4] Тэнтаваць (з лац.) - старацца.

[5] Соцый (з лац.) - таварыш.

[6] Подпіс на маніфесце - гаворка пра адстаўку, у якую падаў Зарэмба, як і многа тагачасных афіцэраў-патрыётаў пасля далучэння караля да Таргавіцкай канфедэрацыі і абвяшчэння перамір'я ў 1792 г.

[7] Nolens volens (лац.) - хочаш не хочаш.

[8] Абсалюцыя (з лац.) - адпушчэнне грахоў.

[9] Пейзан (з франц.) - мужык.

[10] Gemein (ням.) - шараговец.

[11] Экзарцарунак (з ням.) - вайсковае цвічэнне.

[12] Пілястр (з франц.) - калона, часткова ўбудаваная ў мур.

срэбра, з запаленымі свечкамі. Скрозь высокія вокны свяціліся чырвоным святлом запаленыя на тэрасе урны. Круглыя люстэркі ў парцалянавых рамах, якія падтрымлівалі пульхныя амуры, глядзелі тут і там мутнымі вачыма. Вялікія люстры рассейвалі млявыя бляскі свечак і вясёлкавыя блікі крышталёў. Па блакіце скляпеністай столі порхалі млявыя Горы[1] перад пераможнай Аўроры[2], акружанай багінямі і амурамі, якія нацягваюць свае срэбныя лукі. Паркеты зіхацелі, нібы ледзяная роўнядзь, з-пад якой прагледжвалі цудоўныя арабескі з ружовага дрэва і цісу. Доўгія лавы, абцягнутыя чырвонай трыпай[3], як быццам вабна прысядалі на выгнутых пазалочаных, вытачаных пад казліныя, ножках, а ля кожнага з вокнаў і каля дзвярэй нерухома стаялі апранутыя ў чырвонае лакеі, гатовыя кінуцца на кожны ківок.

На гэтым шыкоўным фоне снавала вясёлая, бліскучая сацыета. Усюды было досыць людзей, смеху, бляску дыяментаў, аголеных бюстаў, развіваўшыхся валасоў, грэцкіх тунік, аголеных ног з зіготкімі пярсцёнкамі, мільгаўшых вееpаў, палымяных поглядаў і цудоўных тварыкаў. Прыгажосць, вытанчанасць і раскоша панавалі разам і непадзельна. Рой рознакаляровых фракаў, гальштукаў да паловы падбародка, голеных твараў, доўгіх камзолаў, абцiслых кюлотаў і прычосак а-ля Карацыёла зазіраў у вочы, расшарквўся і падскокваў, круцячыся вакол са звонам пустых слоў, шэптаў і адрывістых смяшкоў. Часам краем залы прабіраўся якісь ваяводскі кунтуш, падголеная чупрына, адвіслыя вусы, залацісты пояс, чырвоныя боты і рука на эфесе карабелі, мільгалі белыя панчошкі ў плыткіх матэрыяльных[4] патынках[5], старасвецкія багатыя раброны[6] з мантыны[7], старасвецкія твары і чапцы, абшытыя стужкамі, акідвалі поўнымі жаху вачамі напаўаголеных дам ды расчаравана і сарамліва ўсаджваліся дзе-небудзь у цені хораў.

А часам французскі з ancien regime'u[8] кавалер у жабо, зацёршыся ў натоўп, нібы пярэсты матылёк, і пастукваючы кійком і чырвонымі абцасамі, схіляў вытанчана напудраную галаву ў пары ку, з гарцапам[9] у залатой сетцы, галантна перад некім падмятаючы паркет капялюшом з усмешкамі і кампліментамі.

Альбо праментавалі[10] лянівыя дамы, усе ў шэлесце ядвабаў, уздутых на сцёгнах, у сівых, узбітых высока над галавой буклях, дэкальтэ ад пышных грудзей да нізу лапатак, з мушкамі на белых ад пудры тварах, з дыяментавымі завушніцамі ў вушах, шлейфамі на пяць локцяў, гафтаваныя золатам ліловыя туфлікі, маленькія веера, якія прыкрываюць ярка нафарбаваныя вусны і какетлівыя погляды падведзеных вачэй.

Часам праслізгваў праз натоўп які-небудзь лабусь[11] у кароценькім манталэ з карункамі, з вытанчана завітымі буклямі на скронях, прыгожы, напудраны, увесь пахучы, з залатой табакеркай у выпешчаных руках, у фіялетавых панчохах і чаравіках з дыяментавымі спражкамі, пакакетнічаў, тут і там пакрапіў салодзенькай усмешачкай, раздаў вытанчаную міласціну ласкальных слоў, паглядаў і тытуню, працёрся каціннымі рухамі паміж паннамі і, пажыраючы іх ліпкімі вачамі, гаварыў пра зусім невысокія матэрыі.

У шуме ўсё ўзмацняўшыхся галасоў чулася штохвілінна якая-небудзь новая мова: далікатныя італьянскія словы зіхацелі, нібы шпагі, вынятыя з аксамітавых похваў; часам брыдка хрыпела нямецкая, як быццам выпрабаваная толькі ў дыялогах з сабакамі; ангельская, падобная на скрыгат разгрызаных зубамі камянёў; хвалілася акцэнтамі руская; польская бухала вельмі складнай і вірлівай хваляй ці грукатала і неслася грымотна, нібы атака крылатых гусараў; але французскі бліскучы шчэбет, халодны і афарбаваны, найчасцей за ўсё пырскаў шампанскай пенай з'едлівых досціпаў і каламбураў. Двое з Сіверсавых афіцэраў, апранутых па апошняй модзе, трымалі пальму першынства ў гэтых, часта не зусім прыстойных, жартах і ў даволі бесцырымонных заляцаннях. Сацыета, нягледзячы на шыкоўныя манеры і вонкавы глянец, была даволі змяшаная. У ёй церліся нейкія замежныя персоны, вытанчаныя, адукаваныя, нярэдка тытулаваныя, але пра якіх ніхто ў дакладнасці нічога не ведаў. Хіба што амбасады, якія знаходзяцца з імі ў цесных

[1] Горы - у грэцкай міфалогіі багіні пор года і пор дня, ахоўніцы парадку.

[2] Аўрора - рымская багіня заранкі.

[3] Трыпа (з франц.) - ваўняная ці баваўняная тканіна, стрыжаная, як аксаміт.

[4] Матэрыяльны (з лац.) - ядвабны.

[5] Патынкі (з франц.) - плыткія пантофлі.

[6] Раброн (з франц.) - штыўная, шырокая сукня.

[7] Мантына (з італ.) - від ядвабу.

[8] Ancien regime (франц.) - стары лад, лад перад французскай рэвалюцыяй 1789 г.

[9] Гарцап (з ням.) - каса.

[10] Праментаваць (з франц.) - шпацыраваць.

[11] Лабусь (з франц.) - пагардлівая назва французскіх князёў-эмігрантаў, якія аказаліся ў Польшчы пасля рэвалюцыі 1789 г.

зносінах. Былі нават і дамы, рэкамендаваныя звыш і прыманыя ў самых прыстойных дамах, але таксама падазроныя. Круцілася таксама даволі шмат загадкавых суродзічаў і новых прозвішчаў, ад якіх пахла ўчарашняй набілітацыяй, але паколькі яны шчодра рассыпалі налева і направа золатам, былі майстрамі ў картах, інтрыгах і гулянках, то вялі рэй паміж моладзі, якая атачала іх любоўю і руплівa ім падражала.

Усё гэта кішэла цяпер у велізарнай зале, як бы абхопленае чадам вар'яцкай, пустой, бестурботнай весялосці.

Прыём быў пышны, віны цудоўныя, жанчыны прыгожыя, маладыя, прагныя да весялосці, кавалеры дародныя і такія буйныя, што ледзь маглі ўціснуцца ў рамкі прынятых слоў, завучаных зваротаў і штучнай стрыманасці. Яны перабіралі нагамі, нібы стрыножаныя жарабцы, у іхніх вачах блішчала неўтаймаванае жаданне, і яны ўсё больш нецярпліва чакалі пачатку танцаў.

Зарэмба аглядаў іх з немалым задавальненнем і накіданым вокам вярбоўніка мацаў гэтыя бычыныя каркі, спавітыя кісяёй гальштукаў, волатаўскія плечы, зацягнутыя ў прыгнаныя фракі, спружыністыя аленевыя ногі, жылістыя рукі і адкрытыя шчырыя твары, перакроеныя для паказу на модны манер. І з радасцю думаў, як хто-небудзь крыкне ўладна на ўсю Рэч Паспалітую:

- Да зброі! На каня!

Як у міг абляцяць з іх квяцістыя ўборы, заграе кроў, сэрцы напоўняцца мужнасцю, і ўсе апынуцца там, дзе павінны быць - у полі, бясстрашна заступаючы дарогу ворагу.

Ужо бачыў іх у віхуры бітваў, як яны б'юцца, нібы львы, калі раптам, заўважыўшы за пару крокаў Ізу, спешнаа нырнуў у натоўп і пачаў незаўважна прабірацца ў аддаленыя пакоі.

У апошнім, акруглым, абітым зялёным ядвабам і абстаўленым вытанчанай мэбляй, сабраліся вакол амбасадара ўсе тыя, хто ўяўляў сабой соль зямлі, яе раду і ў той жа час яе абарону.

Сіверс сядзеў у нізкім карзле[1] і, папіваючы ваду, настоенную на памяранцавых кветках, вадзіў стомленымі вачамі па тварах, кідаючы час ад часу якое-небудзь міласцівае слоўца.

Усе стаялі вакол, углядаючыся ў яго, заслуханыя і так глыбока пранятыя, што, калі ён павышаў голас, усе вочы ўпіваліся ў яго маршчыністыя шчокі, нібы пчолы, прыцягнутыя прынадай, а калі замаўкаў, нюхаючы табаку і не прапануючы яе нікому, твары цьмянелі, пагружаліся ў неспакой і трывогу, а варта было яму толькі паварушыцца, як натоўп несвядома таксама ўздрыгваў, і галовы вяльможаў хіліліся з радасным шэптам, нібы спелая ніва, да ног гаспадара.

Але вось ён нарэшце пачаў шпацырваць па пакоі. Усё расступаліся, нібы перад сакрамантам, жабрацкія погляды слаліся да яго ног, а ўніжаная подласць чакала на кожным твары хоць бы на адно яго слоўца, хоць на адну яго ласкавую ўсмешку.

Зарэмба ледзве стрымаўся і, захлынаючыся страшным гневам, уцёк назад у залу, уціснўся пад хоры і даў волю дзікай малітве нянавісці.

- Пастронкаў і ката! - шыпеў ён збялелымі вуснамі.- Якая ганьба, якая ганьба! - паўтараў ён, бічуючы сябе ўяўна да пякучага болю.

Раптам над яго галавой зазвінелі першыя гукі паланэза, і па зале прабеглі ўсхваляваны шум і воклічы.

- Паланэз! Месца, мосці панства! Месца! Паланэз!

Калі ж капэла, зліўшы ўсе галасы ў адно, зладжана павяла раскалыханую мелодыю, высокую і ўрачыстую, дзёрзкую і поўную павагі, радасную і гордую, загартаваную моцаю і дыхаўшую веліччу.

У раззалочаных дзвярах паказаўся Сіверс, з галантным паклонам падаў руку пані Ажароўскай, і абое пайшлі ў першай пары паланэза... А за імі рушыў доўгі мігатлівы карагод і паплыў па зале вясёлкава зіготкім вужам сярод уступчывых постацяў, какетлівых усмешак, пакорлівых паклонаў, досціпных слоўцаў пад гукі, якія разносіліся што раз шырэй, што раз праніклівей і што раз мацней...

Аж у зале зрабілася дзіўная ціша. Пары за парамі плылі ва ўрачыстым маўчанні, сапраўдная вясёлкавая стужка, і толькі капэла падавалала свае ўрачыстыя і чуллівыя галасы.

... Басы плакалі трывожным нараканнем заклапочаных старцаў, тут і там зіхацелі скрыпкі, як дзявоцкія вочы, абмытыя слязамі ў хвіліну расстання; віолы[2] заходзіліся адрывістым, балесным плачам; скардзіўся клавесін[3] і штосьці доўга шаптаў, штосьці ці кагосьці клікаў з глыбокай і далікатнай нудой; захлыналіся флетроверсы[4], нібы сярод гарачых пацалункаў сумных развітанняў - калі трубы загрымелі ўзнёслую, хмурную песню бою і славы; узарваўся горды шум арліных крылаў, загуў гулкі тупат, ляск цяжкіх даспехаў, далёкае ржанне, галасы, песні...

Панцырныя! Панцырныя![5]

[1] Карзел - род нізкага крэсла.

[2] Віола - даўні смычковы музычны інструмент.

[3] Клавесін (з франц.) - даўні музычны інструмент.

[4] Флетраверс (з франц) - даўні драўляны духавы музычны інструмент.

[5] Панцырныя - у дадзеным выпадку трэба разумець: “Гусары, крылатыя гусары” (*рэд.*).

Мароз прабраў да касцей! Сотня сэрцаў забілася, сотня рук лягла на эфесы шабель. Хадкевіч[1] наперадзе, тарант[2] пад ім у пене, лес расшумеўшыхся крылаў, вецер развівае харугвы, дзіды зіхацяць наканечнікі, пазвоньваюць карацэны[3], гул, як падчас буры, і, як падчас буры, хваляванне...

Вось сталі сцяной... бясстрашна глядзяць верныя вочы... блішчаць адзнакі, хрыпяць коні; нехта ціха ўздыхае, палымяны шэпт апошніх пацераў...

- Езус, Марыя! Бі, забівай! - грымнуў аглушальны крык і запілікалі жалейкі.

Наляцеў ураган, затрашчалі дзіды, грудзі выцяліся аб грудзі, зазвінелі панцыры, і ўжо б'юць мячы, як молаты, б’юць, як маланкі, б’юць, як перуны...

Закрычалі латунныя бляхі гарачым віхрам бою; рагочуць янычарскія бразготкі, трубы гудуць працяжна, як гарматы, скрыпкі зацінаюць свістам тысячы шабель, жалейкі пранізваюць штыхамі, бубны ўрываюцца раз-пораз сухім кароткім дробам, як бы трэскам самапалаў і чыніцца страшны галас; усё кідаецца, змагаецца, сутыкаецца і клубіцца, п'янае ад крыві, забойстваў і шаленстваў, і толькі басовы голас усё стогне глуха і аднолькава ўпарта, помслівa і няўмольна гучыць:

- Бі, забівай! Бі, забівай! Бі, забівай!

...............................................................

А ў першай пары танчыў Сіверс з паняй Ажароўскай.

.............................................................

Раптам пад самыя скляпенні грымнуў шырокі, трыумфальны спеў перамогі! Зашумелі спрадвечныя ліпы, грымяць "віваты", трасецца стары двор, ззяюць поўнямі вокны. Кроў грае ўпаеннем, рукі шукаюць рук, сплятаюцца любоўныя погляды, сэрцы пеняцца радасцю, нібы куфлі, напружваюцца душы, узносіцца жаданне.

Гэй, як цудоўна і весела на свеце жыць, гэй!

- Такт, мосці панове, адбівайце такт!

Запляскалі далоні, нахіліліся галовы, зашапацелі сукенкі, часам рыпнуць абцасы, страпянуцца вылёты і бразне карабеля...

Рэверансы, галантныя паклоны, раптоўныя ўкленчванні, асляпляльныя павароты, гарачыя пагляды, нямыя прызнанні, нечаканыя слёзы, і паланэз нясецца, выгінаецца, бліскае агністай стужкай укруг залы ў паводцы агнёў, фарбаў, аглушальных гукаў капэлы, сваволіць, спрачаецца, паспявае ўставіць прыпеўку, гарэзнічае, пырскае смехам,часам абарве цынічна, часам павее сумам і ўсё цудоўней закалыша мрояамі замілавання і забыцця.

..............................................................

А ў першай пары танчыў Сіверс з паняй Ажароўскай.

................................................................

- Ну, як забаўляшся? - спытаў Война, падсаджваючыся да Зарэмбы.

- Як у тэатры! Уся Рэч Паспалітая танчыць перада мною.

- Хутчэй усе польскія каналлі з годным апекуном на чале.

- Не бачу толькі Ажароўскага[4].

- Геройскі палкоўнік паехаў у Пецярбург. Можа там клапоціцца пра больш шчодрую ўзнагароду за скарачэнне войска[5]! А можа быць, толькі з прыязні да дэлегацыі, якая адправілася з адарваных ваяводстваў складаць прысягу імператрыцы.

- Іх прымусілі да homagium[6]...

- Не зусім. Але нашы магнаты так любяць царскія пярэднія пакоі!

- З кім танчыць Пуласкі? - спытаў Север, гледзячы на танцораў.

- З генеральшай Дунінай[7]. Нічога, можа спакойна весяліцца... Яе муж трымае пад гарматамі Гародню і ўсіх нас. Ёсць тут яшчэ больш такіх абозных дам. Сацыета адборная.

*(Працяг у наступным нумары.)*

---

[1] Хадкевіч Караль (1560 - 1621) - гетман вялікі літоўскі, выдатны ваенаначальнік, перамог шведаў пад Кірхгольмам (1605).

[2] Тарант (з ням.) - конь чорна-белай масці.

[3] Карацэна (з лац.) - панцыр са сталёвай лускі (невялікіх пласцінак).

[4] Ажароўскі Пётр - генеральны палкоўнік каронных войскаў, удзельнік Таргавіцкай канфедэрацыі, узведзены ёй у чын гетмана, належаў да соймавай дэлегацыі, якая зацвярджала другі падзел Рэчы Паспалітай. Па выраку Найвышэйшага крымінальнага суда згінуў на шыбеніцы 9 траўня 1794 г.

[5] Скарачэнне войск - Гарадзенскі сойм ухваліў скарачэнне войск, якое распрацоўвала Вайсковая камісія з гетманамі Ажароўскім і Касакоўскім на чале. 21 лютага 1794 года абвешчаны вынікі нарад Камісіі, уставу, якая змяншала польскую армію з каля 45 тысяч да 15 тысяч жаўнераў з тэрмінам выканання яе да 15 сакавіка.

[6] Homagium (лац.) - прысяга, васальная прысяга.

[7] Генеральша Дуніна - жонка камандзіра расійскай дывізіі, якая дыслакавалася ў Гародні.

*Ігнась Адамскі*

# ДА СУСТРЭЧЫ, СЯСТРА!

З пэўным хваляваннем у сэрцы, якое прадчувае адну з самых надзвычайных сустрэч у маім жыцці, я ступаю на ганак, асцярожна мінаю зацемнены калідор прыбудоўкі і ўваходжу ў старэнькую, асунутую хатку. У процілеглым баку першага пакоя бачу проста апранутую бабульку, якая сядзіць, абапёршыся локцем на стол. Я звяртаюся да яе:

- Bonjour, madame. Je demande pardon si je vous derange. Comment vous portez-vous?[1]

У адказ чую:

- Bon Dieu, vous parlez francais?![2]

Далей яна пераходзіць на рускую мову. Рускія словы, шчодраператрэсеныя з беларускімі, вымаўляюцца з моцным непаўторным альзаскім акцэнтам, прымушаюць мяне адчуць нейкую нерэальнасць падзеі. Твар гэтай незвычайнай жанчыны адразу ж прываблівае да сябе, асабліва яе карыя вочы, з маладым, поўным жыцця бляскам. Таму нельга не ўзгадаць, што яе ўзрост ужо мінуў межы восьмага дзясятка. Трэба патлумачыць, чаму асабіста для мяне сустрэча з Лідзіяй Іосіфаўнай (менавіта так клічуць гераіню гэтага аповеду) падалася такой цікавай.

Па-першае, сам я перакладчык ды настаўнік французскай мовы. Па-другое, два гады майго дзяцінства прайшлі літаральна ў суседнім двары, калі я вучыўся ў пачатковых класах, а мае бацькі ў сярэдзіне 50-х гадоў наймалі два пакоі ў хаце. Яе гаспадынямі былі дзве неардынарныя, скажам так, асобы - маці ды дачка, якіх між сабою чамусьці ўсе навокал клікалі вядзьмаркамі. І па-трэцяе, пасля таго, як яны памерлі, іхняя хата развалілася, а на суседнім пляцы пачалі будаваць малітоўны дом; потым рэштткі будыніны звезлі, а два надзелы злучылі разам ды абнеслі ладным плотам.

У дзяцінстве я неаднойчы чуў пра суседзяўфранцузаў, цяпер жа прыпамінаю толькі гаспадара той хаты, пажылога мужчыну, які заўжды насіў на галаве цёмны барэт - такі нетыповы для нашых мясцін галаўны ўбор. З гэтага чалавека, бацькі Лідзіі Іосіфаўны, мабыць, і варта распачаць апісанне дзівоснай эпапеі яе жыцця.

Іосіф Мікалаевіч Камлач нарадзіўся ў 1890 годзе на хутары паблізу сучаснай вёскі Зарэчча, што каля Гарадзеі на Нясвіжчыне. Першая сусветная вайна ўскалыхнула амаль увесь зямны шар, не пакінуўшы ў баку Іосіфа Мікалаевіча ды яго будучую жонку Браніславу, якая нарадзілася трыма гадамі пазней у польскім горадзе Лодзь. Іосіф, які працаваў настаўнікам ды не падлягаў прызыву на вайсковую службу, быў мабілізаваны ды накіраваны - куды б вы думалі? - у Пекін, на службу ў амбасадзе Расейскай Імперыі.

У 1918 годзе Іосіф Камлач быў ужо на германскім фронце, дзе неўзабаве трапіў у палон і апынуўся ў Эльзасе. Калі скончылася вайна, ён уладкаваўся на працу на металургічны завод у горадзе Алефанж. У 1920 годзе вернікі пратэстанцкай царквы, якую ён пастаянна наведваў, пазнаёмілі Іосіфа з маладой полькай, тая ад нараджэння расла ў сям'і евангельскіх хрысціян. За дзевяць гадоў сумеснага жыцця ў іх нарадзілася чацвёра сыноў, а ў 1923 годзе - адзіная дачка Лідзія.

Самым светлым і прыемным успамінам на працягу ўсяго жыцця Лідзіі Іосіфаўны былі цёплыя, прыязныя зносіны паміж вернікамі. Кожную нядзелю адбываліся абавязковыя прыёмы гасцей альбо наведванне сяброўскіх сем'яў у адказ. Да прыходу гасцей у доме пяклі пірагі, гатавалі смачную трусяціну. Сям'я Камлачоў найбольш сябравала з рускімі, беларусамі, палякамі, украінцамі, а са сталых жыхароў - з немцамі. Дарэчы, першай і асноўнай мовай дзяцей была нямецкая, а тата з мамаю размаўлялі між сабою па-руску. У школе ж выкладанне вялося выключна па-французску.

Адзін з самых незабыўных успамінаў ранняга дзяцінства - гэта воднае хрышчэнне бацькоў. І сёння, як жывыя, стаяць яны перад вачыма Лідзіі Іосіфаўны - маладыя, прыгожыя, у белых уборах. Прысутныя, у тым ліку і брацікі Лідзіі, назіралі за абрадам з высокага моста. Калі тату і маму акуналі ў ваду, дзецям чамусьці гэта падалося вельмі смешным і яны пачалі гучна смяяцца, не разумеючы, што парушаюць вялікую ўрачыстасць.

Увогуле, парадак у сям'і быў узорны. Бацькоўская ласка і пяшчота непарушна ішлі побач са строгай патрабавальнасцю. Рэдкія спробы дзяцей ухіліцца ад наведвання нядзельнай школы ўспрымаліся бацькамі як недапушчальнае свавольства. А дзеці - яны ўсюды дзеці. Заняткі ў нядзельнай школе ім не падаваліся вельмі цікавымі. Настаўнік чытаў урыўкі з Бібліі, тлумачыў асобныя месцы,

[1] Добры дзень, мадам. Прабачце, што турбую вас. Як вы маецеся?

[2] Божа мой, вы размаўляеце па-французску?!

вучыў дзяцей маліцца, вёў гутаркі пра культуру паводзін.

Непрыкметна ляцеў час. Лідзія закончыла вучобу. І тут пачалася вайна з фашысцкай Германіяй. Жыццё падчас нямецкай акупацыі у Альзасе не было такім страшным, як на іншых тэрыторыях, бо гітлераўскія ўлады нібыта імкнуліся дэманстраваць палітыку вызвалення.

Не сама вайна, а менавіта наступны пасля яе завяршэння год крута развярнуў лёс сям'і Камлачоў. Старэйшы брат Аляксандр пазнаёміўся з рускай дзяўчынай, якой давялося правесці вайну ў фашысцкім канцлагеры, і моцна закахаўся. Калі яна вымушана была ад'язджаць на радзіму, Аляксандр вырашыў ехаць разам з ёй у цалкам невядомую яму краіну.

У той час да Лідзіі пачаў заляцацца амерыканскі вайсковец. Яны пазнаёміліся падчас танцавальнай вечарыны. Як і ўсе яго таварышы, ён пайшоў на вайну дабрахвотнікам. Адбор праходзілі толькі самыя дужыя, вынослівыя ды спрытныя. Зразумела, што многія французскія дзяўчаты ставіліся да амерыканцаў з сімпатыяй. Дарэчы, тыя ніколі не злоўжывалі статусам вызваліцеляў, а вялі сябе вельмі годна і прыстойна. Адзін з іх, які няблага размаўляў па-нямецку, аднойчы сказаў Лідзіі і яе сябрам, што калі першыя дэсантнікі высаджваліся ў Нармандыі, яны па камандзе дружна крычалі: "Lafayette, we are here![3]".

Падчас падрыхтоўкі, акрамя баявой вучобы, камандзіры амаль штодзённа праводзілі з падначаленымі гутаркі, расказвалі пра гістарычныя дачыненні паміж ЗША і Францыяй. Склалася так, што векавыя супярэчнасці паміж Францыяй і Англіяй моцна паспрыялі вызваленню паўночна-амерыканскіх калоній ад брытанскай кароны. А асоба Лафайета, паплечніка самога Джорджа Вашынгтона, сталася адной з самых бліскучых сярод многіх герояў вайны за нацыянальнае вызваленне.

Лідзію з сяброўкамі не вельмі цікавілі падрабязнасці вайсковай справы, эпізоды баявых дзеянняў, але для яе было пэўным адкрыццём, што кожнае падраздзяленне ад батальёна да ўзвода праходзіла навучанне на брытанскіх астравах ва ўмовах, якія, дзякуючы аэрафатаздымцы ды іншым дзеянням разведкі, выбіраліся выключна блізкімі да рэальных. Тыя, хто збіраліся высаджвацца на пляжах, у гумовых камбінезонах гадзінамі мясілі мокры пясок ды пераадольвалі ірвы з вадой з цяжкімі пляцакамі за спіной. Тыя, каму на сакрэтных картах былі "нарэзаны" абрывістыя ўзгоркі, бегалі ды лупілі чэргамі з аўтаматаў ды кулямётаў ў падобным рэльефе. Такім жа чынам рыхтаваліся і пілоты бамбардзіроўшчыкаў і экіпажы планёраў.

Найбольш складаныя задачы выпалі штурмавікам так званых "фалезаў" - прыбярэжных стромых скалаў. Ім быў выдадзены самы дасканалы рыштунак, працавалі з гэтымі хлопцамі спрактыкаваныя майстры-альпіністы. На жаль, менавіта сярод іх часцяком адбываліся першыя страты яшчэ да пачатку самой аперацыі, і цынкавыя труны з іх целамі накіроўваліся праз Атлантыку ў бок ЗША і Канады.

Дык вось узгаданы джы-ай, які прадставіўся Лідзіі проста Майкам, пачаў прасіць яе рукі, нават звярнуўся з сваёй просьбай да маці дзяўчыны. Тая не стала ніякім чынам націскаць на дачку, проста параіла добра прыслухацца да голасу сэрца. Урэшце страх перад невядомай будучыняй жыцця ў далёкай краіне, а таксама няведанне таго, ці прыйдзецца яшчэ калі пабачыць ды абняць родных і блізкіх, перамог усё астатняе. Хутка амерыканцы пакінулі свае казармы ды вярнуліся дамоў.

У гэтым месцы аповеду сястры Лідзіі мне прыгадаліся словы з Пісання аб тым, што "…лёс чалавека - ад Госпада" (Кніга выслоўяў 29:26). Хто ведае, ці знайшоў бы Ён сцежку да яе сэрца ў заможнай Амерыцы?

Недзе ў 1946 годзе ў Алефанжы з'явіліся савецкія афіцэры. Ім, прадстаўнікам саюзнікаў па мінулай вайне, дазвалялася збіраць сходы ды мітынгі, дзе яны горача заклікалі былых суайчыннікаў вяртацца на радзіму, якая пасля перамогі пачынае разгорнутае будаўніцтва камунізму, што трэба было разумець, як несумненны рай на зямлі. Такія ж мітынгі адбываліся на гарадскіх плошчах. Агітатары (адкуль толькі яны даведаліся адрасы?) наведвалі кватэры эмігрантаў з рэспублік, што ў свой час апынуліся пад Саветамі, падчас чаго, ужо нікога не саромеючыся і не баючыся, гаварылі: "Ну што вам за сэнс працаваць на буржуяў ды эксплуататараў?"

Дарэчы, адзін з гэтых "буржуяў ды эксплуататараў", дырэктар завода, на якім працаваў Іосіф Мікалаевіч, дазнаўшыся пра намер з'ехаць на радзіму, выклікаў яго да сябе ў кабінет ды паспрабаваў адгаварыць ад такога паспешлівага рашэння. Паабяцаў памяняць іх тагачасную двухпакаёвую кватэру (з усімі выгодамі) на значна большую, прыняць на работу, калі падрастуць, астатніх сыноў. Але... што значыць сінічка на чужыне супраць журава ў родных нябёсах?

Пагрузіўшыся на цягнік, беларуская сям'я ў першы і апошні раз назірала праз вагоннае шкло зменлівыя маляўнічыя краявіды ад паўночнага ўсходу да самага поўдня Францыі.

[3] Лафайет, мы тут (англ.)

У Марселі іх чакаў цудоўны белы параход, які дастаўся Савецкаму Саюзу у якасці рэпарацыі ад пераможанай Германіі. Каюты ды калідоры, аздобленыя каштоўнымі пародамі драўніны, бронзай ды дарагімі дыванамі, шыкоўны рэстаран, кіназала, танцавальныя пляцоўкі - усё гэта не магло не пераканаць кожнага пасажыра ў тым, што ў іх жыцці насамрэч спраўджваецца чароўная казка, аб якой калі-нікалі марыць кожны чалавек.

Многія пачувалі сябе вельмі ніякавата з-за свайго велізарнага багажа, у якім былі спакаваны самыя розныя рэчы з бялізны, вопраткі, абутку. Сама Лідзія не была сведкаю такіх эпізодаў, але чула, што некаторыя цішком выкідвалі за борт цэлыя чамаданы.

Ужо ў Адэсе яны даведаліся, што адзін юнак перад прыбыццём у савецкі порт схаваўся недзе ў труме, і пасля непрацяглых пошукаў на яго як бы і забыліся. Цяжка сказаць, што паслужыла таму прычынай, але, хутчэй за усё, на цеплаходзе знайшоўся дабрадзей, які раскрыў хлопцу вочы на "светлую будучыню ўсяго чалавецтва".

Белы цеплаход спрытна рассякаў хвалі, якія тут жа злучаліся за яго кармой па Міжземным, а потым і Чорным моры. Толькі ніякая сіла не магла ўжо злучыць учарашняе жыццё гераіні нашага аповеду з тым, што чакала яе наперадзе. "Ма belle France" (мая любая Францыя) яшчэ доўга і няспынна будзе з'яўляцца Лідзіі ў снах і мроях.

З Адэсы сям'ю Камлачоў перавезлі ў Днепрапятроўск, дзе Іосіфу Мікалаевічу паабяцалі добрую працу па яго спецыяльнасці. Па прыбыцці аказалася, што працы ў горадзе практычна няма, але бацьку і сына Уладзіміра прынялі на вагонарамонтны завод. Праца была вельмі цяжкая, доўжылася па 10-12 гадзін у дзень.

Аднак гэта было не самае страшнае. Бацькоў і чацвёра дарослых дзяцей пасялілі ў цесным пакойчыку рабочага інтэрната, дзе ложкі ледзь памясціліся ў два паверхі. І гэта таксама можна было б перажыць. Самае жудаснае заключалася ў тым, што выдадзены бацьку з сынам рабочы паёк быў з'едзены літаральна за два дні. Пасля выключна неўрадлівага лета ў той год на Украіне здарылася надзвычай халодная зіма. Холад даймаў уцекачоў з цёплай Францыі больш, чым мясцовых жыхароў. Ад світанку да змроку Лідзіі, маці ды меншым братам даводзілася няспынна мерзнуць на вулічных кірмашах, але надта мала было ахвотных памяняць набор шыкоўнай бялізны на некалькі боханаў хлеба.

Адзін за адным члены сям'і пачалі пухнуць з голаду, моцна захварэў і не мог узняцца з ложка Іосіф-малодшы. Зразумеўшы, што ўсіх іх тут чакае непазбежная смерць, бацька дайшоў да самых высокіх інстанцый, дзе яго папрасілі зразумець цяжкасці пасляваеннага часу, якія былі аднолькавымі для ўсіх... ды пацярпець.

Дарам нябёсаў стаў ліст ад малодшага брата Арцёма, які жыў на бацькоўскім хутары. Бог, Якому ўсе яны няспынна маліліся, даў магчымасць атрымаць месца ў цяплушцы ды накіравацца ў Беларусь. Калі на зямлі і магчыма ўявіць сабе нешта абсалютна супрацьлеглае, але звязанае з паняццем "цяпло", то гэта, напэўна, быў той белы цеплаход ды гэтая цяплушка, у якой цяпла было на градус больш, чым на вуліцы. Усе думы былі засяроджаны на адным: ці не абарвецца вось-вось жыццё Іосіфа, які раз-пораз стагнаў, трацячы прытомнасць, трызніў.

Станцыя Гарадзея стала збаўленнем ад галоднай смерці. Брату Арцёму прыйшлося разгарадзіць хату на два пакоі. Не адразу "французы" прызвычаіліся да смуроду, які даносіўся з другой паловы будынка. Там стаялі каровы, авечкі, парсюкі ды штосьці з хатняй птушкі. Насельнікі "інтэрнацыянальнага" дома нязменна выказвалі падзяку Богу, што ў іхняе жыццё яшчэ не ўварваліся калгасы, якія непазбежна неслі за сабою голад ды ўсялякую нястачу.

Госпад зноў паказаў, што не пакідае без увагі адчайныя малітвы. І калі Іосіф Мікалаевіч, набраўшыся духу, зноў накіраваўся шукаць дапамогі да ўладаў, у Нясвіжы яму пайшлі насустрач: далі магчымасць купіць за банкаўскую пазыку дом у цэнтры пасёлка Гарадзея. Гэтая ладная будыніна, якая раней належала пісару гміны, адна з нямногіх ацалела падчас вайны. Стаяла яна ў прыгожым месцы, на высокім узгорку, што працягнуўся ўздоўж чыгуначнага палатна.

Неаднойчы з глыбокім сумам ды жалем жыхары гэтага дома ўглядаліся ў міжнародныя цягнікі, асабліва тыя, што, не спыняючыся ляцелі на захад. Сэрцы сціскаліся ад думкі: "Недзе там любая, родная, чароўная Францыя, якая ўжо паспела стаць недасягальнай ды нязбыўнай казкай!" Амаль заўжды не пакідаў дух жалобы сэрца маці Брані-славы Людвігаўны з-за таго, што толькі на адзін гадок прытуліў да сябе гэты дом яе сына Іосіфа, які адышоў у вечнасць ва ўзросце 22 гадоў.

Аднойчы, праўда, адбылася адна нечаканая падзея, якая ўскалыхнула душу Лідзіі і доўгія гады не сціралася з яе памяці. Гэта здарылася падчас міжнароднага фестывалю моладзі, які праходзіў у Маскве ў 1957 годзе. У тыя дні на станцыі Гарадзея зрэдку прыпыняліся цягнікі з замежнымі турыстамі. Яны рухаліся па-за агульных раскладах ды мусілі бавіць пэўны час на запасных рэйках. Звычайна нарады міліцыянтаў ачэплівалі тэрыторыю вакзала

і прайсці туды абы-каму было немагчыма. Але здарылася так, што Лідзія апынулася ля вагона, з якога пачалі выходзіць людзі, што размаўлялі на французскай мове. Калі яна звярнулася да адной жанчыны, тая была настолькі здзіўлена, што ледзь не страціла дар мовы.

- Вы француженка, жывеце тут?

Пасыпаліся і іншыя пытанні, ёй працягвалі нейкія сувеніры, запстрыкалі фатаапараты. І раптам нехта заспяваў: "En passant par la Loraine avec mes sabots..." [4]

Гэтая прыгожая, да болю знаёмая песенька, якую Лідзія ведала з самага ранняга дзяцінства, яшчэ гучала ў яе сэрцы, калі цягнік мінуў межы станцыі і знік удалечыні.

Далей рушыў усё той жа аднастайны ды сумны шэраг падзей. Дырэктар мясцовай сярэдняй школы прапанаваў ёй працу выкладчыцы нямецкай мовы. Потым нейкім чынам пра яе даведаліся ажно ў тагачасным Ленінградзе, запрасілі на працу ў Інтурыст. Але ў 1962 годзе занемагла Браніслава Людвігаўна, за ёю затрабаваўся пастаянны догляд. Праз дванаццаць гадоў з дома вынеслі чарговую, трэцюю, труну - з целам нябожчыцы-маці.

Для Лідзіі настала адно з самых страшэнных выпрабаванняў, якое можа спаткаць у жыцці чалавека - адзінота. Для суседзяў яна заўсёды была чужынкаю, хрысціян-вернікаў паблізу не было. Але самае галоўнае, што давала Лідзіі Іосіфаўне сілы,- гэта прысутнасць жывога Бога. Яна пастаянна малілася, чытала старэнькае, прывезенае з Францыі Евангелле.

Роўна праз паўвека Госпад даў ясны і зразумелы знак, што Ён прадугледзеў для гэтай душы штосьці сапраўды лепшае. Бог вывеў яе з адной краіны ў другую, адарваўшы ад ранейшага месца пакланення. Трэба адзначыць, што ў пратэстанцкай царкве, якую Лідзія наведвала ў Францыі, не праводзіўся абрад воднага хрышчэння. Пасля пакаяння людзі адразу прызнаваліся членамі абшчыны і маглі прымаць удзел у вячэры Гасподняй.

Цяжка сказаць, чаму на радзіме вялікага рэфарматара Ж. Кальвіна не спаўнялася "усякая праўда" (Евангелле паводле Мацвея, 3:15), але асабіста для Лідзіі Камлач яна споўнілася ў другім старажытным цэнтры пратэстанцтва - Нясвіжы.

Лідзія Іосіфаўна прызнаецца, што ў свае 75 гадоў яна не магла сабе ўявіць, як можна ўвайсці ў халодную рачную ваду. Але Бог цудоўнейшым чынам дабраславіў і надвор'е, і духоўны стан жанчыны. Яна не заўважыла ні холаду, ні якой іншай дакукі, а наадварот, адчула сябе як на крылах. Сэрца напоўнілася бясконцай радасцю: "Цяпер я сапраўды з Ісусам!".

Пасля малітвы я развітваюся з Лідзіяй Іосіфаўнай, абяцаючы наведваць яе як мага часцей. Словы "Дзіўныя ўчынкі Твае, Гасподзь" ажываюць у маёй памяці. Ды яшчэ прыгадваюцца словы самой Лідзіі Іосіфаўны: "А як жа цудоўна нам будзе там, на небе!" і яе вочы, якія пры гэтым свецяцца маладым, поўным жыцця агнём.

Прайшло яшчэ два дзясяткі гадоў. За гэты час Лідзію Іосіфаўну спачатку перавезлі ў сацыяльнае аддзяленне пасялковай больніцы. Першыя мае наведванні - пакуль сёстры ды санітаркі разабраліся ў чым справа - выклікалі цалюзны вэрхал амаль сярод усяго медперсаналу: "Зноў нейкі француз прыйшоў да французянкі!"

Неўзабаве абрынулася яе хата. Яе знеслі, а на прывабным вызваленым месцы ўзнялася крама па продажы кампутараў ды іншых электронных прыладаў. Старэнькая моцна гаравала аб родным котлішчы. Ніхто з сваякоў амаль што не наведваў яе ды не цікавіўся яе лёсам. Аднойчы ў малітоўным доме нехта загаварыў пра тое, што Іосіфаўну збіраюца перавозіць у дом састарэлых, дзе ўмовы ўтрымання будуць непараўнальна горшымі, чым у бальніцы.

Галіна Міхайлаўна, сястра з гэтай царквы, якая чула тую размову, ішла дадому адна. Мінаючы будынак лякарні, яна адчула, што нейкая іголка балюча кальнула ёй у сэрца. Яна ўзняла вочы, убачыла тужлівыя рады вокнаў і нечакана для сябе прагаварыла: "Не, мой Гасподзь, не пакіну гэтую душу, забяру бабульку да сябе".

Яна так і зрабіла, хоць многія і ўгаворвалі яе не ўскладаць на сябе такі велізарны клопат аб чужым чалавеку.

Летам 2014 года Лідзія Іосіфаўна адыйшла вельмі ціха, непрыкметна для усіх, змяніўшы сон зямны на сон вечны. Седзячы ля труны з яе схуднелым целам ды высахлым да непазнавальнасці тварам, я не мог стрываць слёз. У маёй галаве праносіліся думкі пра тое, як доўгія гады несуцешна сумавала яна аб любай радзіме, шкадавала аб першым каханні, неспазнаным замужжы ды мацярынстве, пакуль не ўзгадаў я словы з Пісання "…лёс чалавека - ад Госпада" ( Кніга выслоўяў, 29:26).

Дасканалая воля Божая праявілася ў тым, каб на самотным закаце жыцця вочы сястры Лідзіі ўрэшце засвяціліся маладым, поўным жыцця агнём і яна сказала словамі жывой веры: "А як жа цудоўна нам будзе там, на небе!"

Так, будзе! Да сустрэчы, сястра…

[4] Праходзячы па Латарынгіі ў драўляных чаравіках



***Міхась Сяўрук. Гутарка. 1965 г. Палатно. Алей.***



*Міхась Сяўрук. Жніво. 1937. Са збору Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь*